Starko,B. Nr.I343

---

"Marski Čort". Prygody njameckaga parusnaga krejsera.

Mensk-I927 god,.

"Der Meerstenfel".

Die Abeuteuer eines deutschen Segelkreuzers.

Antorisierte übersetzung aus dem Deutschen ins Russischen,

Minsk-I927.

Б. СТАРКО

# МАРСКІ ЧОРТ



ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

Б. СТАРКО



# „МАРСКІ ЧОРТ“

## ПРЫГОДЫ НЯМЕЦКАГА ПАРУСНАГА КРЭЙСАРА

Аўтарызаваны пераклад з нямецкай мовы на расійскую







ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК —— 1927



## ПРАДМОВА ПЕРАКЛАДЧЫКА

Сярод усяе рознастайнасьці вайсковых здарэньняў на моры, меўшых месца ў імпэрыялістычную вайну, прыгоды нямецкага парусната крэйсара—бяс сумненьня каляровая старонка. У эпоху напруджанага разьвіцьця тэхнікі, вялізарных ваенных караблёў, падводных лодак і самалётаў, ідэя зьвярнуцца да першабытных сродкаў марской вайны і знарадзіць у якасьці крэйсара, для нанясеньня ўдараў марскому гандлю супраціўніка, драўлянае парусное судно—ужо сама па сабе цікавая і заслужвае выключнай увагі.

Выпраўляючы ў мора парусны карабель, нікчэмна ўзброены, пазбаўлены ўсіх пераваг сучасных баявых суднаў, немцы разьлічвалі выключна на прынцыпы нечаканасьці, злучанай з схованасьцю, арыгінальнасьцю прыёмаў і ваеннай хітрасьцю. Быўшы камандзір „Марскога Чорта" мог у сваіх успамінах з гордасьцю падкрэсьліць, што яго камандзе ня прыходзілася ўжываць аружжа,—раптоўнае зьяўленьне нямецкага ваеннага сьцягу было досыць для поўнага перапуду супраціўніка. Пасьля ўцяканьня з ангельскага лягеру, адпраўляючыся на здабычу новага парусната судна, немцы запасьліся пугачамі і кулямётам, зробленым з бляхі газавых бэтонаў!

Калі ангельскі акіянскі параход, суняты „Марскім Чортам" у Атлянтычным акіяне, убачыўшы прад сабою нікчэмны парусьнік, парашыў было даць яму энэргічны адпор, ён быў хутка прыведзен да паслухмянства гіпнозам простай пагрозы—выпусьціць па ім тарпэду. Ніякіх тарпэдных апаратаў ня было і ў паміне на парусным судне, але страх паланіў усю каманду параходу.

„Марскі Чорт" упаўне апраўдаў ускладзеныя на яго чаканьні. Ён удачна прарваўся праз лінію ангельскай блёкады, таленавіта адурманіў ангельцаў, якія аглядалі яго на працягу паўтары гадзіны і ўтапіў за час свайго васьмімесячнага крэйсарства ў Атлянтычным і Ціхім акіяне звыш 40.000 тон няпрыяцельскіх комэрцыйных суднаў. Урэшце, судно было

ўзарвана сваёй камандай, якой потым у большасьці ўдалося пераправіцца ў адзін з нэўтральных партоў Чылі і Паўднёвай Амэрыкі.

Посьпех „Марскога Чорта“ залежаў у значнай ступені ад выключнага падбору і выдатных якасьцяй яго каманды на чале з камандзірам Фэліксам Люкнэрам. Асоба Люкнэра ўяўляе сабою настолькі няпрыгляднае зьявішча, што цяжка сказаць, з якога боку яго ўспаміны варты вялікай цікавасьці: як апісаньне пасьпяховых баявых прыгод паруснага судна ў наш век пары і электрычнасьці, ці як аўтобіографія чалавека несакрушымай энэргіі і сілы волі, прайшоўшага з юных гадоў суровую жыцьцёвую школу звычайнага матроса на парусных суднах і змогшага выпрацаваць з сябе выключны тып самародку ў духу гэрояў Джэка Лёндана.

Сын заможных бацькоў, уладаўшых графскім тытулам і вялікім маёнткам, чатырнаццацігодні Фэлікс Люкнэр ня можа ўкласьці сябе ў рамкі буржуазна-дваранскага ўкладу акаляючага жыцьця і прынаравіць сябе да мёртвай руціны школьнай зуброжкі. Спатыкаючы з боку бацькі толькі суровы пэдантызм і „палачныя“ настаўленьні, ён, гаручы палам да саматойнасьці і волі, адважваецца ўцякаць з дому і паступае юнгой на паруснае судно ў Гамбурзе. На працягу дзесяці гадоў ён то плавае кругом сьвету простым матросам на парусьніках, то хапаецца наўзгад за самыя рознавыглядныя профэсіі: судамойкі ў гасьцініьніцы, салдата „арміі абароны“, рабочага на лесапільні, паляўнічага на кэнгуру, вучня факіраў, баксёра, рыбалова, портавага рабочага, мэксыканскага салдата, проста брадзягі і г. д. і г. д. Нядзіўна, што яму прыходзіцца пераживаць неабмежаваную колькасьць самых рознавыглядных прыгод, апісаньне якіх па сіле сваёй жыцьцёвай фантастыкі можа сьмела сапернічаць з самымі захапляючымі старонкамі авантурных раманаў.

Сіла навыкаў ад спадчыны і „дваранскай“ крыві, аднак, у канцы канцоў даюць сябе ведаць, і малады граф Люкнэр, прайшоўшы ўвесь кругаварот жыцьця матроса і бясхатняй брадзягі, зьвяртаецца на ўлоньне тае грамадзкай клясы, з якой ён спачатку вышаў.

Перад вайною мы застаем яго ўжо афіцэрам ваеннага флёту, які марыць аб ваеннай кар‘еры і подвігах на славу

кайзэра Вільгэльма і пераможнага нямецкага імпэрыялізму. Выключна марскі вопыт, набыты не ў лакіраваных умовах кадэцкага корпусу, а ў суровай школе жыцьцёвай барацьбы, стварылі з яго чалавека, які мог узяць на сябе нябачаную задачу—камандаваць парусным судном, камандыраваным для прарыву ангельскай блёкады і крэйсарства ў акіяне. Задачу гэту ён выканаў з мастацтвам, лоўкасьцю і адважнасьцю, якія стварылі яму моцную славу і ўсеагульнае прызнаньне. Японскі адмірал, пажадаўшы яго асабіста бачыць у часе яго знаходжаньня ў турме ў Новай Зэляндыі, наўрад ці пераўвялічвае, вітаючы яго наступнымі словамі: „Я схіляюся перад вамі за тое, што вы зрабілі для вашай краіны. Мы будзем вучыцца ў вас, я хацеў-бы напісаць аб вас кніжку для нашага юнацтва. Такі звычай у нашай краіне. Наша моладзь павінна ствараць сабе натхненьне тым, што другія людзі робяць для свае бацькаўшчыны“.

Словы японца можна было-б ужыць у якасьці эпіграфа і да нашага выданьня кніжкі Люкнэра. Наша комсамольская моладзь, якая сьвежай плыньню ўліваецца штогодна ў шэрагі Чырвонага флёту, павінна пачытаць гэту кніжку. Няхай яна зможа ўзяць з яе настаўленьне—як многа можа зрабіць чалавецкая энэргія, непахільная воля і адважнасьць, нават пры самых няспрыяючых і, здавалася-б, немагчымых умовах. Няхай моладзь таксама пераканаецца на гэтым яркім прыкладзе, што як-бы ні было высока значэньне ведаў, набытых з кніжак, але без марскога вопыту, бяз жыцьцёвай вучобы і прыродных навыкаў да барацьбы са стыхіямі нельга выпрацаваць з сябе сапраўднага марака, якому суджана пакінуць чырвоны сьцяг з сярпом і молатам горда разьвявацца на ўсіх морах і акіянах.

У перакладзе кніжка Люкнэра падпала значнай перапрацоўцы і скарачэньню. Прапушчан шэраг апісаньняў і падрабязнасьцяй, цікавых хіба толькі для немцаў. Выкрасьлены таксама ўсе вузка-нацыяналістычныя разгалосьсі і „ўра-патрыётычныя“ ўсхваленьні нямецкага імпэрыялізму. Для нашага чытача падобныя разважаньні ні з якога боку ня цікавы. Яны даўно выкінуты ім у сьмяцьцёвую скрынку гісторыі.

**Б. Старко.**

Разьдзел I

# Як я зрабіўся мараком

У самы разгар сусьветнай вайны, у 1916—1917 г.г., мне давялося быць камандзірам парускага ваеннага карабля і весьці на ім бязьлітасную „пірацкую“ вайну з ангельцамі. Трэба думаць, што „Марскі Чорт“, так ахрысьцілі наша судно, быў апошнім парусным ваенным караблём у сусьветнай гісторыі. У наш век дрэдноутаў, падводных лодак, крэйсараў вялікай хуткасьці па хадзе, абароненых наймацнейшай броняй і ўзброеных магутнай артылерыяй, „Марскі Чорт“—драўляная, парусная шхуна з дзьвюма невялічкімі гарматамі, якая бясстрашна баразьніла на працягу году хвалі акіяну і наводзіла страх і жудасьць на ўсё гандлёвае судаходзтва саюзьнікаў, уяўляла сапраўды надзвычайнае прадстаўленьне. Пасьля ўсе дапытваліся ад мяне, якім чынам здарылася, што іменна на маю долю выпала такая нябачаная справа. Пастараюся зараз адказаць на гэта пытаньне, і раней, чым пачаць апавяданьне аб баявых прыгодах „Марскога Чорта“, пазнаёмлю чытача з папярэднасьцямі майго ўласнага жыцьця, якія стварылі з мяне паруснага марака, палкага да прыгод і гатовага да ўсякіх рызыкоўных мерапрыемстваў.

### Уцяканьне з дому

Прыдзецца пачаць з 3-й клясы Дрэзьдзенскай гімназіі, у якой я ўжо сядзеў другі год. Ня гледзячы на ўсе мае абяцаньні бацьком, я і на трэці год ня быў пераведзен у наступную клясу. Дома бацька мой вельмі злаваў. Бабка была больш мяккага нораву, яна не хваліла крутых бацькаўскіх распраў са мною і старалася ўжыць другія спосабы выхаваньня. У адзін

прыгожы дзень яна рашуча заявіла бацьку: „Я паспрабую выхаваць хлапчука ласкаю і каханьнем“. „Ты яшчэ больш сапсуеш гэтага балбеса,—прабурчэў мой бацька,—а між іншым, калі хочаш, паспрабуй“.

Бабка адвяла мяне ў бок, узяла з мяне абяцаньне, што я буду старанным, і абвясьціла мне, што за кожнае павышэньне ў клясе я буду атрымоўваць ад яе 50 пфэнігаў [1]). Такое даверра напоўніла мяне гордасьцю, і я стаў шчыра вучыцца. Але адметкі не паляпшаліся. „Нічога, нічога, дзіця маё,—казала бабка,—я заўважваю, што тваё самалюбства расьце“. Урэшце, у адзін добры дзень, я павысіўся на чатыры месцы. „Бачыш,— сказала бабка,—вось і ўзнагарода за тваё стараньні“. У выніку я атрымаў дзьве маркі. Потым я зноў панізіўся на два месцы, але бабка заспакойвала мяне і не адлічыла назад падараных грошай. Я хутка заўважыў, што такім чынам магу выйсьці з усіх маіх грашовых няпрыемнасьцяй. У мяне ня было асаблівага палу да нажывы, але мяне цягнуў спортыўны бок справы. Пры гэтым я хацеў купіць сабе пару трусоў, каб заняцца гадоўляй іх. Яны каштавалі 7 марак. Значыць, мне трэба было пераскочыць, прынамсі, праз 14 вучняў. І гэта мне ўдалося. Праўда, толькі на словах. Жаданьне атрымаць грошы канчаткова сапсавала мяне. Скачкі ўверх і ўніз рабіліся ўсё часьцей і адважней. Урэшце, я такім чынам зрабіўся нават „першым вучнем“.

Бабка наказала мне, пакуль што, нічога не казаць бацьку. Але, спаткаўшы аднаго разу дырэктара гімназіі, яна не змагла захаваць сваю гордасьць і запытала яго: „Ну, што скажаце цяпер аб Фэліксу? Хлопчык дзякуючы майму мэтаду з гэтымі 50 пфэнігамі, стаў нават першым вучнем. Я так шчасьліва“. Дырэктар быў надзвычайна зьдзіўлен: „Фэлікс першы вучань? Гэта бязумоўна недарэчнасьць. Загадчык клясы аб гэтым ніколі не ўспамянуў. Я думаю, што Фэлікс паранейшаму апошні ў клясе“.

Бабка абурылася да крайнасьці. Прышоўшы дахаты, яна зрабіла мне самыя горкія дакоры і абвясьціла, што „ад сёнешняга дня паміж намі ўсё скончана“. Я аказаўся зноў адкінутым

[1]) Каля 25 капеек.

усімі ў сям'і, з такога паганца не чакалі больш нічога больш-менш прыемнага. Перад вялікаднем мне абвясьцілі, што я павінен пакінуць школу. Мае бацькі былі ў ад'езьдзе, са мной заставаўся толькі студэнт-рэпэтытар. У мяне хутка зьявіўся плян уцячы з дому і зрабіцца мараком. Аб марскім жыцьці ў мяне было цьмянае ўяўленьне, але існаваньне на сушы, пасьля ўсіх маіх мытарстваў у школе, мне надзвычайна абрыдла. Упяршыню мае марскія фантазіі разгуляліся, калі мне аднаго разу папалася ў рукі картка полудню пасажырскага параходу „Князь Бісмарк“. „Вось так смачныя рэчы ядуць на моры! Чаму не зрабіцца мне капітанам такога карабля?“ Даводзілася мне таксама чытаць аб заморскіх вандраваньнях разумнага Адысея, аб прыгодах Сындбада-марахода. Але гэтыя вялікія папярэднікі наўрад ці маглі даць мне—няўдачнаму трэцяклясьніку, які ня быў ні грэцкім, ні арабскім купцом, якія-небудзь карысныя парады. Аднак, пастанова была так ці інакш прынята...

Я сабраў усе свае зьберажэньні—каля 80 марак, захапіў таксама 40 марак з капілкі брата, пра сябе абяцаў іх з часам цягу яму аддаць, палажыў у сундучок усе неабходныя рэчы—паляўнічае адзеньне бацькі, рэвольвэр, кінжал і ў дадатак трубку, ціханька перапраўіўся на вакзал, забраўся я ў вагон 4-й клясы і адправіўся ў Гамбург. На вакзале ў Гамбургу мне кінулася ў вочы вялікая абвестка: „Начлежны дом „Канкордзія“. Ложак 50—75 пфэнігаў“. Такі прыют адпавядаў маім сродкам. Здаўшы насільшчыку з калёсцамі мой сундук, я накіраваўся праз увесь горад у мой новы прытулак. Вір гамбурскага гарадзкога жыцьця мяне зьдзівіў. Якіх нацыянальнасьцяй тут толькі ня было! Асабліва забаўлялі мяне нэгры ў ярkіх куртках, што стаялі для рэклямы каля ўваходу ў розныя ўвесяльваючыя ўстановы.

Наступнай раніцай я даведаўся, як наняцца на карабель. Аказваецца, трэба было спачатку адправіцца ў якую-небудзь судовую кантору. У першай-жа канторы мяне ахапіла расчараваньне. Мяне ахвотна згаджаліся прыняць, але патрабавалі, каб я прад'явіў дазвол ад майго бацькі, дакумант, які сьведчыў-бы маю асобу і патрэбную суму грошай для маёй экіпіроўкі. Тое-ж паўтаралі мне і ў другіх канторах. „Ну, думаў я,

застаецца самому прабрацца на які-небудзь карабель і пашукаць шчасьця“.

У той частцы гавані, дзе стаялі парусныя судны, высіўся цэлы лес высокіх мачтаў. Але як зараз папасьці на адзін з караблёў? Наўпрэкі маім чаканьням, яны ўсе стаялі ня ў набережных, а ў адлегласьці, на бочках. Мне растлумачылі, што ў будцы каля прыстані знаходзіцца яліччік, які зможа мяне перавезьці. На мой стук у вакно будкі вылезла фігура старога „марскога воўка“ і, даведаўшыся, што мне трэба, прынялася адвязваць адзін з яліказў, якіх тут знаходзілася досыць шмат. Мы вышлі ў гавань і падышлі да аднаго з парусьнікаў. Від высокіх мачтаў зблізку і думка, што прыдзецца лазіць так высока, мяне запужала. Некалькі заспакойвала дагадка, што парусы магчыма падымаюцца з палубы, пры дапамозе снасьцін. У сумненьні я задаў свайму спадарожніку запытаньне, ці павінны матросы ўзлазіць па мачтах уверх. „Вядомая рэч,—адказаў ён,—у гавані гэта ня так страшна, але калі карабель у моры, яго кідае і хіліць з боку на бок, тады справа іншая“. Цяжкі камень лёг мне на сэрца; высокія мачты расхаладзілі мой пыл. Агледзеўшы з усіх бакоў парусное судно, я папрасіў старога даставіць мяне назад на бераг і парашыў тут-жа адчыніць яму сваю душу. „Вось, што, сынок,—сказаў ён мне, выслухаўшы маё прызнаньне,—кінь ты ўсё гэта! Я прабыў 25 год на моры і больш не пайду, хіба што капітанам на маім лёгкім яліку. Хто твой бацька?“ Дазнаўшыся, што мае бацькі заможныя людзі, ён стаў горача раіць мне зьвярнуцца дамоў і прасіць прабачэньня ў бацькі: „Няхай ён табе накалоціць цэлы горб на сьпіне, а ты дзякуй яму за кожны ўдар“. Але я працягваў настойваць на сваей пастанове зрабіцца мараком.

На наступны дзень я прынёс яму чацьвяртуху жавацельнага тутуню і ўвесь дзень вучыўся ў яго галаніць (грэбсьці адным вяслом з кармы) на яліку. Хутка я так налаўчыўся ў гэтай справе, што мог самастойна перавозіць пасажыраў, пакуль мой стары варыў сабе ў будцы кофэ. Праз некалькі дзён мы канчаткова з ім пасябравалі. Але ён працягваў адгаварваць мяне паступаць на судно. „Мяне завуць Пэддэр, гавары мне „ты“, я пастараюся дапамагчы табе. Але ты не павінен пайсьці ў мора. Заставайся тут са мною“. Ён упэўніваў, што мяне ня

прымуць без дазволу бацькі і што патрэбна мець, прынамсі, 200—300 марак для экіпіроўкі. Але я заставаўся неўгамонным. Урэшце, на пяты дзень, раніцою, калі я к яму пры шоў, ён ужо здалёку махаў рукою мне і радасна крычаў. „Сынок, я карабель табе знайшоў! Перавозіў я рускага капітана на яго судно і запытаўся ў яго, ці ня хоча ён узяць з сабою разумнага хлапца. Капітан згадзіўся—толькі ты ня будзеш атрымоўваць пэнсіі. Зараз я адпраўлю цябе на рускую шхуну „Ніобэя“.

Рускі капітан зрабіў на мяне кепскае ўражаньне. Быў ён няпрыгожы, з жоўтым колерам твару, і з сваёй казьлінай бародкай напамінаў ні то Мэфістофэля, ні то Напалеона III. „Ты можаш ісьці з намі,—сказаў ён на ламанай нямецкай мове,—будзь заўтра раніцою на судне“.

Ён мне сапраўды не спадабаўся.

— Гэта ўсё роўна, дружок,—сказаў Пэддэр і пастукаў мяне па плячы.—Будзь то нямецкае, ангельскае ці рускае судно—у гэтым розьніцы няма, марская лямка адна і тая-ж усюды. Зараз, сынок, пойдзем у горад і выладзім цябе ў дарогу“.

У мяне заставалася яшчэ 90 марак. На іх ён купіў мне ўсё, што патрабавалася ў моры,—цёплае адзеньне, накідку, нож і доўгую трубку з запасам табаку. Як я быў горды! Але на марскі сундук і кісу (мяшок для рэчаў) грошай не хапіла. „Я дам табе свой сундук, з якім я плаваў 25 год па ўсім сьвеце. Я з ім шчасьліва праплаваў, няхай і табе ён шчасьце прынясе“.

Мы зьвярнулі ў вузкую, цёмную вуліцу ў адным з старынных кварталаў портавай часткі Гамбургу. Крутыя дрыўляныя сходы вялі да жыльля Пэддэра. „Ну, вось, сынок, цяпер мы і дома, заходзь, ня бойся“,—сказаў ён, адчыняючы дзьверы. Першае, што мне кінулася ў вочы у пакоі,—модэль вялікага трохмачтавага парусьніка. На столі вісела чучала лятаючай рыбы, на сьцяне ў рамках кавалак парусіны з намалёваным караблём, на камодзе стаялі розныя кітайскія цацкі і інш. памяткі спадарожжа. У кутку стаяла клетка з папугаем, які выглядаў ускудлачаным і таксама старым, як і сам Пэддэр. „Так,—зьвярнуўся Пэддэр да мяне,—яго прывёз я з Бразіліі,

але ён гаворыць толькі паіспанску"... Потым ён выцягнуў на сярэдзіну пакою сундук, павольна выклаў з яго ўсе рэчы і растлумачыў мне, што сундук не прапускае вады і ня тоне ў вадзе. Мы палажылі ў яго ўсё маё дабро і панесьлі яго ў гавань.

Усю рэшту дня я неадлучна правёў са старым. Ён адвёз мяне потым на судно, паказаў мне ложак, у якім я павінен буду спаць, паслаў сяньнік і даў мне апошнія парады: „Сынок, не забывай свайго старога Пэддэра і заўсёды памятай наступнае—адна рука для карабля, а другая для самога сябе"[1]). Судно зьнялося з якара, і буксір пачаў выводзіць яго з портавага басэйну. Стары Пэддэр усё яшчэ трымаўся на сваім яліку ў борту да самага выхаду судна з гавані. „Ну, сынок, далей ужо я не магу ісьці". І са сьлязьмі на вачох ён напасьледак мне пракрычаў: „Шчасьлівая дарога ў Аўстралію! Сынок мой, я ня ўбачу цябе больш, але ты мне дарагі, як родны".

Я хацеў яму штосьці адказаць, але сьлёзы сталі ўпапярок горла. Я не адчуваў разлукі з бацькаўшчынай, але цяжка было расставацца з маім старым сумленным маракам. Калі я потым расчыніў сундук, дзе ўсе рэчы былі так старанна ім укладзены, то заўважыў, што наверсе ўсяго ляжала яго фотографія з надпісам: „Не забывай твайго Пэддэра". „Не, мой стары, добры Пэддэр, мне ніколі не забыцца цябе!"

## На парусьніку

Я ні гуку не разумеў з таго, што гаварылі вакол мяне на судне. Капітан стаў хутка злосна глядзець на мяне; я, бязумоўна, выглядаў вельмі нікчэмным. Штурман, які гутарыў крыху паангельску, запытаўся ў мяне, хто быў мой бацька.

— Сельскі гаспадар,—адказаў я.

— Ну, у такім выпадку мы цябе зараз назначым у обэрінспэктары, ідзі за мною! Я з цікавасьцю чакаў растлумачэньня, што гэта можа быць за пасада. Мы суняліся каля сьвіннога стойла. „Ну, гэта то я змагу рабіць",—падумаў я.

[1]) Гэта значыць, калі будзеш працаваць наверсе, на мачтах, заўсёды трымайся аднэй рукою за рангоут ці такелаж.

— А потым быць табе дырэктарам аптэк з абодвух бартоў.

Гэтым назначэньнем абазначыліся, як я хутка даведаўся, гальюны. Мне прышлося азнаёміцца з уборнымі і трымаць усё ў парадку. Сьвіней нельга было выпускаць на палубу, трэба было ўлазіць у хлеў, каб наводзіць там чыстату. Сьвіньні чухаліся аб мяне, а памыі пры прыбіраньні пападалі ў боты. Хутка я пачаў выглядаць брудней саміх сьвіней. Мыла і ваду прыходзілася эканоміць. Мае дзьве пары нагавіц хутка сталі вельмі няцікавымі. Кожны пры спатканьні адштурхваў мяне нагою, ня робячы розьніцы паміж мною і сьвіньнямі. У дадатак яшчэ „аптэка“! Я стаў сам сабе праціўны.

Па мачтах я не асьмельваўся лазіць. Самае вялікае, на што я спачатку мог адважыцца, гэта ўзьлезьці на марс. Дрыжучы, чапляючыся за ванціны, я сыпыняўся на кожнай выбленцы і ўяўляў, што знаходжуся на галавакружнай вышыні. Адзін з матросаў аднойчы ўбачыў, як нязграбна я лажу, і закрычаў мне: „Так лазяць толькі старыя павары!“

Маё самалюбства было зьняважана. Лепш, думаў я, злазіць уніз, чым зноў пачуць што-небудзь падобнае. Мы стаялі ў гэты час на якары ў Куксгафэнэ і чакалі спрыяючага ветру. Трэба было, на чым-бы то ні стала, скарыстаць нашу стаянку ў ціхае надвор'е, каб асвойтацца з мачтамі. Урэшце, падзьмуў вецер, былі пастаўлены парусы, і мы пайшлі ў Аўстралію.

Нялёгкае было жыцьцё на судне. Працаваць прымушалі многа, кармілі дрэнна. Замест ранішняга кофэ, давалі гарэлку, у якой размочваліся сухары. Вельмі цяжка было таксама прывыкнуць да жорсткай саланіны.

Паступова я звыкся з караблём, асвойтаўся з працай матроса і навучыўся крыху гаварыць паруску. Штурман быў маім пакравіцелем, але капітан быў маім зласьнейшым ворагам. Я задаўся мэтаю, як бы там ні было, зарабіць і ад яго пашану.

У адзін прыгожы дзень мы спаткалі моцны шторм у Атлянтычным акіяне. Усе верхнія парусы былі зьняты. Штормавыя парусы зарыфлены, заставалася толькі зьняць грот-марсэль, каб судно спакойней трымалася на хвалі. У мяне мільганула думка паказаць капітану, як хутка усё гэта я прараблю,

і я пабег наверх аддаваць парус. Але тут якраз я і забыў словы старога Пэддара: „Адна рука для карабля, другая для сябе“. Парывам ветру парус напяло, як паветраны шар, я згубіў роўнавагу і паляцеў уніз. Па дарозе я спрабаваў быў ухапіцца за шкот, але снасьць каўзанулася ў мяне ў руках, апякла ўсю скуру, і я бухнуўся ў мора ў самага борту судна. Шчасьце яшчэ, што я не разьбіў сабе галаву аб палубу. Судно ішло з хуткасьцю 8-мі вузлоў. Мяне аднесла за карму і закруціла ў кільватарнай плыні. Я толькі бачыў, як мне кінулі ратавальны буй, і пачуў каманду на караблі: „Чалавек за бортам!“ Пасьля гэтага я патануў у хвалях і карабель зьнік з маіх вачэй.

Праз некалькі хвілін, якія паказаліся мне вечнасьцю, мяне выкінула на грэбень хвалі і я зноў убачыў карабель ужо ў значнай адлегласьці. Папасьці зноў на карабель нечага было і думаць. Мільганула адзіная надзея, што, магчыма, мяне возьме якое-небудзь другое судно. Як быццам у бязбрэжным акіяне параходы павінны былі праходзіць іменна каля таго месца, дзе я скінуўся! Вакол мяне кружыліся альбатросы. Гэтыя іспалінскія марскія птушкі зусім пераконаны, што ўсё, што плавае на паверхні вады, прызначана ім для яды. Яны сталі кідацца на мяне, і адзін альбатрос хапіў клювам маю выцягнутую руку. Я зрабіў у сваю чаргу адважную спробу—схапіў яго за шыю. Ад баязьні ўтапіцца, стараешся ўхапіцца за ўсё, хоць-бы нават за птушку... Але альбатрос глыбока параніў дзюбаю маю руку, рубец ад якой да гэтага часу служыць мне ўспамінам аб гэтым марскім паядынку.

Я скінуў боты і плашч, але ніяк ня мог адрабіцца ад фуфайкі, якая наскрозь прамокла. Тут прыпомніліся мне словы маёй маткі, сказаныя ёю аднаго разу з поваду маіх імкненьняў да мора: „Ня кепскую будучыню ты сабе рыхтуеш, даб'ешся ты таго, што пападзеш на корм акулам“. У гэтую хвіліну, як успомніў я гэта прароцтва, адна мая нага выпадкова зачапіла другую. Страшэнны жах апанаваў мяне. Паказалася, што акула спрабуе схапіць мяне за нагу. Нэрвы мае ня вытрымалі, я згубіў сьвядомасьць. Прачнуўшыся, я ўбачыў шлюпку, якая высока падымалася перада мною на грэбнях хвалі. Яна гатова была ўжо прамільгануць міма мяне.

— Тут, тут!—закрычаў я наколькі хапіла моцы. Гэта быў наш штурман. Мяне выцяглі з вады ў шлюбку. Матросы пачалі грэбсьці назад да судна. Я быў увесь абліт крывёю з раны. Штурман, выслухаўшы маё апавяданьне аб паядынку з альбатросам, растлумачыў мне, што птушка спасла мне жыцьцё, бо паказала ім месца, дзе мяне шукаць.

Матросы былі рады, што ім удалося выратаваць мяне, але я моцна непакоіўся,—ці абрадуецца капітан, атрымаўшы мяне зноў да сябе на судно. Ён хадзіў узад і ўпярод на юце, перапоўнены злосьцю і, заўважыўшы мяне, моцна закрычаў: „Праклятьі немец, жадаў-бы я, каб ты ўтапіўся! Паглядзі, у якім выглядзе парусы з-за тваёй нікчэмнасьці".

Шлюпка падышла к борту, але вось тут і пачалася самая цяжкая задача—падняць шлюпку на судно. Калі судно апускалася на хвалі, шлюпку высока падымала ўверх і, наадварот, калі карабель падымаўся, шлюпку зацягвала ўніз. Ня было ніякай магчымасьці закласьці талі. Я быў у такім нэрвовым узбударажаньні, што калі шлюпка параўнялася з фальшбортам судна, я пераскочыў на палубу і ў няпрытомнасьці там паваліўся.

Шлюпку так і не ўдалося падняць наверх, яе разьбіла ў шчэпкі, каманда саскочыла ў ваду і яе прышлося выцягваць на вяроўках.

Капітан узяў бутэльку гарэлкі, прыставіў яе мне да зубоў і зароў: „Пі, нямецкая брыдота!" На наступную раніцу я чуць апамятаўся. І да гэтага часу яшчэ дрыжыкі прабягаюць пры ўспаміне аб гэтым жудасным дні.

Мне апавядалі потым, што калі я кінуўся за борт, штурман моцна скамандаваў: „Дабравольцы, на шлюпку!" Але капітан не хацеў і думаць аб выратаваньні мяне, ён і ня быў на гэта абавязан, бо адпраўка шлюпкі была зьвязана з небясьпекаю для яе грабцоў. Узброіўшыся гарпуном, ён стаў пагражаць штурману, што распора яму жывот, калі той спусьціць шлюпку. „Паспрабуй, са мною ідуць дабравольцы",—адказаў спакойна штурман і, спусьціўшы шлюпку, ад'ехаў ад борту. Капітан выходзіў з сябе ад злосьці.

Наш шлях ішоў міма мысу Добрай Надзеі і, урэшце, мы прышлі ў Аўстралію. Маё першае плаваньне было скончана.

Нялёгка даўся мне гэты пачын. Зьвярнуцца назад у школу? Не. Раз ужо стаў валацугай, трэба прыглядзецца да жыцьця і пастарацца стаць на ногі ўласнымі сіламі.

### У шуканьні падыходнай профэсіі

У Фрымантле, порце ў Аўстраліі, дзе мы разгружаліся, я часта езьдзіў на бераг, пазнаёміўся там з матросамі нямецкага параходу і распрацаваў плян, як уцячы з карабля. Служыць бяз пэнсіі і цярпець зьдзекі капітана я болей не хацеў. Напярэдадні выхаду „Ніобэі“ ў мора я, з дапамогаю двух таварышоў немцаў, перавёз свае рэчы ў горад і не вярнуўся на карабель. Капітан не скарыстаў свайго права заявіць паліцыі аб маім зьнікненьні.

Мне ўдалося спачатку ўстроіцца пасудамойкаю ў гасьцініцы. Але гэта работа хутка абрыдла. У сьвяты, па вечарох, мне пападалася наведваць сходы членаў „арміі спасеньня“. Іх харавыя сьпевы і ў асаблівасьці грамафон, якога я раней ніколі ня бачыў, прыводзілі мяне ў вялікае захапленьне. Я парашыў запісацца ў „армію спасеньня“, даў абяцаньне ня піць алькоголю і ў хуткім часе, кінуўшы гасьцініцу, паступіў туды на службу. Мне спачатку даручылі перасыпаць нафталінам старое адзеньне, якое розныя благатворцы дарылі „арміі спасеньня“. У той-жа час мною карысталіся для рэклямы. На ўсіх сходах мяне садзілі на пярэдняй лаве і моцна абвяшчалі: „Мы выратавалі нямецкага марака, ён спачатку піў віскі, як рыба ваду“. Я хутка навучыўся ангельскай мове, пасьля чаго мне далі мундзір і даручылі распаўсюджваць друкаваныя заклікі. Але мала-па-малу гэта дзейнасьць надаела. Мяне пацягнула зноў на мора, і я заявіў сваім ратавацелям, што хачу зноў стаць мараком. Яны не супярэчылі, але ўгаварвалі мяне, з прычыны маёй маладосьці, няісьці ў матросы, а паступіць памоцнікам стоража маяка у порце Аўгуста.

Я быў вельмі рад маёй новай пасадай. Мне адвялі ў доміку каля маяка чысьценькі пакойчык і растлумачылі абавязкі. Яны былі простыя—раніцою чысьціць шыбы і рэфлектары маяка, а ноччу праз кожныя чатыры гадзіны перацягваць уверх гіры ад гадзіньнікавага мэханізму маяка. Днём мне дазвалялі зьмяняць старажоў і заставацца наверсе маяка, адкуль я мог

у бінокль аглядаць усё мора. Як надзвычайна добра было там наверсе, калі ў моры бушавала віхура.

Усё тут было мне па душы. У асаблівасьці-ж дачка аднаго з старажоў. Яе звалі Ева. Мы нават раз нявінна пацалаваліся. Гэта было заўважана яе бацькам. Паклікаўшы другіх старажоў, ён пачаў ламацца да мяне ў пакой, пагражаючы набіць мяне. Неабходна было хуткае рашэньне—адчыніць дзьверы і хутчэй—вон! Сказана, зроблена. Маім шалёным націскам зьняважаны бацька быў зьбіт з ног, і я досыць добра выратаваўся ўцяканьнем. Увечары, аднак, я цішком прабраўся да маяка і заўладаў адным з коняй, узамен якога пакінуў усю маю адзежу і іншыя рэчы. Усеўшыся вярхом на кані, я адправіўся шукаць сабе шчасьця. Для пачыну я прапрацаваў два тыдні на лесапільні ў ваколіцах порту Аўгуста. Сабраўшы невялічкую суму грошай, я зьвярнуўся ў горад, каб адтуль на параходзе перабрацца ў які-небудзь вялікі порт Аўстраліі і там зноў наняцца на парусны карабель.

На прыстані, дзе я чакаў параходу, побач са мною сядзеў паляўнічы, высокі нарвэжац, з карабінам і нязьлічанай колькасьцю патронаў. Ён пачаў мне апавядаць, як ён паляваў на кенгуру і колькі ён зарабляў на продажы скурак. Ува мне абудзілася палкасьць да вандроўнага вобразу жыцьця. Я ўгаварыў яго прадаць мне стрэльбу і патроны, аддаў яму ўсе мае грошы, у прыдачу яшчэ і гадзіньнік, і выправіўся ў глыбіню краіны.

Але апавяданьні нарвэжца аказаліся пераўвялічанымі. Дзе я толькі ні валачыўся—ні адзін зьвер не пападаўся мне насустрач. Пражыўшы некалькі дзён у якойсьці закінутай ляснай будцы, я зьвярнуўся потым у порт Аўгуста і прадаў свой карабін.

У гавань толькі што прышоў параход і прывёз цэлы табар факіраў. Яны адразу зацікавілі мяне. У сваю чаргу, даведаўшыся, што я „марак“, яны парашылі запрасіць мяне для разьбіўкі палатак, дагляду за коньмі і інш. Яны растлумачылі мне, што, уласна кажучы, яны таксама маракі, але толькі вандруюць па зямлі. Мяне заманіла прыгожасьць іх валацужнага жыцьця, ды к таму-ж яшчэ з імі было шмат індускіх дзяўчат з цёмнымі вачыма. Гэта канчаткова зрабіла

ўплыў на маё рашэньне зрабіцца вучнем факіраў, і я выправіўся з імі вандраваць па ўсёй Аўстраліі.

Усякімі хітрыкамі я стараўся поўнасьцю зразумець штукарства факіраў, але яны трымалі свае веды ў глыбокім сакрэце. Мне нічога не ўдавалася даведацца. У канцы канцоў я адважыўся дасягнуць сваёй мэты іншымі спосабамі і зышоўся з маленькай малайкаю. Спачатку яна была вельмі стрымана, але пасьля таго, як прайшло некалькі тыдняў, я ад яе усё-ж выпытаў тайну сякіх-такіх фокусаў. Цяпер мне было лягчэй сачыць за працаю саміх факіраў. Хоць я і быў толькі конюхам, але ўсё-ж паступова набываў як-бы налёт факіра. Уцяміць найбольш цяжкія фокусы факіраў для эўропэйца амаль немагчыма. Старэйшыя майстры гэтага мастацтва прывыклі, каб да іх адносіліся з асаблівай павагай і пашанаю і, уяўляючы сябе звышнатуральнымі істотамі, трымаюць сябе паасобна ад акаляючых. Двое старэйшын нашага табару з доўгімі барадамі і вышкаленай шматгадовымі практыкаваньнямі сілаю волі стваралі вялікае ўражаньне.

Мяне асабліва дзівіў заўсёды наступны фокус. Хто-небудзь падыходзіць да факіра,—і той у яго пытае: „Што гэта за пярсьцёнак ў вас? Ён вельмі каштоўны, асьцерагайцеся, каб ня згубіць яго. Да вы ўжо згубілі яго! Глядзеце, ён тут, у мяне!“ І факір паказвае пярсьцёнак на сваёй руцэ. Я часта бачыў гэты фокус, і дарэмна ламаў сабе галаву, шукаючы яго разгадкі.

Я правандраваў з факірамі праз усё аўстралійскае сухазем‘е, і ў Брызбане разлучыўся з імі. Мяне зноў пацягнула на карабель, захацелася зноў стаць мараком, да чаго мяне цягнула. Удалося хутка папасьці на ангельскую парусную лайбу. Неяк нядзельнай раніцай сядзеў я на беразе і мыў сваю бялізну. У гэты час да мяне падышлі трое прыгожа адзетых людзей і ўважліва разглядзеўшы маю мускулатуру, запыталіся колькі мне гадоў.

— Пятнаццаць,—адказаў я.

— Хочаце навучыцца боксу?

— О, так! Хто знаём з боксам, той ня так лёгка рызыкуе быць пабітым.

І я адправіўся ў школу бокса для іспыту. Мяне дакладна аглядзелі і прапанавалі мне бясплатнае абучэньне боксу

і 6 фунтаў стэрлінгаў (60 рублёў), з умоваю, што ва ўсіх спаборніцтвах я буду выступаць, як прадстаўнік Квінслэнда[1]). У Аўстраліі пільна шукаюць падыходных людзей, каб выпрацаваць з іх прызавых боксэраў. Мяне акружылі выключным даглядам і ўсім способамі разьвівалі маё цела. Пасьля трох месяцаў такой падрыхтоўкі мяне пачалі вучыць прыёмам боксу. Але, раней чым навучыцца наносіць удары, прышлося самому вынесьці іх не малую колькасьць, каб загартаваць усе часткі свайго цела, у асаблівасьці грудзі.

У школе я сябе адчуваў вельмі добра. У хуткім часе мяне павінны былі паслаць у Сан-Францыска для далейшага ўдасканаленьня. Але з мяне было ўжо досыць майго боксэрскага навучаньня, і я парашыў зноў зьвярнуцца да мора. Дзе-б н быў я, якія-б абставіны ні захаплялі мяне, імкненьне да мора заўсёды вяртала мяне зноў на карабель.

На гэты раз я паступіў на амэрыканскую чатырохмачтавую шхуну „Залаты бераг", якая хадзіла з Сан-Францыска ў Ганалулу з пераменным грузам цукру і лесу.

Гэта быў ідэальны час. Мне добра плацілі—40 даляраў (80 рублёў) у месяц і адразу прынялі матросам першай клясы. Але ў першы-ж мой прыход у Ганалулу, верны майму заўсёдшняму імкненьню к усё новым і новым шуканьням, я ўцягся ў авантуру, успамін аб якой да гэтага часу не асабліва прыемны.

На судне я пасябраваў з адным немцам-матросам. І вось, мы ўдваіх задумалі прамяняць сваё падначальнае становішча на караблі на больш самастойную профэсію. Жыцьцё рыбака здавалася нам вяршыняй усіх благ. Нам не хапала толькі патрэбнага судна. Трэба таксама стрэльба. Мы хацелі дзень лавіць рыбу, а дзень займацца паляваньнем. Пастаноўлена было прывесьці плян у выкананьне ў Ванкувэрэ[2]), куды мы павінны былі зайсьці на адваротным шляху з Сан-Францыска. Па прыходзе ў Ванкувэр, мы раздабылі карабін Вінчэстара і намецілі ўкрасьці шлюпку з бліжэйшага рабочага пасёлку Модэвіль. Мы правялі там увесь вечар і наглядалі, як туземцы сядзелі за агнямі на беразе. Вялікая колькасьць сабак спаткала нас заядлым брэхам. Душа ў мяне гатова была ўжо уцячы ў пяткі.

---

[1]) Паўночна-ўсходняя правінцыя Аўстраліі.

[2]) Выспа каля паўночных берагоў Канады.

З наступленьнем поўнай цемнаты ўдалося адвязаць адзін з чаўноў на беразе, пераправіцца да бліжэйшага паруснага судна і, ціха ўскарабкаўшыся на яго, падняць якар. Парусы былі раскладзены дзеля прасушкі; нам ня цяжка было хутка іх паставіць і адыйсьці ад берагу. Ветру амаль ня было; парусы яшчэ толькі паласкала. З берагу, аднак, заўважылі наш рух і падумалі, што судно з якарам дрэйфуе ў мора. Некалькі туземцаў селі ў шлюпку і пачалі грэбсьці ў наш бок. Што нам было рабіць? Урэшце, судно наша вышла з-пад завесы высокіх прыбрэжных скал і вецер надуў парусы. Мы адразу, як чэрці, ірвануліся ў мора. Туземцы прабавалі страляць з берагу, але нам удалося праскочыць міма і выйсьці ў бухту Сытль. Тут стаяў нямецкі парусьнік, які рабіў ахварбоўку знадворнага борту. Нямецкія матросы далі нам хлеба, сухароў і сьвінцовых бяліл. Размаляваўшы наша судно ў белы колер, мы пачалі займацца рыбнай лоўляй.

Заставацца на адным месцы нам не падабалася; мы былі пералётнымі птушкамі. Рыбацтва пагэтаму хутка апрыкрыла, і было вырашана неўзаметку даставіць судно назад у Модэвіль.

Але вось тут нас і накрылі і, як юных злачынцаў, перадалі ў выправіцельны суд. На шчасьце, суд аднёсься да нас ласкава, і мы адрабіліся некалькімі тыднямі пазбаўленьня волі. Калі-б ангельцы маглі думаць, які будучы талент хаваецца ў маладым піраце, яны, мабыць, працягнулі-б маё зьняволеньне да канца сусьветнай вайны.

## Матросам вакол сьвету.

Пасьля ўсіх гэтых няўдачных прыгод, мяне пацягнула зноў на бацькаўшчыну. Я наняўся на ангельскі парусьнік „Пінмор“ і на ім утварыў самае працяжнае ў маім жыцьці марское плаваньне—285 дзён бяз берагу—ад Сан-Францыска да Ліверпуля. Спачатку мы бясконца ляжалі ў дрэйфе з прычыны адсутнасьці ветру. У мыса Горна нам давялося доўга змагацца са штормамі. Самае няпрыемнае было тое, што харчаваньня ў нас мелася ўсяго на 180 дзён, у вадзе таксама быў недахоп, ды, апрача таго, вада прышла ў нягоднасьць, бо хвалі залілі вадзяныя цыстэрны. У дарозе 6 чалавек памерлі ад цынгі і соннай хваробы. Ва ўсіх распухлі ніжнія часткі цела.

Мы маглі ісьці толькі пад штормавымі парусамі—ніхто ня ў моцы быў працаваць на рэях. Карміцца прыходзілася з большага. Здавалася, што сам д'ябал пасяліўся на нашым караблі. Ні адно судно не пападалася на спатканьне. Ні адна дажджавая хмурынка не пасылала нам дажджу, усе хмары праходзілі міма. Каля выспы Сцылі (паўднёва-заходняя канцовасьць Англіі) нам раздалі апошнюю порцыю гароху. Калі, урэшце, у канале да нас падышоў буксір, мы спаткалі яго агульным крыкам: „Вады, вады!" Колькі мы ні пілі цяпер, усё нам было мала. Смага не зьмяншалася,—настолькі высушана было ўсё цела.

Пасьля двухтыднёвага прабываньня ў шпіталі, я разьвітаўся з судном і адправіўся ў Гамбург. Я добра зарабіў і сабраў шмат тысяч марак. Поўнапраўным матросам, горда прагульваўся я па гораду. Быў сьнежань месяц, час Гамбурскага кірмашу, калі наладжваюцца ўсякія народныя гульні. Тут быў і чэмпіён-барэц Ліпстуліан. 50 марак прапанавалася таму, хто яго пераможа.

Таварышы пачалі мяне падзадорваць:

— Хлапец, не прымушай сябе два разы паўтараць—ты-ж паддісьнеш пад сябе гэтага тыпа.

— Не, нярварта гэтага рабіць, мы—у Гамбургу.

Але Ліпстуліан, пачуўшы нашу размову, зазлаваў:

— Ну, ты, захапі толькі з сабой мяшок, каб было ў чым несьці твае косткі дахаты.

Гэты выкрык я палічыў за зьняважаньне і падняўся на падмосткі. Дырэктар балагану з радасьцю закрычаў:

— Калі ласка, шаноўная публіка, афяра знайшлася!

Ліпстуліан, як бык, пачаў круціцца з боку ў бок. Мне далі надзець фуфайку з чырвона-белымі палоскамі і пояс. Палатка пачала напаўняцца. Уваходную плату пасьпелі заразжа павялічыць.

Калі я вышаў у новым адзеньні на арэну, Ліпстуліан паглядзеў на маю мускулатуру і пачаў трымаць сябе больш сьціпла. Дырэктар балагану усё яшчэ крычаў.

Потым барацьба распачалася. Спачатку гэта барацьба была няправільнай, а проста проба сіл. Ён спрабаваў было прыцягнуць мяне да сабе і зваліць яшчэ да таго, як быў пададзен першы сыгнал. Гэта прывяло мяне ў шаленства. Я

пачаў насядаць на яго, але ня мог яго прыпадняць. Публіка пачала крычаць: „Ты-ж,—ганбуржац,—ты павінен справіцца!“ Якісьці боцман абяцаў мне 50 марак, калі я выйду пераможцам. Пры трэцім разе я падняў Ліпстуліана высока над галавою, перакруціў яго і кінуў на зямлю. Балаганшчык спрабаваў упэўніваць, што я не палажыў ворага на абедзьве лапаткі, але публіка ў абурэньні пагражала разьнесьці ўвесь балаган. Мне заплацілі грошы, праўда, усяго 20 марак, замест абяцаных 50, але я не хацеў падымаць панікі. Таварышы вынесьлі мяне на руках у бліжэйшую піўную, дзе я, у якасьці пераможца, павінен быў вітаць усіх выпіўкаю.

Пасьля двух тыдняў прабываньня ў Гамбургу, я наняўся на парусную шхуну „Цэзарэя“. Гэта было маё першае нямецкае судно. Мы зноў пайшлі ў Аўстралію, на гэты раз—у Мэльбурн. Капітан быў разумны марак, але скупы і дробязны да немагчымасьці. Ён сумесна з кокам імкнуўся ўрэзваць нам харч і ўсямерна выгадваць на харчы. Як ні стараўся яму дагоджваць у гэтым наш кок, але хутка яны пасварыліся з-за некалькіх шынак, якія мы „адбуксавалі“ з кладоўкі. Капітан думаў на кока, што той захаваў іх для сябе. Урэшце, кок надзвычайна разгневаўся і ў Ньюкасдле зьбег з карабля.

Такім чынам, мы засталіся бяз кока. Ніхто з каманды не хацеў заняць яго месца. Урэшце, капітан абвясьціў, што калі ніхто не жадае дабраахвот ўзяцца за камбуз, то ён вымушан будзе назначыць кока сваёй уладаю. Зьвярнуўшыся да мяне, ён запытаў;

— Фэлікс, ты ваду грэць умееш?

— Умею, капітан.

— Ну, тады шпар у камбуз! І глядзі, каб гарох не прыгарэў.

Я быў надзвычайна рад назначэньню, спадзяючыся дабрацца да ўсякіх смачных рэчаў у капітанскай кладоўцы. Малодшы штурман паказаў мне, што і як гатовіць і дзе браць харчы. Я паглыбіўся ў агляд кладоўкі і набіў сабе поўны жывот сьмятанай, сушанымі яблыкамі, варэньнем, апустошыў таксама дзьве банкі пікулей,—адным словам, падхарчаваўся ак сьлед.

У першы дзень я зварыў гарох. Ён удаўся, як лепш ня трэба. Праўда, я няпрыкметна ўсунуў туды костку ад вянд-

ліны і ўліў бутэльку чырвонага віна з капітанскіх запасаў. Капітан і каманда не змаглі нахваліцца: „Вось дык суп, Фэлікс; заставайся, брат, у камбузе, ты спэц гэтай справы“.

Пахвала прыдала мне самаўпэўненасьці, але ў наступны дзень гарох прыгарэў. Мне прыходзілася чуць, што ў такіх выпадках пускаюць у ход соду, але я ня ведаў, у якой колькасьці. „Ну, думаў я, чаго яе шкадаваць“! Усыпаў двое поўных прыгаршчаў і дабавіў яшчэ лішнюю бутэльку чырвонага віна. Усе зноў былі ў вялікім задаваленьні ад супу: „Фэлікс, сягоньня гарох яшчэ смачней, чым учора, ён як належыць разварыўся. Як гэта табе ўдаецца? Ты, Фэлікс, ураджоны повар“.

Але... у 6 гадзін вечару сода падзейнічала. Капітан быў тры дні хворы. Я выляцеў з камбузу, і на маё месца назначылі другога.

У хуткім часе пасьля гэтага здарэньня капітан парашыў прыгатаваць для сябе на каўбасы. Трэба было зашыць яе ў парусіну і абсыпаць вапнаю. Справа гэта была даручана малодшым матросам. Яны наогул лічацца больш сумленнымі і менш сапсаванымі. Такі жук, як я, неахвотна дапускаўся да падобнай працы. Але матросы атрымалі здалёку некаторыя таемныя паказаньні. Была расьпілена палка ад мятлы. Потым ад кожнай каўбасы адразаўся з абодвух бакоў кавалак і замест яго зашывалася дзеравяная балвашка. Капітан вёў суровы падрахунак усім 160 каўбасам, якія віселі ў кладоўцы, і задаволены часам прагаварваў: „Дзякуй богу, хлапцы, што вы яшчэ сумленныя людзі“. У далейшым ён павінен быў разупэўніцца ў гэтым.

У Мэльбурне мы здалі свой груз і, прыняўшы вугаль, пайшлі ў Калета-Вуона ў Чылі. Тут нагрузіліся салетрай і ўзялі курс, каб ісьці ў Плімут. У гэтым плаваньні я атрымаў званьне матроса першай клясы. У вахценным журнале было напісана, што я самастойна паставіў фор-брамсель.

Каля Фалкляндзкіх выспаў нас спаткаў вялікай моцы цыклён. Спачатку нам удавалася ўцякаць ад ветру. Судно добра ішло з падарожным штормам. Але чым больш узмацняўся шторм і бушавала мора, тым небясьпечней рабілася ісьці з ветрам. Мы рызыкавалі пазбавіцца магчымасьці зрабіць

паварот. Пры павароце на фордэвінд, як толькі ўпусьціш момант, судну пагражае гібель. Хвалі з кармы хлынуць на палубу і зьмятуць усё, што ім пападзецца на дарозе.

Мы воляй-няволяй працягвалі штармаваць па ветру, і перажывалі жудасныя хвіліны. Вялізарнейшыя хвалі набягалі ззаду і навальваліся на карму. Кожны міг можна было чакаць, што хвалі зальлюць карабель. Усе пэрліны і тросы, што меліся ў нас, былі звалены на юце, каб хвалі разбіваліся аб іх і трацілі моц націску.

Наша судно пад чатырма парусамі ішло з хуткасьцю 10-ці вузлоў, ня лічачы хуткасьці руху тых хваль, якія несьлі нас з сабою. Урэшце, мы вышлі ў цэнтр цыклёну, які, як вядома, доўгі час круціцца ў вядомым напрамку. Тут панавала мёртвая цішыня. Неба было ўсеяна зоркамі, але ў акаляючай далі мора з усіх бакоў бушавала і кіпела, як у катле. Неасьвядомлены ў гэтым думае, што ў цэнтры гураган мацней усяго. Зусім не,—тут поўная адсутнічаньне ветру, але небясьпека ад гэтага толькі ўзмацняецца. Разбушаваўшыяся хвалі гоняць з усіх бакоў да цэнтра ўсю масу вады, якая націскае на судно. З прычыны адсутнічаньня ветру, судно траціць ход і робіцца цацкай у віры хваль. Адзіны выратунак—гэта як можна хутчэй прайсьці праз цэнтр цыклёну.

То адзін, то другі борт судна закопваўся ў мора, і ўсё пытаньне было ў тым, як доўга вытрымае рангоўт і такелаж гэта жудаснае хістаньне з боку на бок. Ад шалёнага бортавага калыханьня мы пагублялі ўсе стэнгі. Пасьля поўгадзіннай нечалавечай барацьбы, якая літаральна вытравіла з нас ўсе сілы, мы, урэшце, прайшлі цэнтр гурагану.

Бура зноў зараўла з падвоенай сілай, і ўвесь такелаж, усе брам-рэі і марса-рэі грымнуліся ўніз, заблыталіся аб штурвал і павісьлі за бортам. Палуба была заліта вадою. Вецер раптам павярнуў на восем румбаў. Нам удалося якраз своечасова абрасопіць[1]) застаўшыяся рэі. Проста якімсьці цудам мы выскачылі з цыклёну. На палубе ўсё было зломана і стаяла ўверх дном, у трумах было поўна вады. На нашае шчасьце, мы доўга ішлі спадарожным штормам і дзякуючы гэтаму

---

[1]) З дапамогаю брасаў павярнуць рэі так, каб яны сталі ў дыямэтральнай плошчы карабля.

прайшлі значную колькасьць міль. Для карабля, які зьвяртаецца дамоў, гэта мела вялізарнае значэньне. Дзень і ноч прыходзілася зараз працаваць, спраўляць такелаж, выстрэльваць фальшывыя стэнгі, выкачваць ваду з трумаў і інш.

Пасьля 120-цідзённага пераходу мы, урэшце, прышлі ў Плімут. Уся каманда выпісалася на бераг, і толькі я і яшчэ двое засталіся на караблі. Частку новых матросаў нам прыслалі з Гамбургу, астатніх мы навербавалі ў Англіі. Але гэта ўсё былі качагары, якія ніколі яшчэ ня плавалі на парусьніку. Атрымалася жалкая каманда. У Плімуце мы прынялі у якасьці грузу, крэйду ў бочках. Груз гэты заняў мала месца, і ўся сярэдняя палуба заставалася свабоднай. Толькі ў кармовы адсек быў пагружан мыш'як—300 тон—у маленькіх бочках. Яны, дзякуючы сваёй цяжкасьці, таксама занялі малое месца грузавой плошчы. У агульным, такое разьмеркаваньне грузу павінна было няпрыемна адбіцца на стойкасьці судна на вадзе.

Капітан разьлічыў зрабіць тэрміновы рэйс ў Нью-Ёрк. Але штормы, адзін за другім, працягвалі нас прасьледваць, і мы павольна рухаліся наперад. Качагары не маглі ні стаяць на штурвале, ні спраўляцца з парусамі. Яны атрымоўвалі пэнсію больш нашай, а мы павінны былі рабіць за іх усю работу. Мы былі моцна ўсхваляваны і зрывалі на іх нашу злосьць. Нават юнгі, у абавязкі якіх уваходзіла прыбіраць жылыя памяшканьні, адмаўляліся рабіць прыборку ў кубрыку, дзе разьмясьціліся гэтыя „параходныя аслы".

Урэшце, напярэдадні каляд надвор'е ўпяршыню праясьнілася, падзьмуў спадарожны вецер. Пасьля доўгага перарыву можна было зноў паставіць брамсэлі. Дзіўна было мець, урэшце, палубу сухой. Капітан парашыў урачыста адсьвяткаваць каляды. Была створана елка з мётлаў і голікаў. Яе прыбралі рознакалернай паперай і ўсякай мішурай. Кожны атрымаў у падарунак фунт тытуню. У дадатак, капітан выставіў нам шынку і ендову з джонкай. Калі былі запалены сьвечкі, дэпутацыя ад каманды накіравалася на ют да капітана вітаць яго з сьвятам, пажадаць яму шчасьлівага плаваньня і прасіць прыйсьці палюбавацца елкай. Капітан пайшоў к нам на бак, кок вынес джонку. Мы ўсе стаялі напагатове з чаркамі, каб чокнуцца з капітанам. У гэты самы момант з носу нечакана налятае на судно „белы" шквал.

Яго завуць „белым“ таму, што набліжэньня яго нельга заўважыць. Ён налятае проста сьпераду. Судно атрымала задні ход, фор-стэньга паляцела на борт, за ёй грот-стэньга, на палубе паўнейшы пагром, уцалелі толькі мачты. Мы кінуліся да снасьці. З абодвух бартоў, справа і зьлева, зьвісаў такелаж. Капітан кінуўся к штурвалу, пад ім ляжаў паўмёртвы рулявы, увесь параненый. Ён памёр праз два дні. Пачалася адважная барацьба са стыхіяй. Тапарамі пачалі абсякаць канцы. Парусы на ніжніх рэях, адзіныя, якія ўцалелі, прыходзілася выносіць на вецер, каб як-небудзь даць ход судну. Пасьля 4-х гадзін катаржнай работы мы дасяглі таго, што карабель быў у некаторай ступені ў нашых руках. Трэба лічыць цудам, што пры гэтым ніхто ня быў забіты ці змыты хвалямі, што перакачваліся праз усё судно, якое згубіла здольнасьць кіравацца.

Нанятыя ў Плімуце матросы залезьлі ў кубрыкі і пахаваліся там, як краты; злосьць супроць іх была такой вялікай, што яны не адважваліся больш выходзіць на палубу. Шторм стаў узмацняцца да ступені гурагану. Мы змагаліся ўсю ноч і ўвесь наступны дзень. На трэці дзень сярэдняя палуба ня вытрымала цяжару грузу і правалілася. Многія балты пусьцілі, і судно пачало цячы. Усе кінуліся перагружаць бочкі з мыш‘яком, большасьць з якіх лопнула. Мы зусім не аддавалі сабе справаздачы, якой небясьпечнай для нас была гэта работа. Распылены мыш‘як учыніў вялікія запаленьні ўсяго цела. Праз некалькі дзён уся скура ў нас распухла. Урэшце, бочкі з мыш‘яком былі прыбраны, і мы аддаліся зноў выключна барацьбе са стыхіяй. Судно мела вялікі дыфэрэнт на нос. У насавым труме было 3 футы вады. „Усе да помпаў!“—камандуе капітан. Мы пампуем з усіх сіл, але вада працягвае прабіваць, а шторм усё ўзмацняецца. Для падтрыманьня сіл прыбеглі к запасам сьпірытусу. Справіцца з працяканьнем было наўрад ці магчыма, але мы працягвалі, што было моцы, налягаць на помпы.

Раптам налятае праз палубу вялізарная хваля і зносіць увесь камбуз. Кок варыў у гэты час для нас кофэ і, каб самому крыху сагрэцца, сядзеў каля пліты, упёршыся нагамі ў каласьнікі. Яго змыла разам з плітою, катлом, рондэлямі і скрынкай з вуглем. У апошнюю хвіліну ён выкарабкаўся наверх, схапіўся

за трубу камбузу і, мабыць, клікаў аб дапамозе. У бушуючай буры мы не змаглі пачуць яго крыкі. Аб выратаваньні яго нечага было і думаць. У мяне да гэтага часу ў вушох словы, якімі навучаў яго знаходзіўшыся побач са мной стары матрос: „Трымайся мацней! Вуглю, каб дабрацца да д'ябла, у цябе-ж хопіць“.

48 гадзін прапрацавалі мы каля помпы. Але ня было прыкметна, каб вады станавілася менш. Наадварот, яна ўсё прыбывала. Усе канчаткова выбіліся з сілы. Гарэлка даканала нас. Мы былі няжывымі людзьмі.

Капітан спрабаваў пагрозамі зрабіць уплыў на нас: „Калі вы кінеце работу, я шпурну ў вас гарпуном!“ У гэту хвіліну з кармы раздаўся крык: „Палундра!“[1]) З-за помпы мы не маглі нічога бачыць, але чулі грукат набягаючай хвалі. Яна з такою сілаю навалілася на палубу, што 6 матросаў, якія працавалі каля помпы, былі падняты ў паветра. Двое ў тую-ж хвіліну паляцелі за борт, адзін быў прыціснут да вантаў, згубіў руку і быў зьнесен у мора. Аднаму раздрабіла чэрап, а цела другога раздробленымі косткамі перакачвалася ўзад і ўперад па палубе. Няшчасьце ня мінула і мяне. Хваля ўклініла мяне паміж сарваўшайся мачтай і махавым колам помпы. Нага была сьціснута так, што костка пераламалася. Выпампоўваць ваду больш ня было каму. Судно кідалася з боку на бок. Вада бурліла каля мяне, але прыціснутая нага не давалязала ўстаць. Я рызыкаваў утапіцца тут-жа, на палубе.

Пры дапамозе ламоў матросы адсунулі зваленую мачту, вызвалілі мяне і перанесьлі ў каюту капітана. Разрэзаўшы мой бот і агледзеўшы нагу, капітан спакойна сказаў: „Мы згубілі ўжо сем чалавек, больш мы ня можам губляць. Столяр, глядзі цяпер у абодва“. Ён старанна абвязаў маю нагу канцом тросу, правёў другі яго канец у блёк, прымацаваў яго ў высоўным яшчыку буфэту і прымусіў штурмана і столяра асьцярожна цягнуць за канец. Як вопытны майстар, капітан наглядаў за працадурай і камандаваў: „Націсьні мацней! Яшчэ крыху... Яшчэ разок... Вось так! Мабыць, нага зараз пастаўлена на месца“. Боль была нявыносная, але дзякуючы гэтаму „мар-

---

[1]) Што значыць—„беражыся“.

скому хірургічнаму прыёму“ ўдалося пазьбегчы няправільнага зрашчэньня касьці. „Зараз усё ў парадку,—заключыў капітан,— столяр, выдзеўбі сэрцавіну дрэва, зьмерай ікру і залажы яе ў лубкі“. Два выдзеўбаных лубкі, змацаваныя шрубамі, вельм добра трымалі мне нагу. Я мог стаяць і рухацца, не адчуваючы асаблівай болі, бо пункт апоры нагі быў перанесен да верху.

Паміж іншым, становішча судна рабілася ўсё безнадзейней. Нічога не заставалася рабіць іншага, як сесьці ў шлюпкі Адна шлюпка пайшла са штурманам, другая з капітанам. Кожная шлюпка скідалася за борт на доўгіх тросах, прычым у мора вылівалі ў гэты час масла, каб прыўняць хваляваньне. Матросы абвязваліся канцом, скакалі ў ваду і даплывалі да шлюпкі. Наступныя, трымаючыся за той-жа канец, плылі ім усьлед Калі ўсе перасяліліся ў шлюпкі, мы адплылі ад судна і толькі табанілі[1]) вёсламі, каб утрымацца супроць хвалі. Аб тым, каб грэбсьці ўперад,—нельга было і думаць. Прыходзілася табаніць вёсламі дзень і ноч, пакуль працягваўся шторм, бо інакш шлюпку перавярнула-б. Ня гледзячы на сваю зламаную нагу я ня меў права разьлічваць на якую-небудзь палёгку.

З харчоў у нас было толькі крыху сухароў, падмочаных салонаю вадою, і нязначны запас прэснай вады. Востры холад і шэраг бяссонных начэй да таго зматалі нас, што ўсе з палёгкай думалі аб сьмерці. Чатыры дні нам прышлося пераносіць гэтыя мукі. Урэшце, на чацьверты дзень паказаўся параход. Узьніклі радасныя надзеі. Да вясла прывязалі пару нагавіц, каб нас лягчэй маглі заўважыць. З напружаным чаканьнем пачалі мы глядзець на параход. Бачыць ён нас ці не? Мы ўжо гатовы былі ўявіць, што ён зьмяняе курс у наш бок, але пасьля доўгага чаканьня наступіла горкае расчараваньне. Параход усе больш хаваўся ад нас.

Капітан, вопытны марак, стараўся прыдаць нам бодрасьць: „Не адмаўляйцеся так лёгка ад жыцьця. Глядзеце на мяне— старога воўка! Трымайцеся, хлопцы, і ня траціце надзеі!“ Ён утрымліваў нас ад піцьця салонай вады, бо гэта толькі-б паскорыла нашу гібель. Мы адчувалі такую смагу, што смакталі пальцы, толькі-б выклікаць вылучэньне сьліны.

---

[1]) Грэбсьці ў адваротны бок, каб даць шлюпцы вадні ход.

На шчасьце, вецер некалькі сьціх. Частка людзей атрымала магчымасьць спаць, хоць-бы седзячы. Недахоп у вадзе і ўсе перажытыя пазбаўленьні настолькі нас змарылі, што мы ледзь маглі варушыць вёсламі. Мы ведалі, што калі дапамога ня прыдзе ў хуткім часе, мы ўсе загінем. Нараджалася думка кінуць жэрабя, каго першым прынесьці ў афяру, каб зьменшыць смагу яго крывёю. Кожны пра сябе абдумваў гэтую ідэю, але ніхто не асьмельваўся яе моцна выказаць. Утрымлівала жудасьць, што жэрабя можа ўпасьці іменна на самога сябе. Аж да вечару капітану ўдавалася рабіць уплыў на нас словамі перадкананьня. Але, урэшце, нам стала не па сіле, і мы парашылі выпіць адразу усю астачу прэснай вады. Будзь, што будзе, нам было ўсё роўна!

На наступную раніцу паказаўся зноў параход. Мы, наколькі было сіл, пачалі падаваць сыгналы. Урэшце, параход павярнуў на нас.

Крык радасьці вырваўся з нашых вуснаў. Мы выратаваны! Але ў тую-ж хвіліну нас пакінуў апошні пробліск энэргіі. У поўным аняменьні чакалі мы далейшага ходу рэчаў. Параход спусьціў шторм-трапы, чакаючы, што мы ўзьлезем да яго на борт. Але гэта было вышэй нашых сіл, мы не маглі нават падняцца на ногі і аддалі сябе цалкам нашым ратавацелям—няхай яны робяць з намі, што хочуць. Параходу прышлося спусьціць у ход стрэлы і паднімаць нас на стропах, як няжывы груз Але і гэта нас не разбудзіла. Ніхто не памятаў, як ён папаў на палубу параходу. Мы спалі 16 гадзін падрад, не аддаючы сабе справаздачы, дзе мы знаходзімся.

Калі разьбінтавалі маю нагу, яна была ўся чорная. Пачыналася, мабыць, гангрэна, але ад мяне гэта пастараліся захаваць.

Па прыбыцьці ў Нью-Ёрк, я папаў у нямецкі шпіталь. Малады доктар агледзеў костку, якая выступала наверх, і ў зьдзіўленьні пакачаў галавою, парашыўшы, што ў мяне гангрэна. Але на наступную раніцу прышоў стары профэсар і сказаў: „Не, нічога падобнага, гэта проста закупорка крыві. Толькі ад гэтага нага і пачарнела“.

Пасьля 8-мі тыдняў лячэньня я вышаў з шпіталю і паступіў на канадзкую шхуну „Лятаючая рыба“. Яна ішла ў Ямайку з грузам дрэва. Незадоўга да нашага прыходу туды я па не-

асьцярожнасьці, прыпадымаючы люк, зноў зламаў сабе нагу. Прышлося ў Ямайцы зноў легчы ў шпіталь. Калі мяне прынесьлі туды, на мне былі надзеты толькі нагавіцы, галяндка і адзін бот... Усё іншае засталося на судне. Спусьціўшы два тыдні, інспэктар шпіталю запытаўся ў мяне, ці пакінуў я якуюнебудзь маемасьць на караблі. „Так,—кажу я,—6 фунтаў (60 р.)". „Ну, добра",—адказаў ён. Але па справцы ў консульстве аказалася, што капітан перад выхадам пакінуў на маё імя толькі 3 фунты. Астатнюю-ж маю пэнсію і ўсе мае рэчы ён прысвоіў сабе. Я аказаўся амаль без адзежы і бяз грошай ў кішэні. Адміністрацыя шпіталю не зацягнула выкінуць мяне вон, і я, са зламанаю нагою ў гіпсавай перавязцы, апынуўся на вуліцы.

З дапамогаю палкі, з вялікай цяжкасьцю дабраўся я да берагу і парашыў тут абаснавацца. Тут можна было, па крайняй меры, прыкрываць сябе пяском. Але хутка ўзьнікла другое пытаньне: дзе дастаць яду?

Спачатку я карміўся какосавымі арэхамі. Але няхай сам чорт іх есьць, калі яму няма чым карміцца. Так я праіснаваў 2-3 дні. Урэшце, прышоў на параход.

Са сваёй клюкай і гіпсавай павязкай я пасьпяшыў прабрацца на параход. Шапкі ў мяне ня было, я быў нябрыты нямыты, твар мой так загарэў, што ўся скура зьлезла, валасы' віселі доўгімі пасмамі. Выгляд быў у мяне надзвычайна брыдкі.

Параход разгружаў вугаль. Я адшукаў штурмана і паспрабаваў з ім загаварыць. Але ён мяне спаткаў грубай ангельскай лаянкай. „Паглядзі" як ты выглядзіш, сьвіньня гэткая. Што табе тут на параходзе трэба?" Я быў ашарашан такім спатканьнем. Спусьціўшыся назад на прыстань, я захапіў з сабою пусты вугальны мяшок, сам ня ведаючы, што я з ім буду рабіць. На беразе я папрасіў якогасьці нэгра разрэзаць мне гіпсавую павязку. Але хутка адчуў, што дарэмна зрабіў гэта,—зваротнікавае сонца пачало прыпякаць мне нагу. Гэта ўчыніла катаржны боль. Вось тут вугальны мяшок, якім я ўвярцеў нагу, і аказаўся як ня трэба лепш. Ноччу ён служыў мне падушкаю.

Так правёў я тры наступных дні, кормячыся какосавымі арэхамі і бананамі. Чыкільгаючы па беразе невялічкай рэчкі, якая працякала па другі бок гораду, я напаткаў бамбу-

кавы гай. З краю стары нэгр выразаў бамбук. У мяне быў яшчэ цэлы мой матроскі нож, і я напрасіўся яму дапамагчы. Увечары ён мне даў 6 пэнсаў на яду. Я паспрабаваў расказаць яму свае апошнія прыгоды, але ён аднёсься да апавяданьня недаверліва і глядзеў на мяне вельмі падазрона. На мае просьбы ўстроіць мяне на начлег, ён пачаў барматаць, што вельмі мала ведае мяне. Урэшце, ён усё-ж згадзіўся прытуліць мяне ў хляве. У свой барак ён, аднак, не хацеў мяне пусьціць. Наступнай раніцай нэгр накарміў мяне маісам. Мы зноў прыняліся за рэзку бамбуку. У час работы я раптам заўважыў белы параход, які набліжаўся з мора. Работа была мігам пакінута, і я паляцеў у гавань. Кожнае судно, што ўваходзіла ў гавань, выклікала ў мяне надзею.

Прышоўшае судно аказалася крэйсарам „Пантэра“. Шмат матросаў ужо сышлі на бераг. Я зараз-жа парашыў завязаць з імі знаёмства. Прыблізіўшыся да аднае кучкі, сярод якой стаяў высокі матрос, каторы гаварыў з моцным саксонскім акцэнтам, я зьвярнуўся да яго на роднай мове, расказаў яму свае гаркоты і папрасіў даць мне крыху хлеба.

— Зараз я сьпяшаюся на карабель, але прыходзь сёньня ў 6 гадзін на прыстань.

Бяз чвэрткі ў шэсьць я ўжо чакаў на ўмоўленым месцы. Хутка прышоў мой новы знаёмы. Ен падаў мне цэлы каравай чорнага хлеба і сказаў, каб я прыходзіў за хлебам кожны дзень у гэты час. У мяне толькі хапіла слоў, каб яму сказаць: „Які ты добры хлапец!“ Але ў гэтым было ўсё сказана.

На наступны дзень ён прышоў да мяне зноў.

— Друг, ці можаш ты дастаць мне шапку ці, па крайняй меры, пару башмакоў?

— Заўтра нядзеля. Ты можаш сам прыйсьці на карабель.

Я пачаў адмаўляцца, але ён ўгаварыў мяне, і на наступны дзень я, як злачынец, прабраўся на судно. Матросы сядзелі на баку і пілі кофэ. Мне здавалася, што няшчасны валацуга папаў у добра абсталяны дом да заможных людзей. У гэты час паказаўся на палубе вахценны афіцэр. Ён убачыў мяне за сталом. Матросы ўскочылі з месц і выцягнуліся паваеннаму. Я таксама падняўся, спрабуючы захаваць свой вугальны мяшок. Пачуўся выкрык афіцэра:

— Вахценны!

— Ёсьць, гаспадзін лейтэнант!

— Выкіньце гэтага тыпа за борт, і глядзеце ў далейшым, каб падобная сволач не пападала на карабель!

Вахценны падышоў да мяне:

— Патурбуйцеся сыйсьці на прыстань.

Матросы, якія мяне ўжо крыху ўведалі, сталі нешта барматаць пра сябе, а адзін шапнуў мне:

— Фэлікс, павер майму слову, заўтра ты атрымаеш фартовае адзеньне... я ўкраду ў лейтэнанта яго штаны і шапку. Ты заўтра-ж іх будзеш мець. „Выкіньце гэту сволач за борт“. Гэтыя словы працягвалі зьвінець у вушох. Які быў мой унутраны стан! Пачуць родную мову, знаходзіцца пад нямецкім сьцягам і раптам быць выгнаным. З горкаю крыўдаю на сэрцы схаваўся я на беразе, каб ніхто ня мог мяне бачыць. А ў думках так і гарэлі словы зьнявагі: „Выкіньце гэту сволач за борт“.

Мае сябры з „Пантэры“ наклалі мне ў кішэні бісквітаў і загадалі быць заўтра ў шэсьць гадзін на прыстані. Я, бязумоўна, прышоў і атрымаў сваю буханку чорнага хлеба. У 10 гадзін вечару я павінен быў зноў прыйсьці. На гэты раз два матросы ў цемнаце перадалі мне парусінавыя башмакі, сінія штаны, марскую шапку, шкарпэткі, рубашкі і інш.

— Ну, Фэлікс, зараз прыадзенься, як патрабуецца.

Такой радасьці я ніколі не адчуваў. Зараз у мяне было зчаго пачаць новае жыцьцё. Я мог паказацца зараз на любы параход.

Шмат год спусьціўшы, калі я, па просьбе Вільгэльма II, расказаў яму гэты выпадак, ён загадачна паглядзеў на мяне і заўважыў прысутным: „Якая поэзія была-б для яго, каб ён зараз зноў папаў на „Пантэру“. Не прайшло і двух месяцаў пасьля гутаркі з Вільгэльмам, які я быў назначан камандзірам гэтага крэйсара.

Новае адзеньне дало мне адразу-ж месца ў наглядацеля набережных. Я павінен быў дапамагаць умацоўваць швартовы прыходзячых суднаў. Мне добра плацілі, харчу хапала. Я адрадзіўся маральна, і стаў зноў чалавекам.

Праз месяц я наняўся на шхуну „Нова Скотыя“. Яна хадзіла паміж Вэст-Індыйскімі выспамі. У адзін з рэйсаў мы зайшлі ў

порт Тампіка ў Мэксыцы. Ува мне зноў загарэлася імкненьне да бадзяжніцтва, і я з адным таварышом адпрасіўся ў капітана ў водпуск на некалькі дзён. Верхам на конях мы накіраваліся ў глыб краіны—у мэксыканскія прэрыі—і жылі там сярод каўбоеў, сярод мустангаў, нязьлічоных парод бізонаў, вучыліся кідаць ласо і інш.

Водпуск мы, бязумоўна, самавольна павялічылі, і пасьля звароту ў Тампіка ўжо не засталі свайго судна. Але нам было мала гора. У такой прыгожай краіне, як Мэксіка, варта толькі пайсьці на базар і прапанаваць паслугі насільшчыка, каб ня толькі зарабіць на харчаваньне, але і адкласьці пару срэбных манэт для прытону гульняў. Калі гэта бегатня з кошыкамі нам дадзела, мы запісаліся на ваенную службу. У Мэксыцы кожны можа быць салдатам. Навук ніякіх не патрэбна і сама служба лёгкая. Мне давялося некалькі раз стаяць на варце ў варот дварца, у якім жыў дыктатар Мэксыкі Парфірыо Дыаз. Аднак, і гэта служба нас не задаволіла. Мы дэзэртыравалі з арміі і паступілі рабочымі на пабудову чыгуначнага шляху. Тут мы таксама доўга ня ўтрымаліся. Урэшце, кончылі тым, што ў Вэракруц наняліся на нафтаналіўны параход. У Гаваньне я перайшоў на нарвэскі парусьнік, які хадзіў спачатку паміж Нью-Ёркам і Аўстраліяй, а потым пайшоў у Лівэрпуль. У часе гэтых плаваньняў я добра навучыўся размаўляць панарвэску, зусім ня думаючы, што ў далейшым гэта мне прыгадзіцца. З Лівэрпуля я папаў ў Гамбург.

## Зноў на школьнай лаўцы

У Гамбургу мне прышла думка трымаць экзамен на дыплём штурмана. Для гэтага неабходна было мець стаж плаваньня на параходзе. Я падаўся пагэтаму матросам на адзін з грузавых параходаў і плаваў спачатку ў Міжземным моры, а потым паміж Нямеччынай і Голяндыяй. Пасьля некалькіх месяцаў плаваньня, я змог ажыцьцёвіць свае мары аб далейшай марской кар'еры і паступіў у мараходную школу ў Любэку. Мне было ў гэты час ужо больш 20 год. Усе нашы старыя капітаны выбіліся ў людзі такім-жа шляхам. Школа—гэта тыя „вузкія вароты“, праз якія павінен прайсьці кожны мат-

рос, калі ён хоча прасунуцца наперад. Пасажыры ахвотней давяраюць сваё жыцьцё старому, выпрабаванаму мараку, чым якому-небудзь франту ў лакіраваных чаравіках.

Што азначае наогул марская адукацыя? Яна складаецца, галоўным чынам, з практычных ведаў, у ўменьні выйсьці з цяжкага становішча і змагацца са стыхіямі. Калі такелаж ляціць уніз і трэба вырашаць пытаньні—што рабіць, веды вышэйшай матэматыкі мала чаму дапамогуць.

У школе я сябе адчуваў спачатку вельмі прыціснутым. Як марак, я меў ужо шматгадовы вопыт і нешта ўяўляў сабою; у школе-ж я стаў зноў поўнаю нікчэмнасьцю. У дысцыплінах адрозьніваўся поўным невуцтвам. Я ня ўмеў граматна пісаць, ня ведаў літаратурнай нямецкай мовы і мог гаварыць толькі папростаму. Арытмэтыку мне давялося пачынаць з азаў. Я ня меў разуменьня аб дробах, не разумеў, што такое лічнік і назоўнік. Апрача заняткаў у школе, прыходзілася кожны вечар браць прыватныя ўрокі, каб паступова перамагчы трыгономэтрыю, навігацыю, астрономію і таму падобную прамудрасьць. Галава мая туга паддавалася вучэньню, і я гатоў быў прыйсьці ў роспач. Але ўпартай працай і стараннасьцю я ў 10 месяцаў настолькі падрыхтаваўся, што мог адважыцца трымаць экзамен. Цэлы тыдзень працягваліся гэтыя іспыты, і ў выніку я атрымаў так жаданую назву штурмана далёкага плаваньня.

## Афіцэр комэрцыйнага флёту

Пасьля экзамену я паступіў вахценым афіцэрам на параход „Петрополіс"—буйнейшай нямецкай параходнай кампаніі „Гамбург—Амэрыка". Узамен ранейшых кісі і паходнага чамадану, я заказаў сабе куфэрак і ўяўляў сябе сапраўдным капітанам. Я набыў сабе лайкавыя пальчаткі, бялізну, чаравікі, і да гэтага часу яшчэ прыпамінаю, як я купляў сабе першыя манжэтныя запанкі. Калі я ў сваёй новай форме прагульваўся па спардэку „Петрополіса", я адчуваў сябе маладым богам. Бо яшчэ нядаўна я быў простым матросам, павінен быў праціць мядзяшку і выконваць усякую чорную работу. Тым больш выразнай уяўлялася мне перамена ў маім лёсе.

Пасьля гадовага плаваньня на „Петраполісе“, я скарыстаў права паступіць вольнавызначаючым у ваенны флёт. Набыўшы ўпяршыню ў жыцьці білет другой клясы, я сеў у цягнік і адправіўся ў Кіль. Тут мне давялося правесьці год, спачатку ў казарме, а потым на ваенных суднах флёту. Урэшце мяне назначылі ў мічманы запасу флёту.

Далейшая мая служба на працягу двух год цякла на вялікіх камэрцыйных параходах Гамбургскай кампаніі. У вольны час я працягваў упарта займацца сваёй адукацыяй і рыхтаваўся трымаць экзамен на капітана далёкага плаваньня.

Частку свайго вольнага часу ў Гамбургу я любіў аддаць парусному спорту на Ніжняй Эльбе. Катаючыся аднаго разу на сваёй яхце, я ўбачыў парусны бот, які бездапаможна штормаваў. Уладар яго—кельнскі купец, як выявілася ў далейшым, зусім ня ўмеў кіраваць парусамі. Парывам ветру на боце зьбіла бізань-мачту, і нешчасьлівы „спортсмэн“ апынуўся ў вадзе. Калі я падышоў да яго на яхце, ён пасьпеў ужо схавацца пад вадою. Мне давялося нырнуць на значную глыбіню, каб злавіць яго. Я падняўся з ім на паверхню вады, але ў тую хвіліну, як я хацеў расправіць лёгкія і напоўніць іх паветрам, ён, дрыжучы, учапіўся ў мяне рукамі і нагамі. Мяне пацягнула разам з ім на дно. З вялікай цяжкасьцю вызваліў я ногі, адпіхнуў яго ад сябе і выплыў зноў наверх. У мяне ўжо стала цямнець у вачу, але, адпачнуўшы, крыху, я зноў нырнуў. Злавіўшы ўтопленіка, я доўга плыў з ім супроць цячэньня. Усё-ж такі дабраўся да берагу ракі. Тут сабраўся вялікі натоўп народу. У поўным зьнясіленьні я зваліўся на пясок і самлеў. Толькі праз гадзіну я апомніўся і мог паехаць да хаты. Выратаванага мною чалавека таксама ўдалося прывесьці ў сьвядомасьць.

Апавядаць аб падобных выпадках ратаваньня гінуўшых надзвычайна сумна. Я прывёў гэты выпадак толькі таму, што ён у маім жыцьці адыграў у далейшым вядомую ролю.

### Афіцэр ваеннага флёту

Увосень 1911 году я быў прыняты афіцэрам на сапраўдную службу ў ваенны флёт. Прычынай гэтаму паслужыў пяты па ліку выпадак, калі я выратаваў гінуўшага. Справа адбы-

валася ў Гамбургу, вечарам 24-га сьнежня. Я стаяў на прыстані ў чаканьні паравога парому. Пры цьмяным асьвятленьні портавых ліхтароў раптам мільгануў чалавек, які барахтаўся ў вадзе; я зараз-жа нарыхтаваўся кінуцца ў ваду, але наглядальнік мытніцы, які стаяў побач са мною, утрымаў мяне за рукаў: „Хіба ня хопіць з вас, што патоне адзін? Вы ашалелі кідацца ў такую ледзяную ваду?“ Я вырваўся з яго рук і скакануў уніз. Чорт вазьмі, у якім я апынуўся холадзе! Было $13^1/_2$ градусаў марозу. Як быццам распалены цьвік улез мне ў патыліцу. Мне давялося праплыць 25 мэтраў, каб дабрацца да чалавека, які тапіўся. На яго шчасьце, дзякуючы марозу і гарэлцы, ён акасьцянеў. Хто спакойна трымаецца на вадзе, той ня так хутка ідзе на дно. Я прыцяг яго да прыстані і толькі з дапамогаю мытніка мог ускарабкацца наверх. „Такі шалёны хлапец,—сказаў ён,—бо ня будзь мяне тут, вы ўтапіліся-б абое“.

Нас абоіх прывялі ў харчэўню, ухуталі ў цёплыя коўдры і пачалі ўліваць у нас пунш шклянку за шклянкай. Выратаваны мною чалавек аказаўся ангельскім матросам.

Гэта „калядная гісторыя“ была надрукавана ва ўсіх газэтах. Апавядалася, што я выратаваў ужо пяць чалавек, але да гэтага часу не атрымаў яшчэ мэдалі за ратаваньне гінучых. Гісторыяй зацікавіўся галоўны адмірал флёту прынц Гэнрых. Хутка пасьледвала запатрабаваньне—ці не жадаю я пастуціць на сапраўдную службу ў ваенны флёт. Я адказаў згодай і быў камандыраван на адзін з вялікіх караблёў для праходжаньня паверачнага курсу.

Прышлося зноў прыняцца за вучобу. Трэба было перамагчы ўсё тое, чаму марскія кадэты і гардэмарыны вучацца на працягу $3^1/_2$ гадоў. З маімі таварышамі і настаўнікамі я хутка пасябраваў, але ў мяне знайшлося шмат зайздросьнікаў. Адзін капітан другога рангу заявіў, што „ад сёнешняга дня флёт, як відаць, робіцца прытулкам для брадзяг, выгнаных з бацькаўскіх хат“. Гэта быў сапраўды першы выпадак за 60 год існаваньня флёту, каб такі чалавек, як я, быў прынят у якасьці афіцэра.

Пасьля гадовага іспыту пасьледваў загад аб маім канчатковым пераводзе ў флёт з назначэньнем вахценым афіцэрам на лінейны карабель „Прэйсэн“.

Спачатку было нялёгка. Мае таварышы па плаваньню зусім ня былі схільны садзейнічаць маёй далейшай кар'еры і зусім недаверліва адносіліся да мяне. З павышэньнем у старшыя лейтэнанты, я быў пераведзен на другі карабель і, урэшце, у 1913 годзе быў назначан камандзірам кананэрскай лодкі „Пантэра", на якой правёў каля году ў Заходняй Афрыцы.

Вясною 1911 году „Пантэра", як прабыўшая ў замежным плаваньні 3 гады, была накіравана ў Нямеччыну для чарговага ўводу ў док. У ліпені ўвесь рамонт быў закончан, мы вышлі з доку ў Данцыг і павінны былі ісьці па назначэньню. Але 17-га ліпня прышла нечакана тэлеграма: „Паход адмяняецца".

Хутка была абвешчана вайна.

---

Разьдзел II

# Вайна

Мобілізацыя пачалася 2-га жніўня. Ва флёце панавала надзвычайнае натхненьне. Але ў нас на „Пантэры“ настрой быў некалькі прыціснуты. На што мы былі годны з нашай слабай броняй і дзьвюма невялічкімі гарматамі? Спачатку нам было даручана ахоўваць мінную загарадзь, пастаўленую ў Лянгэляду. Гэта было ўсё-ж баявое заданьне, і мы ім на першы час задаволіліся. Усе хавалі надзею, што расійцы зробяць наступленьне супроць Кіля, і мы зможам прыняць удзел у баявых дзеяньнях. У далейшым мы атрымалі назначэньне абараняць выспу Арое ў Малым Бэльце. Увесь дзень нам прыходзілася кружыцца вакол гэтай выспы. Далейшае камандваньне „Пантэрай“ мне стала не па душы,—я ўсімі сіламі рваўся папасьці на вялікі баявы карабель.

Трэба было прыдумаць спосаб дабіцца сваёй мэты. Заставалася толькі сьпісацца з карабля па хваробе. Доктар, з якім я загадзя згаварыўся, пасьля дасканалага агляду, параіў застанавіцца на сьляпой кішцы. Былі прадугледжаны прызнакі пачынаючагася запаленьня. Мяне паслалі ў Кіль для опэрацыі. Шпітальны хірург абмацаў мне поласьць жывата і, паверыўшы маім словам аб болях, сур‘ёзна парашыў, што ў мяне запаленьне сьляпой кішкі. На наступны-ж дзень мне зрабілі опэрацыю. Пасьля яе патрабаваўся, бязумоўна, досыць працяжны адпачынак. Мяне адкамандыравалі пагэтаму з „Пантэры“ і ў далейшым назначылі на лінейны карабель „Крон-Прынц“, адзін з самых лепшых баявых суднаў. Такім чынам, цаною невялікай афяры—ні на што непатрэбнага мне адростку сьляпой кішкі—я дабіўся выкананьня свайго заветнага жаданьня.

На „Крон-Прынцы“ я паслужыў паўтара гады і ўдзельнічаў з ім у Ютляндзкай бойцы [1]), будучы камандзірам аднэй з башань буйнай артылерыі.

---

[1]) Славутая бойка паміж ангельскім і нямецкім флётамі. Адбылася ў ліпеві 1916 г.

## На парусны крэйсар

Хутка пасьля бою я быў назначан артылерыйскім афіцэрам на дапаможны крэйсар „Мэвэ“. Крэйсар стаяў у гэты час у Гамбургу і рыхтаваўся да новага паходу. У адзін з вечароў я сядзеў у гасьцёх у прыяцеля і за сяброўскай гутаркай расьпіваў з ім бутэльку швэдзкага пуншу. Я апавядаў яму аб маім даўнейшым жаданьні—па сканчэньні вайны праплаваць некалькі месяцаў на парусным судне ў якасьці капітана. Да гэтага часу мне гэта яшчэ не выпадала на долю. У гэты час служанка паведаміла, што прышоў ад'ютант з „Мэвэ“.

— Варта толькі распалажыцца крыху лепш,—прамармытаў я,—як табе пачынаюць дапякаць службай.

На маё імя была атрымана тэрміновая тэлеграма з галоўнага штабу.

— Што такое? З галоўнага штабу? Дзе разумныя сядзяць? Што ў мяне можа быць агульнага з гэтым штабам?

Мне належала на наступны дзень зьявіцца ў галоўны штаб. У стане нэрвовага чаканьня я адправіўся ў Бэрлін. Ніколі яшчэ сэрца маё ня білася так моцна, як у тую хвіліну, калі я ўваходзіў у габінэт начальніка.

— Ці берацеся вы прарвацца праз ангельскую блёкаду на парусным судне, якое будзе паслана ў якасьці дапаможнага крэйсара?

— Дазвольце мне кінуцца вам на шыю! Я ўсё юнацтва праплаваў на парусных суднах юнгай і матросам, я сапраўдны выхаванец паруснага карабля. Стаць зараз капітанам паруснага судна, якое к таму-ж будзе самастойным ваенным караблём, гэта мяжа маіх мараў!

— Што вы лічыце самым галоўным?

— Самае галоўнае—гэта шчасьце.

— Ну, у такім выпадку вы назначаны камандзірам „Пас оф Балмаха“.

„Пас оф Балмаха“ ў свой час плаваў пад амэрыканскім сьцягам і вазіў бавоўну ў Архангельск. У адзін з рэйсаў ён быў захоплен ангельскім крэйсарам і пасланы з прызавой камандай ў Кірквааль для агляду, але па дарозе быў захоплен

нямецкай падводнай лодкай. Амэрыканец-капітан, убачыўшы падводную лодку, разьлічыў, што яго судно, як ішоўшае пад нэўтральным сьцягам, будзе адпушчана. Пагэтаму ён засадзіў ангельскую прызавую каманду ў трум, а зброю выкінуў у мора. Падлодка паслала аглядзець судно.

— Куды вы ідзеце?

— У Архангельск.

— Але-ж гэты курс не на Архангельск. З чаго складаецца ваш груз?

— Бавоўна.

— Яна нам таксама прыгадзіцца! Нашы матросы былі пасаджаны на судно і яго накіравалі ў Нямеччыну.

Ангельская каманда вымушана была замест Кірквалля правандраваць інкогніто ў Куксгафэн. Толькі пасьля 4-х дзён галадоўкі яны асавелыя і змораныя вылезьлі наверх к вялічэзнаму зьдзіўленьню нашых матросаў, што знаходзіліся на судне. „Пас оф Балмаха“ стаў з гэтага часу нямецкім судном.

Судно знаходзілася ў Гэестэмюндзе, дзе перабудоўвалася пад кіраўніцтвам лейтэнанта Клінга. Ад яго я дазнаўся, як зарадзілася думка скарыстаць гэта судно для ваенных мэтаў. Клінг некалькі разоў, у дакладных пісульках адміральтэйству, даказваў перавагу парусных суднаў для крэйсарскай вайны, бо яны не залежаць ад вугалю. Адміральтэйства згадзілася з гэтым довадам, пасьля чаго выбар быў застаноўлен на трохмачтавай шхуне „Пас оф Балмаха“, якая, прызнацца, ужо прывыкла мець палонных ангельцаў.

Раней за ўсё трэба было захаваць ад портавых рабочых, што судно намячаецца ў якасьці дапаможнага крэйсара. Мы іх упэўнілі, што яно перабудоўваецца на вучэбны карабель, і ў той-жа час сталі выказваць думку, што было-б карысна паставіць на судно матор—гэта дало-б магчымасьць навучаць і маторнай справе. На памяшканьнях у палубах, намечаных для нашых будучых палоньнікаў, былі вывешаны надпісы вялікім шрыфтам: „Памяшканьне для сталькіх-та юнг“.

Мне самому нельга было выступаць у якасьці афіцэра і пагэтаму ў Гэестэмундзе я лічыўся інжынэрам фон-Экманам з марского міністэрства. Я прыяжджаў у порт толькі час-ад-

часу, каб назіраць за ходам работ на вучэбным судне „Вальтэр“. Усе цяжкасьці, зьвязаныя з устаноўкаю 1000-сільнага матору, былі бліскуча пераможаны. Для нафты быў пабудован трум зьмяшчальнасьцю ў 480 тон; апрача таго, былі пабудаваны цыстэрны на 360 тон прэснай вады. Судно было ў 5000 тон зьмяшчэньня ў вадзе. Харчу думалася ўзяць на два гады. Уся сярэдняя палуба намячалася для палонных,—іх магло свабодна зьмяшчацца 400 чалавек. Для палонных капітанаў і афіцэраў былі абсталяваны памяшканьні з асаблівым камфортам. Пад каюткампаніяй былі наладжаны каюты на двух ці трох чалавек кожная, з умывальнікамі і ўсімі выгодамі. Апрача таго, для капітана ўмелася асобная буфэтная і сталоўка. Для палонных былі запасены ангельскія і францускія кніжкі, грамафон і розныя гульні.

У той-жа час неабходна было раздабыць усе патрэбныя паперы і дакуманты. Гэта задача была зьвязана з вялізарнымі цяжкасьцямі. Трэба было адшукаць карабель, які як можна больш быў падобны на нашае судно. Лепш за ўсё, калі-б гэта было судно, намечанае для перавозкі лесу. Лес можа быць заўсёды пагружан на палубу, прымацован ланцугамі і, у выпадку варожага агляду, яго не ўбярэш. Такім чынам можна было зачыніць доступ да люкаў і да ўнутраных памяшканьняў, дзе будзе захован патаемны груз карабля. Пасьля доўгіх прац быў урэшце знойдзен падыходны нарвэскі парусьнік з поўнай асновай—„Мальлета“, які ў гэту хвіліну знаходзіўся ў Копэнгагене. Ён не павінен быў здавацца падазроным ворагу, бо меў назначэньне ў Мэльбург. Усе нашы карабельныя паперы трэба было зараз выправіць на „Мальлету“ і ня толькі паперы, але само судно павінна было ад гэтага часу мець падабенства з „Мальлетай“.

Баромэтры і тэрмомэтры былі выпісаны з Нарвэгіі, адтульжа дасталі фотографічныя карткі розных нарвэжцаў і маладых дзяўчат і вывесілі іх над ложкамі матросаў. Наш двайнік „Мальлета“ толькі што паставіў сабе ў Копэнгагене маторны шпіль для ўздыму якара. Нам давялося ўстанавіць такі-ж на палубе і занесьці ў вахцены журнал: „Сёньня ў Копэнгагене атрымалі ў Кнудсэна маторны шпіль і ўстанавілі яго“. На шпілі была прышрубавана дошчачка з дацкім надпісам—„Кнудсэн і К-о“.

Наступнай маёй задачай было падшукаць падыходную каманду. У нас павінна было быць дзьве каманды—адна сапраўдная, у склад якой адміральтэйства дазволіла ўзяць 64 чалавекі, і другая—„паказная,—каб разгуляць камэдыю“. Апошняя павінна была складацца з 23 чалавек, гаворачых панарвэску. Маторная прыслуга абучалася на падводных лодках у поўным няведаньні, куды яна будзе намечана. Я падбіраў выключна добрых маракоў, якія доўга плавалі на парусных суднах. У экіпажы, пры выбары людзей, я старанна распытваў кожнага, на чым ён плаваў. Калі чалавек плаваў на парусьніках, я выслухоўваў яго, але праходзіў міма з спакойным тварам. Калі, наадварот, пападаўся такі, што плаваў толькі на параходах, я зьвяртаў на яго асаблівую ўвагу і ставіў яму крыжык ў сьпісу. Пры такім спосабе ніхто ня мог дагадацца, з якой мэтай адміральтэйства прадаставіла мне права адбіраць усіх тых матросаў, якіх я палічу патрэбнымі. Я таксама не падаваў выгляду, што імкнуся вылавіць тых, хто раней хадзіў у Швэйцарыю і Нарвэгію.

Усе адабраныя былі зараз-жа адпушчаны ў водпуск дамоў, каб адцягнуць з іх кола таварышоў і гэтым пазбавіць магчымасьці займацца роспытамі і рабіць усялякія дагадкі.

23 чалавекі „паказной“каманды атрымалі ўсё сваё адзеньне з Нарвэгіі. Былі таксама набыты малюнкі з выглядамі нарвэскіх ландшафтаў для ўпрыгожаньня кают, нарвэскія кніжкі грошы і інш. Сэкстаны, карты, розныя блянкі, алоўкі, устаўкі для пер‘яў, консэрвы, боты,—адным словам, усё, што магло кінуцца ў вочы, павінна было мець нарвэскую марку. Не павінна было быць нічога нямецкага. У кают-кампаніі віселі портрэты нарвэскага караля і каралевы, і нават цесьць іх, ангельскі кароль Эдуард, спакойна ўхмыляўся са сьцяны. Тут-жа ляжалі падушкі саматужнай нарвэскай работы з вышытым нацыянальным гэрбам. Былі прыпасены лісты з Нарвэгіі на маё імя і на імя матросаў, бо, вядома, што кожны марак носіць у сваіх кішэнях заўсёды кучу лістоў. Мае лісты былі дзелавога характару, матроскія—любоўнага.

Мы павінны былі чакаць, што судно наша выклікае падазрэньне ворага, і ён захоча ня толькі праверыць дакуманты, але і грунтоўна агледзець каманду. Можна было думаць, што

афіцэр, утвараючы агляд, папросіць у капітана паперы якога-небудзь матроса і будзе задаваць яму пытаньні аб яго бацькаўшчыне, аб тым, якія ваколіцы такога-та гораду, ці існуюць чыгуначныя шляхі, як прозьвішча бургомістра, дзе жыве яго брат, дзядзька ці цётка, на якім судне ён плаваў тры гады таму назад, куды хадзіла гэта судно і г. д. Трэба было падрыхтавацца адказаць на ўсякае такое закавырыстае запытаньне. Фотографіі кожнага матроса павінны былі таксама мець нарвэскае кляймо. Адных фотографій колькі прышлося раздабыць! Бо нельга забыць ні жонкі, ні дзяцей, ні бацькоў кожнага матроса!

Самае цяжкае было з лістамі. Паштовыя маркі павінны былі быць са штампам Ганконгу, Гонолулу, Іокагамы і інш. Адным словам, усіх тых месц, дзе адрасат у свой час бываў і атрымоўваў гэтыя лісты. Патрабаваліся штампы са ўсіх краін сьвету. Сфабрыкаваць іх патрабавалася нямала працы. Трэба было, каб лісты выглядалі памятымі і пры гэтым не ў аднолькавай ступені. У нарвэскіх дакумэнтах і карабельных кніжках, якія мы дасталі, усе людзі былі вызначаны ў якасьці матросаў „Мальлеты“ і пры гэтым былі пералічаны ўсе караблі, на якіх яны раней плавалі. Для старога марака, праплаваўшага 15—20 год, трэба было прыдумаць цэлую біографію. Адзін ляжаў тады-та ў шпіталі, другі зламаў сабе ногу і г. д. Ва ўсім павінна была быць дакладнасьць і акуратнасьць. Калі, напрыклад, бацька Гэнрыха Ольсэна лічыцца ў кнізе памёршым, то ў яго павінны мецца лісты ад маткі і двух сясьцёр. Трэба было заклікаць на дапамогу ўсю вынаходлівасьць, каб зрабіць „Мальлету № 2“ вольнай ад усякіх падазрэньняў.

Заставалася прыдумаць баявое імя для нашай „Мальлеты“. Гэта было цалкам прадастаўлена мне і было самай галоўнай задачай! Спачатку я хацеў назваць яе „Альбатросам“, у памяць таго альбатросу, што спас мне калісьці жыцьцё. Але гэту назву насіў ужо мінны заградзіцель, зьнішчаны каля швэдзкіх берагоў. Тады я парашыў назваць наша судно „Марскім Чортам“.

Судно было гатова, усе паперы былі ў парадку, пробнае плаваньне на рацэ Вэзер упаўне ўдалося. Каманда зараз была выклікана з адпускоў.

У цёмную лістападаўскую ноч судно вышла з вусьця Вэзера і стала на якар у Нямецкім моры. У той-жа час уся

каманда была сабрана ў Вільгэльмсгафэне ў адлеглай частцы гавані. Пры сьвятле ліхтара я праверыў зьявіўшыхся людзей. Усе былі ў зборы. Мы селі ў паравы баркас і выправіліся ў дарогу. Ніхто з матросаў ня ведаў, куды і чаго ён адпраўляецца. Спачатку многія падазравалі, што мы ідзем у Гэльголянд, але ён хутка застаўся ззаду, і мы вышлі ў адчыненае мора. Урэшце, з цемнаты вымалёўваецца сілуэт паруснага карабля, які стаіць на якары. Баркас накіроўваецца да яго, і тут толькі ўсе здагадваюцца, што ім суджана быць камандай гэтага судна. Усе задаюць сабе пытаньні: „Што ўсё гэта павінна значыць?“

На палубе ня відно ніводнае гарматы, але за тое ў кармавым адсеку маецца матор. Частка каманды спускаецца на ніжнюю палубу. Тут абарудаваны прыгожыя жылыя памяшканьні. Былі прыкладзены ўсе клапоты, каб як можна лепш абставіць каманду. Было на мэце, што яна гадамі будзе далёка ад бацькаўшчыны. Замест падвесных гамакоў, для ўсіх меліся ложкі, для унтэр-афіцэраў была пабудована каюткампанія. Так званая „нарвэская“ каманда зьмяшчалася ў насавой частцы судна. Нарвэскія віды ў рамках, нарвэскія дзяўчаты, сьцены, размалёваныя нарвэскімі сьцягамі. Усё гэта выклікала агульную зацікаўленасьць. Урэшце, на кожнага мелася ў рундукох [1]) цывільнае адзеньне, што таксама выклікала розныя здагадкі.

Каб папасьці ў тую частку ніжняй палубы, дзе зьмяшчалася каманда, якая гаварыла выключна панямецку, трэба было спачатку прайсьці праз патаемныя дзьверы ў шафе і потым праз люкі, добра замаскаваныя на выпадак варожага агляду. Люкі гэтыя былі прарэзаны ў палубе пад ларамі з дажджавым адзеньнем, з голікамі, швабрамі і інш. Лары былі выбраны большага разьмеру, каб ў выпадку неабходнасьці ў іх маглі захавацца 6-7 чалавек і адразу выскачыць на верхнюю палубу. Усё, што магло быць падазроным—дзьве старыя гарматы і ўся ваенная вылада—было захована ў трумах.

Каманда не пасьпела добра аглядзецца на караблі, як была пададзена каманда: „Усе наверх, з якара здымацца!“ Мы вышлі ў мора і зайшлі за выспу Сюльт. У гэтым прытулку

---

[1]) Шафа са скрынкамі для хаваньня рэчаў.

ніхто ня мог нас бачыць. Усякія зносіны з берагам былі перарваны. Тут на працягу 8-мі дзён былі зроблены ўсе апошнія падрыхтаваньні і растлумачана камандзе задача нашага судна. На верхнюю палубу быў пагружаны лес. Яго штучна расклалі, каб перагарадзіць, наколькі магчыма, доступ ва ўнутраныя памяшканьні судна.

У мачтах, над палубай, былі зроблены патайныя дзьверы. За імі ў выдзеўбленай пустоце ляжалі маўзэры, ручныя гранаты і вінтоўкі, а таксама ваенныя марскія шапкі і бушлаты. Дзьверы адчыняліся з сярэдзіны, пры дапамозе схованай спружыны, і знадворку ня былі прыкметны.

„Нарвэская“ каманда павінна была грунтоўна вывучыць свае ролі. Кожны атрымаў сваё нарвэскае імя і падрабязна азнаёміўся з месцам сваёй бацькаўшчыны,—усе неабходныя весткі былі ўзяты з даведачнікаў і іншых кніжак. Фотографіі і шматлікія лісты былі раздадзены на рукі.

Усё было прыведзена ў поўную гатоўнасьць, мы чакалі толькі спрыяючага ветру, каб выйсьці ў мора. Раптам паступае радыё: „Ня выходзіць, чакаць пакуль зьвернецца падводная лодка „Дэйчлянд“. Ангельская блёкада была, з прычыны паходу ў Амэрыку гэтай гандлёвай падводнай лодкі, значна ўзмоцнена.

Мы чакаем дні, чакаем тыдні. „Мальлета“, падабенства з якой мы дамагаліся са ўсіх сіл, выходзіць з Копэнгагена і як-бы ўцякае ад нас! Што зараз рабіць? Увесь плян разваліўся. Мы хацелі выйсьці на дзень раней „Мальлеты“ з такім разьлікам, што калі ангельская блёкадная абарона запросіць па радыё-тэлеграфу Копэнгаген, адтуль павінен паступіць адказ, што „Мальлета“ сапраўды вышла ў мора. Радыё-тэлеграфная разьведка была для нас самай небясьпечнай перашкодай. Трэба было яе абыйсьці як-бы там ні было. Гэта тэхнічная дапаможная зброя сучаснай вайны найбольш ускладняла нашу ваенную хітрасьць.

Адзіным для нас выхадам было зьвярнуцца да Ллойд-Рэгістра [1]), у якім значыліся ўсе судны адпаведна іх велічыні і асаблівым уласьцівасьцям. Мы маглі падабраць сабе любое

---

[1]) Выдаваемы марскім таварыствам „Ллойд“ у Англіі—падрабязговы папулярны даведачнік усіх комэрцыйных караблёў.

судно, але як праведаць, дзе яно знаходзіцца? Па разьмерах і іншых даных у нас было больш усяго падабенства са шхунай „Кармоэ“. Ітак, прыходзілася спыніць свой выбар на ёй.

Чаго толькі каштуе перамяніць карабельныя паперы! Імя ўласьніка караблёў, час пабудовы, верф, даўжыня, шырыня і аснова судна, розныя асаблівыя весткі, разрад па страхаваньню,—усе гэтыя лічбы павінны былі быць пераменены ў дзесяці розных дакумантах. Пры гэтым нідзе не павінна было быць заметна сьлядоў, што лічбы перапраўлены. Урэшце, гэта больш ці менш удалося. Пры не асабліва яркім асьвятленьні дакуманты мелі звычайны від.

Але чаму усё гэта магло служыць, калі мы ня ведалі, дзе знаходзіцца судно. Выпадак падштурхнуў нас перагледзець апошнія нарвэскія гандлёвыя газэты, якія мы ўзялі з сабой для бутафорыі. У аднэй з іх, у аддзеле „Рух караблёў“, мы прачыталі: „Кармоэ“ адведзена ў Кірквель для агляду. Не вязе, як праклятаму! Хоць пачынай усё спачатку! Рашучасьць аўладала намі. Новых дакумантаў мы не маглі дастаць, бо ў нас ня было сувязі з берагам. Усё роўна! Я ўпарты оптыміст. К чорту Ллойд-Рэгістр, ёсьць яшчэ другі, ён лепей і ніколі не падвядзе, гэта „рэгістр каханьня“! Ірмай звалі маю каханку, „Ірмай“ няхай завецца і наш карабель! Гэта павінна прайсьці!

„Кармоэ“ падчышчаецца, падчышчаецца і „Ірма“; усё-ж астатнія весткі і лічбы застаюцца бяз зьмены. Дубальтовая падчыстка назвы кідалася, аднак, моцна ў вочы: літары расплываліся. Што рабіць? Тут магла дапамагчы толькі самая грубая рука на караблі.

— Столяр, прынясеце сякеру і высечце ўсе ілюмінатары ў каюце!

Зьзяючыя дзіркі ад высечаных ілюмінатараў былі груба забіты дошкамі, як гэта прынята рабіць пасьля папсаваньняў, зробленых штормам. У каюце разьвешваецца мокрая бялізна, і ўсё, не выключаючы сяньнікоў і выдвіжных скрынак, залівaецца цэлымі вёдрамі вады. Трэба было быць паступовымі і нічога не пакідаць сухім. Карабельныя дакуманты былі завернуты ў мокрую прапускную паперу, каб усе атраманты расплыліся. Можна было-б тады нічога ня тлумачыць ангельцам— разьбітыя ілюмінатары і вада ў каюце гаварылі самі за сябе.

Выканаўшы ўсё гэта, мы пачалі чакаць дазволу выйсьці ў мора. Урэшце, 19-га сьнежня прышоў мінаносец і перадаў мне запячатаны пакет. У ім быў загад: „Выйсьці ў мора па свайму прадугледжаньню".

## Прарыў блёкады

Зараз мы маглі самі сабою распараджацца. Радасьць на судне была ўсеагульнай. Злосныя прадчуваньні, якія гатовы былі зарадзіцца ў нас, зьнішчыліся. Усе толькі з вялікім жаданьнем чакалі зюд-вэставага ветру.

20-га сьнежня былі яшчэ раз праверанны, ці ўсе падрыхтаваны, агледжан увесь такелаж і паўтораны ўсе ролі на выпадак варожага агляду. Усе палубныя памяшканьні былі абшуканы, каб выпадкова не засталося нічога нямецкага. Мы адзін перад другім, па чарзе, гралі ролю ангельскага афіцэра, які аглядаў карабель. Мае хлопцы грунтоўна экзаменавалі і мяне самога.

— Дзе вы купілі гэты аловак?

— Я набыў іх цэлы тузін ў Хрысьціаніі.

— Ці ёсьць у вас сёстры?

Я павінен быў усіх іх пералічыць і г. д. у тым-жа духу. Трэба было прадугледзець усе магчымасьці. Мы не павінны былі выпускаць з віду, што ў выпадку няспрыяючых ветраў мы маглі тыднямі кружыцца ўзад і ўперад у раёне блёкады паміж Англіяй і Нарвэгіяй.

21-га сьнежня падзьмуў лёгкі зюд-вэставы вецер. Якары былі падняты, руль выпрабаван, матор прагрэт і яшчэ раз усё агледжана. Мы прайшлі пад маторам вузкі праліў паміж выспай і сухазем'ем і, вышаўшы ў мора, паставілі парусы. Пагода была хмурная, халодная і няпрыветлівая, у моры было лёгкае хваляваньне. Былі пастаўлены ўсе парусы—2600 квадратных мэтраў парусіны. Поўным ходам прайшлі мы ўздоўж нямецкага берагу і мінулі перадавую лінію нямецкай вартаўнічай абароны.

У 10 гадзін вечару мы былі ўжо ў Хорнсрыфа[1]). Адсюль мы пайшлі ўздоўж дацкіх берагоў. Да 8-мі гадзін раніцы мы

[1]) Плывучы маяк ў Паўночным моры у 40 мілях к захаду ад дацкага берагу.

павінны былі падыйсьці да выхаду з Скагэраку, каб у ворага стварылася ўражаньне, што мы сапраўды вышлі з нэўтральнага порту. Але вецер крута павярнуў на поўнач. Што рабіць? Далей на поўнач вецер нас ня пушчаў; назад мы не хацелі; справа быў бераг, зьлева мінна поле. Заставаўся адзін выхад—паспрабаваць прайсьці праз мінныя загарадзі. Адважнае рашэньне—лепшая мудрасьць. Ітак, лева на борт! Уся каманда наверх у ратавальных паясох! Шчасьце нам не зьмяніла. Мы прайшлі паміж радамі мін і вышлі ў адкрытае мора. Вецер стаў мацнець. Мы ня прытрымліваліся нарвэскіх берагоў, а пайшлі проста да берагоў Ангельшчыны.

Дзень 23-га сьнежня яшчэ па сёнешні дзень памяцен па тэй буры, якая ўсхадзілася каля берагоў Нямеччыны. Нам давялося таксама адчуць моц гэтага ураганну. Паўднёвы вецер, які аднёс нас на значную адлегласьць ад Нямеччыны, раптам павярнуў на зюд-вэст, і баромэтр рэзка зьнізіўся. Вецер з кожнай гадзінай мацнеў і, урэшце, дайшоў да сілы шторму. Усе парусы былі зарыфлены. Шторм даваў нам магчымасьць выпрабаваць наша судно; ён, апрача таго, спрыяў нашаму намеру прарваць у гэтую ноч галоўную лінію блёкады. Мы працягвалі ісьці наперад пад аднымі штормавымі парусамі. Судно мела настолькі моцнае нахіленьне, што ўвесь падветраны борт быў у вадзе. Рухацца на палубе ня было магчымасьці, прыходзілася аберучма чапляцца за штормавыя леeры. Усё гнулася і скрыпела. Мачты, здавалася, гатовы былі зламацца, увесь карабель дрыжэў ад удараў хваль. Мы павінны былі, аднак, усё перамагчы, рызыкнуць усім, каб скарыстаць вецер, які зьявіўся для нас нябесным дарам. Нават калі-б увесь такелаж зваліўся нам на галаву, гэта ня было-б так жудасна, як варожы агляд нашых падчышчаных папер. Бура завывала ў снасьцях. То тут, то там іrваліся шкоты ў верхніх парусох. Парусіна адрывалася ад шкаторыны, і раней, чым пасьпявалі ўмацаваць парус, ён ужо быў разарваны на кавалкі, якія ветрам несла высока ў паветры. Мы імчаліся з хуткасьцю 15 вузлоў.

У 11 гадзін вечару была пройдзена першая лінія блёкады. Усе біноклі былі накіраваны ў цемнату ў вялікіх стараньнях адшукаць вартаўнічыя караблі. Стан быў самы напружаны. Ніводнага карабля ня было відно. Падзеньне баромэтру па-

служыла ворагу знакам перасьцярогі, і ён знайшоў патрэбным схавацца за ангельскімі выспамі і быць захаваным ад небясьпекі. Адно толькі судно адважна ішло наперакор буры— гэта быў „Марскі Чорт“. Ён храбра прарэзваў хвалі, пакідаючы за сабою белы, усьпенены струмень вады. Матор, парусы і бадзёры дух—усё штурхала судно наперад. Што за дзіўнае адчуваньне! Усё мацней разгульваўся шторм, усё з большай сілаю націскаў вецер на рангаўт і такелаж; фардуны, ванты і брасы [1]) сьвісталі і дрыжалі, як нацягнутыя струны.

Карабель меў вялікі нахіл. Стаяць на палубе было нельга, можна было толькі сядзець на фальшборце, трымаючыся моцна рукамі. Вялікае нахіленьне нам было ні пачым, нам маглі быць небясьпечны толькі хвалі, але і яны не маглі прынесьці нам шмат шкоды,—бо мы ішлі пад аховаю берагоў Англіі. Наш дэвіз быў:—Прарвацца, як-бы там ні было!

Мы ішлі адрозьніваючымі агнямі: з правага борту зялёны, з левага—чырвоны. Трэба было паказаць, што сумленьне ў нас чыстае. Хвалі з рэвам набягалі з кармы, залівалі ўсю палубу і, як вадаспад, скідаліся праз падветраны борт у мора. Абое рулявых былі прывязаны да штурвалу. Усё бесьперастанку дрыжэла ад напору ветру. Кожныя чатыры гадзіны мы праходзілі градус шыраты. З гадзіньнікамі ў руках мы вылічвалі: адна лінія блёкады пройдзена, зараз мы павінны мінаваць наступную, а сёньня ўначы ў 12 гадзін мы падыдзем да галоўнай вартаўнічай завесы паміж Шатляндзкімі выспамі і Бэрганам. У палове 12-ай ангельцаў ня было яшчэ відаць, праз 15 хвілін—таксама не, у поўнач, таксама не. Ітак—мы праходзім праз галоўную лінію вартаўнічай блёкады. Але што значыць гэта блёкада, калі нікога няма? Прайшло яшчэ чвэртка гадзіны, поўгадзіны—вораг не зьяўляўся. Вецер быў нашым саюзьнікам.

Мы разважалі так: просты шлях ёсьць самы кароткі. Калі мы, карыстаючыся штормам, пройдзем паміж Шатляндзкімі і Оркнэйскімі выспамі, то мы тым самым выгадаем некалькі міль. Ітак, наперад, простым курсам!

---

[1]) Фардуны—снасьці стаячага такелажа, якія ўтрымліваюць з бакоў стэнгі; брас—снасьці бягучага такелажу, пры дапамозе якіх паварачваюць рэі.

У той-жа час, калі мы хацелі легчы на выбраны курс, вецер зайшоў на восем румбаў к вэст-норд-вэсту. Гэта было для нас як-бы папярэджаньнем: тут табе, „Марскі Чорт“, не прайсьці! Нас пачало адносіць на поўнач да самай Ісляндыі. Мы не маглі нічога рабіць. Прыходзілася скарыцца ветру і плысьці усё далей на поўнач. Лепш загразнуць у льдох і ў сьнягу, чым зьвяртацца да Шатляндзкіх выспаў, дзе вартаваў вораг, ці апынуцца блізка Кірквалля[1]).

Пачаў адчувацца жорсткі холад. Вышаўшы з Гольфштрому[2]), мы папалі ў вобласьць, дзе дзень працягваўся ўсяго поўгадзіны. Сонца падымалася ў 11 гадзін і ў палову 12 ужо зьнікала. Мора рабілася ўсё больш грозным, хвалі перакачваліся праз карабель, і вада замярзала на палубе. Увесь нос судна хутка пакрыўся льдом. Снасьці так абледзянелі, што не праходзілі праз блёкі. Мы спрабавалі ўсімі спосабамі адтайваць іх, але нішто не памагала. Ніжнія парусы, на якія пападала вада, зацьвярдзелі, як дрэва. Патаемныя люкі прымерзьлі, 40 чалавек каманды апынуліся замкнутымі ўнізе, а 24 чалавекі, што зьмяшчаліся наверсе, не змаглі папасьці да сваіх ложкаў.

Чатыры з паловаю дні мы праіснавалі на верхняй палубе! Агульная напруджанасьць не дазваляла думаць аб сьне. Пальцы не разгіналіся, а губы зусім акасьцянелі ад холаду. Уся палуба была пакрыта лёдам, нідзе нельга было стаяць на нагах. Куды ні глянеш—усюды лёд; адзінае, што нас падтрымлівала,—гэта гарачы грог з ромам. Кожны, час-ад-часу, заходзіў у камбуз і атрымоўваў шклянку гэтай гарачай вільгаці. Яна выпівалася залпам, пасьля чаго ўсё цела адчувала прыемную цяплыню, і чалавек як-бы ажываў. Як мы былі ўдзячны таму, хто вынайшоў гэты напітак. Нядарма ў Гамбургу яго завуць „лёдаколам“. Толькі зараз я зразумеў сапраўднае значэньне гэтага слова.

Мы вымушаны былі прадаставіць карабель самому сабе, бо ні адна снасьць не паддавалася рукам. Дзіўнае адчуваньне—знаходзіцца на абмёрзлым судне і ня быць больш мараком, а бездапаможным пасажырам, залежачым цалкам ад стыхіі.

---

1) Портавы горад на Аркнэйскіх выспах, куды ангельцы адпраўлялі ўсе комэрцыйныя караблі, затрыманыя для агляду.

2) Цёплая плынь, якая ідзе да Эўропы ад берагоў Амэрыкі.

Адзіная наша надзея была на тое, што вецер пяройдзе на поўнач. Урэшце, гэта так і здарылася. Мы маглі павярнуць на поўдзень, паступова, з дапамогаю сякер і ламоў, вызваліцца ад нашага ледзянога цяжару і пачаць кіраваць судном. Паставіўшы ўсе парусы, мы накіраваліся паміж Фарэрскімі выспамі ў Атлянтычны акіян.

### Агляд ангельскім крэйсарам

Наступіла 25 сьнежня. Мы ўяўлялі, што ўсё ўжо пераможана,—блёкада прарвана, суровыя маразы мінулі, а наперадзе шырокае мора і баявая дзейнасьць. Але, вось, раніцай у дзевяць з паловаю гадзін з марса перадаюць: „Параход з кармою!“

Што за параход? У гэтых месцах гэта можа быць толькі крэйсар. Я ўзлажу наверх і ясна адрозьніваю—вялікі дапаможны крэйсар. Што за няўдача пасьля ўсяго нашага шчасьця! Набліжаўся сур'ёзны іспыт, мы маглі зараз сябе канчаткова асароміць.

— Падрыхтавацца да маскіроўкі!

Гэта азначала: тыя, што не размаўляюць панарвэску павінны былі ў форменным адзеньні са зброяй ў руках заставацца пад палубай. Падрыўныя патроны павінны былі быць закладзены ў насавым патронным пограбе, у маторным аддзяленьні і ў кармавым адсеку, дзе хаваліся выбуховыя матэрыялы. Выканаўшы гэта, людзі зьбіраліся групамі ў патаемных люках.

Але зброя пускалася ў ход толькі на дрэнны канец. Спачатку трэба было дзейнічаць хітрасьцю. Я сабраў каманду і даў ей натацыю:

— Мы прайшлі праз мінныя загарадзі, вытрымалі шторм, не загінулі ў лёдзе і сьнезе. Зараз прадстаіць яшчэ адзін іспыт. Самае важнае ў даным выпадку—не нэрвавацца. Першая вахта ў ложкі, другая вахта наверх. Чым менш нас—тым лепш. Кожны павінен мець які-небудзь занятак, ніхто не павінен аглядацца вакол. Ніхто не павінен хадзіць бяз толку па палубе. Самаўладаньне і чыста нарвэскае халоднакроўе!

Крэйсар падымае сыгнал.

— Хлопцы, не старайцеся вельмі хутка разьбіраць сыгнал! Такі нарвэжац, як мы, ня мае добрых бінокляў!

Між тым, у каюце ўсё прыводзіцца ў парадак для прыёму. Матросы—вон, скрынкі—вон, усё яшчэ раз абліваецца вадою, кальсоны разьвешваюцца для прасушкі, дакуманты вымаюцца з мокрай прапускной паперы і раскладаюцца таксама для прасушкі. Адным словам—разгульваецца „вадзяная комэдыя“.

Заставалася яшчэ перадзець „Жанэту“.

Трэба сказаць, што галоўны наш козыр, якім мы разьлічвалі раззброіць ворага, гэта быў пераадзеты у жанчыну матрос. „Дамы“ карыстаюцца асаблівай ласкаю, тым больш з боку ангельскага афіцэра. І калі капітан бярэ з сабой на судно жонку, гэта азначае, што ў яго сумленьне чыстае, што ён не вязе забароненага грузу і ўпэўнен, што жонцы не пагражаюць ніякія няпрыемнасьці. К таму-ж, у Нарвэгіі і іншых краінах прынята, каб капітан браў з сабою ў плаваньне сваю „даражэйшую палавіну“. У нас меўся 18-цігадовы матрос, выгляд якога надзвычайна падыходзіў для жаночай ролі.

Да таго, як ён папаў на судно, гэты матрос наўрад ці думаў, чым выклікана было яго назначэньне на „Марскі Чорт“. Для хлапца былі падрыхтаваны жаночыя плацьці і сьветлаваты парык. Усё было добра: твар і склад цела надзвычайна падыходзіў, адзінае, што кідалася ў вочы, гэта вялікія ногі. Ніяк нельга было дастаць для іх належнага жаночага абутку. Прышлося плацьце пашыць як можна даўжэй, каб захаваць ногі.

„Жанэту“ хутка аснасьцілі, падмазалі яе румянцам і разьмясьцілі на канапе, пакрыўшы ногі плэдам. Побач палажылі яшчэ адну з двух сабачак, якія былі ў нас на судне. Мая „жонка“ выглядала надзвычайна. Усё ўдалося загрыміраваць і зьмяніць, выключаючы голас. Але і тут быў прыдуман выхад. Бачыце, пры зубной болі, чалавеку цяжка гаварыць. Шыя была абхінена шалікам, за шчаку засунута мокрая вата, і вопух быў гатовы. Беднаму хлапцу давялося памучыцца,—шчака надулася гарбом, і выраз твару атрымаўся сапраўды пакутны.

Мы не ўпяршыню атакелажвалі „Жанэту“, яе прыгожасьць была ўжо ўвекавечана фотографам. Картка, пабольшаная да разьмеру портрэту, вісела ў каюце з належным надпісам панарвэску: „Шмат паклонаў,—твая Дагмара. 1914“.

Ангельскаму афіцэру варта было толькі ўзглянуць на портрэт, каб пазбавіць „Жанэту“ ад усякіх няскромных пытаньняў.

Да гэтага часу ўсё ішло добра. Але мы раптам зьвярнулі ўвагу, што ў каюце моцна пахне маторам. Ён перад тым працаваў увесь час, і пах гаручай мешаніны, з прычыны дрэнпай вэнтыляцыі, пранікнуў у каюту. Узамен курыльных сьвечак ці одэколёну прышлося пусьціць у ход газу. Прымусілі яе і лямпу досыць доўга пакапцець. Маторны „дух“ быў заглушан і пазетра напоўнена мешанінаю розных пахаў.

Калі я вышаў зноў на палубу, сыгнал стаў яшчэ больш прыкмецен. Ангелец, мабыць, не хацеў больш чакаць і запаліў нам снарад пад нос. Незразумець гэтага сыгналу было нельга. Мы павольна павярнулі насустрач крэйсару. Гэта быў вялізарны ангельскі крэйсар „Эвэнж“ у 18 тысяч тон. Усе гарматы былі накіраваны ў наш бок; нас разглядалі ва ўсе біноклі. Па мэгафону нам перадалі: „Вы будзеце агледжаны“. Хутка спусьціўся я ў каюту, каб яшчэ раз пераканацца, ці ўсё ў парадку. Мяне хвалявала думка, ці не атрымаў часам супраціўнік шпіёнскіх вестак аб нас, ці не прададзены мы,—вельмі ўжо дзіка было, што нас узялі з крэйсару на прыцэл са ўсіх гармат. На стале ў каюце стаяў каньяк, я глытнуў некалькі разоў і хваляваньне як быццам уляглося. Потым жавальнага тытуню ў рот... і хутчэй назад на палубу! Кожны стары капітан павінен жаваць тытунь, барада яго павінна насіць сьляды табачнага соўсу...

На палубе я прымусіў і сваіх хлапцоў глынуць для ўспакаеньня каньяку.

— Хлопцы, зараз трэба ўзяць сябе ў рукі. Не выглядаць засмучонымі! Мы павінны спаткаць нашага ворага, з якім мы думаем змагацца, з спрыяльным нэўтралітэтам і з-пад нарвэскай маскі бязбоязна глядзець яму ў твар нямецкімі вачыма. Адзін за ўсіх, усе за аднаго! Выконвайце свае ролі, я-ж разыграю старога вопытнага капітана.

У кают-кампаніі былі зроблены ўсе патрэбныя падрыхтаваньні. Грамофон выігрываў популярную ангельскую песеньку—мы хацелі адразу заваяваць сымпатыю ў ворага. Тут-жа на стале быў пастаўлен віскі. Мы мелі на ўвазе, што „Томі“ [1]) адразу

[1]) Жартаўлівае прозьвішча ангельскіх ваенных.

зойдуць у кают-кампанію, і нічога ня мелі-б супроць вітаць іх віскі, каб прытупіць некалькі вастрату іх пагляду. Мы былі дабрадушна настроеныя людзі.

Ад крэйсару адышла шлюпка. Мае матросы захоўвалі раўнадушны спакой і падрыхтавалі з боку канец, каб падаць яго на шлюпку. Шлюпка падышла к борту,—у ёй знаходзілася 2 афіцэры і 15 матросаў. Я накінўся з праклёнам на сваіх хлапцоў, што яны недастаткова жвава рухаюцца. Старому капітану падыходзіць лаяцца, і пры гэтым трэба было, каб ангельцы адразу пачулі нарвэскую мову. Афіцэр, які першы ўвайшоў на палубу, вітаў мяне паангельску:

— Шчасьлівых каляд! Капітан?

— Я і ёсьць капітан, шаноўны афіцэр. (Такі зварот быў больш да месца ў вуснах простага чалавека, чым „гаспадзін афіцэр“).

— Шчасьлівых каляд, капітан!

— О, шчасьлівых каляд, шаноўны афіцэр! Калі вы спусьціцеся да мяне ў каюту, то вы ўбачыце, што гэта былі за шчасьлівыя каляды для нас!

— Ці не папалі ў шторм?

— О, так, мы яго пасмакавалі.

— Бедны, капітан. Мы ў гэты час былі пад аховаю выспаў.

— „Так, падумаў я,—гэта мы ведаем, бо ніводнага з вас не спаткалі ў моры“.

— Я ахвотна паглядзеў-бы вашы паперы, капітан.

Калі мы спусьціліся ўніз (другі афіцэр таксама прывітаўся са мною за руку і пажадаў мне радасных каляд), грамафон заіграў „Тыппэрэры“ [1]). На тварах ангельцаў зьявілася задаволеная ўхмылка, і яны пачалі падпяваць. Атмосфэра як быццам-бы напаўнялася ўзаемнай сымпатыяй. Адразу адчувалася, што судно было добрае.

У каюце прыходзілася нагінацца з-за разьвешанай бялізны, а маторна-прымусная помесь у паветры выклікала ў ангельцаў кашаль. Першы з увайшоўшых афіцэраў заўважыў „Жанэту“.

— Ваша жонка?

— Мая жонка, шаноўны афіцэр.

---

[1]) Баявая ангельская песьня.

Ён выхаван у правілах „сьвету“, і зьвяртаецца да яе са словамі:

— Выбачайце, што я вас турбую, але мы павінны выканаць наш абавязак.

„Жанэта“ працягнула завучанае: „Олл райт“ (добра). Пасьля гэтага афіцэр заўважыў разьбітыя ілюмінатары, макрату ў каюце і кажа:

— Аднаму небу вядома, што за надвор'е вам давялося перажыць, капітан.

— О, не глядзеце на гэта, шаноўны афіцэр, мой столяр усё палечыць. Але што складае маё вялікае гора, гэта мае падмочаныя паперы.

— Ну, ну, капітан, паперы ня могуць быць сухімі, калі ў вас вывернут увесь борт судна. Гэта само сабою зразумела.

— Так, для вас магчыма, але прыдзе другі і будзе лічыць мяне адказным. Бачыце, дакуманты павінны служыць так-жа доўга, як і само судно.

— На гэтае здарэньне ў вас будзе пасьведчаньне ад мяне. Будзьце рады, што ваш карабель ня быў канчаткова разьбіты.

— Я быў-бы вам вельмі ўдзячан, калі-б вы далі мне пасьведчаньне.

Ён выняў з кішэні запісную кніжку, у якой пералічаны ўсе паперы, якія падлягаюць прагляду. Ён ужо аглядзеў нямала караблёў, і ўсё падазронае ў яго адзначана ў кніжцы. З гэтай хвіліны ў яго кніжцы адводзіцца старонка і для „Марскога Чорта“. У гэты час другі афіцэр любаваўся партрэтам караля Эдуарда, ландшафтамі, вывешанымі на сьцяне, і ўшанавальным поглядам параўноўваў портрэт маёй жонкі з арыгіналам. На верхняй палубе хіхікалі матросы і частаваліся віскі. Адзін завозіў грамофон, каб гукі „Тыппэрэры“ ня спыняліся. Даносіўся сьмех і размовы каманды. У гэты-ж час я расьсьцілаў перад афіцэрам адну паперу за другою. Ён чуць глянуў на іх і сказаў мне: „Добра, добра, капітан“. Паміж справай я два разы энэргічна сплюнуў у каюту і працягваў паказваць паперы: „Вось, калі ласка, шаноўны афіцэр, вось яшчэ гэта“. Настрой быў ва ўсіх надзвычайны, усё ішло, як па масьле.

Калі-б гэты чалавек мог дапусьціць, што ён сядзеў на вострых штыкох! Бо ўнізе чакалі мае матросы ў поўным ўзбраеньні.

Побач са мною стаяў мой ад'ютант Прыз, які выконваў ролю першага штурмана,—агромністая, чыста нарвэская фігура. Ён стаяў з сур'ёзным тварам і вельмі добра выконваў сваю ролю.

— Дзе вашы грузавыя дакументы?—запытаўся ангелец.

Штурман не сьпяшаючыся пайшоў і прынёс іх. Для гэтага ён і знаходзіўся тут. Капітан не павінен усё сам рабіць. Гэта былі нашы адзіныя паперы без падчыстак; груз быў падрабязгова абазначан і мелася пасьведчаньне, што ён прыназначан для ангельскага ўраду ў Аўстраліі. Унізе стаяў подпіс. „Джэк Джонсон, брытанскі віцэ-консул“.

— Капітан, вашы паперы ўсе ў парадку.

— Я надзвычайна рад, што мае паперы ў парадку, і вам гэта павінна быць таксама прыемна.

Але тут-жа мяне спатыкае першая няўдача. Ад радасьці я праглынуў жавальны тытунь і адчуваю, як ён папаў у стрававход, і мяне пачынае нудзіць. Мне прыходзіцца змагацца з моцным пазывам ванітаваць, але трэба, каб ангелец нічога не заўважыў—стары нарвэскі капітан ня можа адчуваць марское хваробы. Афіцэр патрабаваў вахцены журнал. Штурман яго прынёс. Ангелец уважліва яго разглядае і зьдзіўлен, што мы тры тыдні стаялі на месцы. Лёс наш пачынае вісець на валаску. Трэба, як-бы там ні было, дабіцца даверра гэтага чалавека, а тут гэта праклятая ўнутраная барацьба з пазывам ванітаваць. Тытунь гатоў вырвацца наверх. Каб адцягнуць увагу, я кажу, зьвяртаючыся да штурмана:

— Такі мехавы каўнер з башлыком, як у афіцэра, варта-б і нам мець супроць холаду.

Ангелец доўга разглядаў вахцены журнал, вывучаючы наш маршрут, зьвярнуў увагу на маторны шпіль, які мы паставілі, і ўрэшце запытаўся:

— Што-ж гэта значыць, чаму вы заставаліся там тры тыдні?

Я адчуваю ўсю жудасьць гэтага пытаньня. Ну, думаю, зараз усё скончана. Мой штурман пасьпявае на ратунак і суха кажа:

— Нас папярэджваў уласьнік карабля ня выходзіць, бо нямецкія дапаможныя крэйсары знаходзяцца ў моры.

Афіцэр задумаўся і зьвярнуўся да мяне з пытаньнем:

— Нямецкія дапаможныя крэйсары? Ці ведаеце вы штонебудзь аб нямецкім флёце?

— Бязумоўна,- адказаў я і думаю пра сябе,—„ну, зараз я грунтоўна залію хлапцу". Хіба вы ня чулі пра „Мэву" і „Марскі Чорт"? 15 нямецкіх падводных лодак знаходзяцца, апрача таго, у моры,—так запэўніваў нас, прынамсі, уласьнік карабля. Мы былі вельмі перапалоханы, бо ў нас ангельскі груз. Таму нас і папярэдзілі аб гэтым.

Другі афіцэр раптам засьпяшаўся. Ён паглядзеў на гадзіньнік і сказаў свайму таварышу:

— Добра, але нам трэба сьпяшацца.

Афіцэр, які праглядаў дакументы, падняўся, захінуў кніжкі і сказаў:

— Добра, капітан, усе паперы ў парадку, але вам прыдзецца пачакаць гадзіну ці паўтары, пакуль вам пададуць сыгнал, што можаце ісьці далей.

Пры выхадзе, афіцэр паказаў на сабаку і заўважыў:

— Выглядае зусім, як нямецкая такса.

Мы падняліся на палубу, ангельцы накіраваліся да шлюпкі. Карыстаючыся спрыяючым момантам, я выплюнуў свой плявальны табак за борт і адчуў ва ўсіх адносінах палёгку. Але самыя сур'ёзныя хвіліны былі яшчэ наперадзе.

„Вы павінны чакаць паўтары гадзіны". Пакуль я праводжу афіцэраў да шлюпкі, хтосьці з каманды злавіў гэтыя словы і кажа ад сябе: „Ну, тады ўсё прапала". Мае людзі, што знаходзіліся ўнізе, з вялікай напружанасьцю чакалі вынікаў агляду і ўважліва прыслухоўваліся да ўсяго, што рабілася наверсе. Пачуўшы воклік—„усё прапала", яны перадаюць яго далей. Чуткі распаўсюджваюцца па ўсяму караблю. Вахценыя ў падрыўных патронаў адважваюцца запаліць бікфордавыя шнуры, разьлічаныя на сем хвілін гарэньня. На верхняй палубе не здагадваюцца, што карабель павінен хутка ўзьляцець у паветра. Наадварот, усе выглядаюць заспакоенымі, бо агляд прайшоў як ня трэба лепш. На разьвітаньні ангельскі афіцэр зноў ціснье мне руку і паўтарае:

Ітак, вы будзеце чакаць сыгналу з крэйсара, каб ісьці далей.

Мой першы афіцэр Клінг, са сваёй чатырохкутняй фігурай і 18 нарвэскімі словамі, якія ён удала камбінаваў, павярнуўся сьпіной да ангельцаў і аддаў загад матросам адносна парусоў. Афіцэры селі ў шлюпку. Але тут нашае становішча стала зноў зацяжным: парусны карабель ня так лёгка ўтрымаць на месцы, як параход, які проста стапорыць машыны,—парусьнік заўсёды будзе мець рух наперад. Шлюпка ангельцаў, якая знаходзілася шчыльна каля борту, не магла адарвацца ад судна, і яе зносіла да кармы. Узьнікла зусім непрадбачаная небясьпека. Вышаўшы за карму, вораг павінен быў заўважыць вінт ад матору. Паруснае судно з вінтом—гэта магло нас выдаць з галавою. Бо ў нашых паперах ня было ўпамянута, што ў нас маецца тысячасільны матор.

У поўнай адвазе, не даючы сабе справаздачы ў сваіх учынках, я пабег да кармы, схапіў першы папаўшыся канец тросу і, размахваючы ім самым нязграбным чынам над галовамі ворагаў, каб прымусіць іх адыйсьці ад борту, закрычаў: „прымеце гэты канец, шаноўны афіцэр!“ У выніку майго манэўру было тое, што ангельцы глядзелі ўверх. Яны не жадалі быць зачэплены па галаве канцом тросу. Погляды былі іх адцягнуты ад борту судна і ад магчымасьці заўважыць вінт. Урэшце, шлюпка аддзялілася і ўзяла ход. Афіцэр падзякаваў мяне яшчэ раз за маю гатоўнасьць дапамагчы і, раззлаваўшыся, што шлюпка не змагла жвавей адыйсьці ад борту, моцна кажа: „у мяне адны дурні ў шлюпцы“.—„Так,—думаю я,—ты праў у гэтых адносінах, ды і сам ты застаўся у добрых дурнях“. Але, у сутнасьці, ён толькі выканаў свой абавязак, і я на яго месцы, напэўна, таксама папаўся-б на вудачку. У далейшым ангельская акадэмія, абгаварваючы пытаньне аб вывучэньні чужаземных моў, абвясьціла, што нам удалося правесьці ангельца толькі дзякуючы іх дзіўнаму няведаньню чужых моў.

Як лёгка ўздыхнуць пасьля таго, як небясьпека мінула! Трэба было хутчэй бегчы ўніз і паведаміць таварышоў, што вораг пайшоў, упаўне задаволены. Бо яны напружана чакалі ў „гэройскім труме“ выніку нашай гульні. Я стукаю каблуком у патаемны люк і крычу: „Адчынеце!“ Ніякага адказу. Я крычу

яшчэ раз: „Адчынеце!“ Урэшце, я чую крыкі: „Адчыніць кінгстоны і клінкеты!“ [1])

Што гэта азначае? Што здарылася? Ашалелі яны? Я крычу яшчэ раз: „Адчынеце, усё ў парадку!“ Урэшце, люк прыладымаецца і адтуль высоўваецца сьмяротна-асавелы твар чалавека, які зараз-жа хаваецца. Пачынаецца ўсеагульная бегатня з носу ў карму і назад па ўсяму караблю. У чым справа? Я нічога не магу зразумець. Усе, аказваецца, бягуць, каб зачыніць кінгстоны і перарэзаць гаручы кнот. Праз тры хвіліны ён павінен быў узарваць судно ў паветра.

Гэта здарэньне паказала, што на вайне раптоўная суматоха можа зруйнаваць найлепшы распарадак. Прычына агульнай суматохі, урэшцэ, высьвятлілася. Дашукваюцца, хто першы падаў вокліч: „Усё прапала“. Вінаваты знойдзен. На прад'яўленыя яму дакоры ён апраўдваецца:

— Ды я-ж уніз нічога ня крычаў, я толькі пра сябе сказаў: паўтары гадзіны чакаць, значыцца, усё прпала. Ангельцы запросяць па радыё ў Кірkваль, ці вышла ў мора „Ірма“, а „Ірмы“ і зусім ня існуе.

У агульным ён быў праў. Паперы былі знойдзены ў парадку,—чаму-ж тады прымушаць чакаць паўтары гадзіны? Мы пасьпяшылі на палубу, наладзілі прыёмнік радыё-тэлеграфнай станцыі і аглядзелі антэну, якая была замаскавана ў такелажы. Трэба было прыслухоўвацца да ўсяго, што перадаецца ў паветры. Пад рукамі сыгнальны звод і бінокль, каб зараз-жа разабраць сыгнал, калі ён будзе паднят на крэйсары. Погляды ўсіх упіваюцца ў ангельца. Хвіліны здаюцца гадзінамі. Урэшце, падымаецца сыгнал. Дрыжучы хапаюцца біноклі, але рукі так дрыжаць, што ўсё двоіцца, троіцца ў ваччу. Здаюцца чатыры крэйсары і некалькі сыгналаў. Урэшце, штурману прыходзіць ідэя абаперці бінокаль аб фальшборт, і яму ўдаецца прачытаць сыгнал:

— „Т. М. В“.

— Штурман, гэтага ня можа быць! Тут, у вусьці, стаіць: „Плянэта“. Бяссэнсіца, прачытайце сыгнал яшчэ раз!

---

[1]) Кінгстон—забортны клапан, які штокам можа апушчацца і падымацца з верхніх палубаў, служыць для затапленьня адсекаў карабля.

Клінкет—задвіжны клапан, служыць для прапусканьня вады ў труме з аднаго адсеку ў другі.

Зноў выпрабоўваецца цярпеньне і ўсе чакаюць, стаіўшы дыханьне.

— „Т. Х. В.“—Працягвайце плаваньне!

— Ратунак!—Мы горача паціснулі адзін другому рукі. Сэрца стукала ад радасьці.

Крэйсар прайшоў міма нас. Біноклі і гарматы ня былі больш накіраваны на „Ірму“. Яшчэ адзін сыгнал узьнят на гафэле—„Шчасьлівага плаваньня“. Мы тры разы адсалютавалі норвэскім сьцягам і ўзьнялі ў адказ: „Дзякую“.

Крэйсар схаваўся з віду. Цяпер можна было сьвяткаваць. Але раней за ўсё трэба было скінуць за борт увесь цяжар лесу. Каманда была высілена ад стомы і бяссонных начэй, але бадзёра ўзялася за работу. Палуба была ачышчана, гармата ўстаноўлена на месцы і зроблен пробны стрэл.

Хутка вецер павярнуўся на поўнач, і мы накіраваліся на поўдзень. Што-б мы маглі ўжыць, каб судно было прызнана падазроным? Мы былі да гэтага падрыхтаваны. Мы ведалі, як ангельцы робяць з падазронымі караблямі. Ангельскі крэйсар пасадзіў-бы да нас прызавую каманду, і я павінен быў-бы весьці „Ірму“ ў ангельскі порт для агляду. Каб у такім выпадку адваяваць судно ад прызавой каманды з найменшым праліцьцём крыві, было абмеркавана наступнае.

Кают-кампанія павінна была ўяўляць сабою скрынку, асобную ад корпусу карабля. Скрынка ўтрымлівалася-б, накшталт ліфту, пры дапамозе гідраўлічнага прэсу. Падлога кают-кампаніі для ўстойлівасьці абапіралася на асобныя жалезныя падстаўкі. У выпадку, калі-б карабель папаў у рукі ворага, прызавая каманда зьмяшчалася-б у гэтай кают-кампаніі. На верхняй палубе заставалася-б 6 ці 7 ангельцаў для нагляду за маёю „норвэскай“ камандаю.

Пасьля таго, як ангельскі крэйсар зьнік-бы з віду, я даў-бы ўмоўны сыгнал: „Прыняць марсэлі, трымацца на курсе!“ У тую-ж хвіліну мае матросы „норвэскай“ каманды павінны былі кінуцца да патаемных дзьвярэй у мачтах і даставаць зброю і абмундыраваньне. Каманда, якая хавалася ўнізе, папярэджвалася пры дапамозе званка. Шляхам простага націску на кнопку кают-кампанія апускалася ўніз са ўсім, што ў ёй зьмяшчалася. Ангельцы папаліся-б у рукі пятнаццаці ўзброе-

ных маракоў. У тую-ж хвіліну рэшта маіх людзей кінулася-б на верхнюю палубу, каб раззброіць ангельскіх вартаўнічых. На носе быў схаваны кулямёт, другі на марсе. Вораг ня змог-бы нам аказаць супраціўленьня, яго справа была-б праіграна. Гэты плян быў вельмі добры, але з тае прычыны, што „Мальлета“ вышла раней часу, мэханізм кают-кампаніі ня быў скончан. Шчасьце наша, што „маскіроўка“ ўдалася.

## Крэйсарства

Пад усімі парусамі і маторам мы накіраваліся на поўдзень да выспы „Мадэра“. Ня гледзячы на вельмі добры дагляд, матор часта заядаўся. Калі судно ідзе пад парусамі, яго заўсёды хіліць на адзін борт. Дзякуючы гэтаму, нацiскныя колцы поршняў мацней сьціраліся з аднаго боку, і кампрэсія[1]) пагоршвалася. Апрача таго, на аддачу матору няспрыяюча рабіла ўплыў дрэнная аліва, якая ўжо раз ужывалася. У Нямеччыне адчуваўся вялікі недахоп у аліве, як і ў многіх іншых матэрыялах. Наша прадпрыемства спатыкала падтрымку толькі ў нямногіх асоб, большасьць-жа адносілася да яго з поўным недавер'ем, і на нас не хацелі рабіць вялікіх выдаткаў. У выніку— мы большай часткаю ішлі з выключаным маторам.

Узбраеньнем мы таксама не маглі пахваліцца. Думалася, што мы будзем нападаць толькі на парусныя караблі. Пагэтаму нам адпусьцілі толькі дзьве старых гарматы. З іх магла быць скарыстана толькі адна. Тут ужо нельга было, бязумоўна, думаць аб гураганным агні. Але затое ўзмоцненай практыкаю мы дамагліся межаў хуткасьці і меткасьці стральбы і, урэшце, уяўлялі сабою нежартаўлівага ворага. Да таго-ж, мы яшчэ ўдала карысталіся ваеннай хітрасьцю. Прытворства і лоўкасьць павінны былі служыць нам галоўнай зброяй.

У нас было два дазорных пасты. Адным з іх служыла бочка з выгодным сядзеньнем, прымайстраваная высока на мачце. Апрача таго, на фор-марсе заўсёды знаходзіўся унтэрафіцэр. Той, хто першы заўважваў карабель,—атрымоўваў бутэльку шампанскага. Дзякуючы такому спаборніцтву, кожны ва ўсю вытарашчваў вочы. Трэба сказаць, што ўся наша

[1]) Сьціканьне паветра ў вальцах матору.

каманда, як на падбор, складалася з людзей з выдатнымі марскімі якасьцямі. Ні адна карабельная работа ня была для яе цяжкай. Усё рабілася хутка і тэрмінова.

## Першы параход

11-га студзеня, на вышыні Гібралтарскае пратокі, быў заўважан з левага борту параход. Агульнае ўзбударажаньне. На параходы мы, уласна кажучы, не павінны былі нападаць. Але многае абяцаеш, чаго выканаць ня можаш. Занадта вяяўнічы дух аўладаў усёй камандай, пачынаючы з апошняга юнгі і канчаючы камандзірам.

Мы ўзьнялі сыгнал: „Прашу паведаміць паказаньне хрономэтра“. Парусны карабель звычайна ня мае дасканалага часу, калі ён доўгі час знаходзіцца на моры. Пакуль што мы выдавалі сябе за норвэжцаў. Усе былі ў вольным адзеньні. Узброеная частка каманды схавалася на палубе за фальшбортамі.

Параход прыблізіўся да нас, падняў—„ясна бачу“ і адказны вымпел. Ён падышоў з наветру, мы не маглі падняцца да яго. Ці ангельскі гэта параход? Назва ня была напісана на борце. Відавочна, гэта быў ангелец. Яны ў часе вайны ўсе сталі безназоўнымі. Па тыпу пабудаваньня ён таксама рабіў уражаньне ангельскага судна.

Ён падыходзіць бліжэй і хоча паведаміць старому заспанаму норвэжцу дасканалы час.

— Ці атакаваць яго?--пытаюся я ў каманды, якая старанна разглядае ворага праз шпігаты.

— Канечна, так! Мы павінны атакаваць яго. Гэта ангелец!

— Падрыхтаваць карабель да бойкі!

Раздаецца гук барабану, кідаецца паўпорцік, што хаваў гармату, сыгнал спускаецца, і пад клёцікам мачты разьвейваецца вайсковы сьцяг. Потым робіцца стрэл пад нос параходу. Урэшце-то, першы стрэл па ворагу!

Параход, мабыць, не разумее ў чым справа і ў адказ узьнімае ангельскі сьцяг. Яшчэ адзін стрэл. Бумссс!.. Тут ён адразу паварочваецца з яўным намерам уцячы ад нас. Новы стрэл вышэй труб, другі зноў такі па носе—і параход спыняе машыны, з яго спушчаюць шлюпку, якая накіроўваецца да нас.

Капітан „Гледыс Рояль“,—так звалі пароход,—паважны сівы чалавек падымаецца да нас на палубу і просіць памілаваць яго стары пароход, які ідзе з грузам кардыфскага вугалю ў Буэнос-Айрэс, нэўтральны порт. У яго там жонка і дзеці.

— Ці думаеце вы, што нямецкі пароход, спатканы тут, атрымаў-бы памілаваньне ад ангельцаў?—пытаюся ў яго я.

Ён тлумачыць, што ня спыніўся па першаму стрэлу таму, што яму здалося, быццам мы стралялі з невялікай марціры,— такі спосаб практыкаваўся раней на караблёх для праверкі гадзіньніку. Пагэтаму ён узьняў брытанскі сьцяг, жадаючы паказаць, што час будзе дадзен шляхам спуску сьцягу, а ня стрэлам. Пры другім стрэле кок на параходзе заўважыў разрыў гранаты і закрычаў, што паказалася нямецкая падводная лодка. Тады была зроблена спроба ўцякаць. Толькі пры трэцім стрэле заўважылі агонь з дула гарматы і разабралі вайсковы сьцяг.

— Клянуся небам—гэта самая лепшая пастка, якую я толькі калі-небудзь бачыў!

Я паслаў капітана назад на пароход і адкамандыраваў з м сваіх матросаў, каб забраць з параходу ўсё найбольш каштоўнае, у асаблівасьці харчы, якія патрэбны былі нам для палонных. Дваццаць шэсьць ангельцаў і чорнаскурых былі перавезены да нас, пасьля чаго пароход стаў пам у кільватэр. Толькі з надыходам вечару былі закладзены ўзрыўныя патроны і пароход узарваны. Мы павінны былі захоўваць асьцярожнасьць і ўлічваць, што дзе-небудзь блізка маглі быць варожыя крэйсары. Праз дзесяць хвілін пароход схаваўся пад вадою. Ён каштаваў шмат больш, чым увесь „Марскі Чорт“. Такім чынам, наша плаваньне пачало спраўджваць сябе.

Ангельскі капітан быў вельмі зьдзіўлен, што яму адвялі прыгожую каюту, але ў той-жа час засмучоны, што ён першым гасьцём у ёй.

— Толькі я адзін?—запытаўся ён няўпэўненым голасам.

Мы абяцалі дастаць яму „кампанію“ ў самым хуткім часе. Наш боцман радаваўся, што, урэшце, ёсьць рабочыя рукі, каб прыбіраць на сярэдняй палубе.

## У Атлянтычным акіяне

Усё казала за тое, што мы знаходзімся ў „добрым“ раёне. Вырашана было працягваць плысьці далей—тым-жа напрамкам на Мадэру. На наступны дзень мы ўбачылі параход, які ішоў нам на перасечку курсу. На нашы сыгналы ён не адказваў. Быў пушчан у ход матор. Мы набліжаемся да параходу. Ён праходзіць наперадзе нас на адлегласьці 300 мэтраў і аказваецца ангельцам. Усе парусы ў нас пастаўлены, вайсковы сьцяг узьнят і раздаецца першы стрэл. Параход працягвае ісьці поўным ходам. Яшчэ стрэл. Ангелец паварачвае на вецер, правільна мысьлячы, што пparticulars паруснае судно ня можа ісьці напроціў ветру. Мы распачынаем шпаркі агонь па параходу і заўважваем шэраг пападаньняў. Адзін знарад разрываецца на палубе. Відаць, як людзі на параходзе бегаюць ўзад і ўпярод, паравы гудок прарэзьліва сьвішча, машыны штапорацца. Штуртрос быў сапсуты знарадам, і руль перастаў дзейнічаць. Гэта быў прыгожы параход „Лендзі Айланд“, які зьвяртаўся да сябе на бацькаўшчыну. Каманда на ім пачала бяз усякага парадку спушчаць шлюпкі. Капітан адзін заставаўся на мосьціку, нарасна спрабуючы што-небудзь ужыць. Урэшце, і ён быў вымушан сесьці ў апошнюю шлюпку і накіравацца да нас.

Выявілася, што капітан Бартон ужо раз страціў параход, які быў затоплены дапаможным крэйсарам „Мэвэ“. Гэта было зараз яго першае плаваньне пасьля вызваленьня з „Мэвэ“. Ён уявіў сабе, што мы яго павесім, бо, будучы першы раз узятым у палон, ён даў падпіску ня прымаць удзелу ў вайсковых опэрацыях. Таму ён і стараўся ўцячы, каб выратавацца ад нас. Ён супакоіўся толькі пасьля таго, як мы яго ўпэўнілі, што дадзеная ім падпіска датычылася толькі вайсковых дзеяньняў, камандаваньне-ж параходам не магло быць пастаўлена яму ў віну. Яго сьмелыя паводзіны, наадварот, былі ацэнены намі па вартасьці.

Параход „Лендзі Айланд“ вёз 4.500 тон цукру з Мадагаскару. З прычыны вільготнага надвор'я параход ня быў узарваны, а затоплен артылерыйскім агнём.

Новым „госьцям“ асабліва абрадаваўся першы наш палоньнік—капітан Чьюн. Каманды абодвух параходаў таксама хутка ў нас пасябравалі. Мы мелі ўжо ў сябе палонных розных рас.

У адзін з наступных дзён, раніцою, мы ўбачылі карабель, які набліжаўся да нас пад усімі парусамі. Гэта быў вялікі трохмачтавы барк [1]). Заўважыўшы нас, ён ганарыста ўзьняў трохколерны сьцяг і запытаўся нас сыгналам: „якія навіны аб вайне?“. Мы падышлі да яго бліжэй, узьнялі ваенны сьцяг і сыгнал: „прывядзеце крута да ветру“. Ён зараз-жа выканаў загад. Наша шлюпка адплыла ад яго і перавезла да нас каманду з барка і яго маемасьць. Судно звалася „Карл Гуно“ і ішло з цяжарам маісу з Дурбана (Паўднёвая Афрыка). Капітан яго зрабіў на мяне прыемнае ўражаньне ня толькі сваёю адукаванасьцю, але, галоўным чынам, тым, як ён адкрыта даваў адчуваць, што бачыць у нас сваіх ворагаў. Ён трымаўся да немагчымасьці корэктна, выказваючы павагу да непрыяцеля, але ў той-жа час ня йшоў ні на якое збліжэньне з намі. Увесь провіянт з „Карла Гуно“ быў перагружан да нас, між іншым, шмат чырвонага віна і тры тлустыя сьвіньні.

Мы працягвалі набліжацца да галоўнага раёну нашай пірацкай дзейнасьці, які быў вызначан у пяці градусах к поўначы ад роўніку і ў 30 градусах заходняй даўжыні. Гэты раён павінен быў быць для нас найбольш спрыяльным. Усе парусныя караблі, якія выходзілі з межаў паўднёва-ўсходняга пасату [2]) і ішлі на поўнач, павінны праходзіць у гэтых месцах.

Першым папаўся тут у нашы рукі ангельскі капітан, які рабіў сваё вясельнае вандраваньне. Мы прынялі спачатку яго трохмачтавую шхуну за амэрыканскую, з тэй прычыны, што ў Амэрыцы любяць гэты тып паруснага судна з косымі парусамі. У той час мы яшчэ не знаходзіліся ў вайне з Амэрыкаю. Таму мы знайшлі патрэбным пакінуць карабель у спакоі, але ўзьнялі толькі норвэскі сьцяг, каб і яго прымусіць паказаць сваю нацыянальнасьць. Капітан шхуны, аднак, не адказваў нам. Мы прыспусьцілі сьцяг і зноў паднялі яго на месца, як-бы у знак прывітаньня. Маладая жонка капітана, убачыўшы

---

[1]) Парусное судно, якое мае дзьве мачты з простымі парусамі і адну бізань-мачту з косымі.

[2]) Вецер, які захоўвае свой напрамак пастаянна на працягу году; спатыкаецца ў Атлянтычным і Ціхім акіянах і бывае паўднёва-ўсходні і паўночна-ўсходні. Раён, што аддзяляе адзін пасат ад другога (каля роўніку), адрозьніваецца поўным адсутнічаньнем ветру і завецца — пасам спакою.

гэта, стала папікаць мужа, што ён парушае правілы міжнароднай павагі, і ўгаварыла яго падняць хоць-бы нацыянальны сьцяг! Мы ўжо думалі пра сябе: „Чорт з ім, з гэтым грубіянам“.—Але ў гэты час з марса пракрычалі:

— Ды гэта-ж не амэрыканец,—ён узьняў ангелькі сьцяг!

Наш настрой адразу перамяніўся. „Права на борт“! Мы былі яшчэ на значнай адлегласьці. „Узьняць ваенны сьцяг!“ „Стрэл пад нос!“ Ніякага ўражаньня. Яшчэ адзін стрэл. Шхуна накіроўваецца па ветры. Гэта быў канадзкі карабель „Пэрсэй“.

Капітан прыняў разрыў першай гранаты, якая кінулася на адлегласьці 500 мэтраў ад карабля, за усплёск кіта і з гэтай прычыны не зьвярнуў на нас патрэбнай увагі. У бінокаль мы заўважылі на шхуне жанчыну, якая ў нэрвовым абурэньні круцілася па палубе. Спачатку мы ня былі абрадаваны тым, што атрымаем на сваё судно прадстаўніцу прыгожага полу. Але ў далейшым павінны былі прызнацца, што гэта маладая жанчына з яе свабоднай вясёласьцю ўнесла прыемную рознастайнасьць у наша жыцьцё. Яна была вельмі сьпешчана, імкнулася да ўсялякіх выгад, але ў той-жа час ня падала духам і глядзела на ўсю прыгоду з спортыўнага пункту погляду.

Мы працягвалі тапіць адно судно за другім, і многа тысяч тон грузу адправілі ўжо на дно марское. У адну прыгожую раніцу вышкі паведамляюць, што за кармою відаць дым. Хутка паказаўся вялікі параход, які ішоў поўным ходам. Пакуль што якое мы прыкідваемся норвэскім судном і, як звычайна, просім паведаміць нам паказаньне хронометру. Параход не дае адказу на наш сыгнал. Капітан яго, як відаць, парашыў што „няхай гэты няшчасны парусьнік ад другіх даведаецца дасканалы час“. Але ў нас былі і другія сродкі зьвярнуць на сябе ўвагу. Мы пушчаем у ход наш дымавы апарат. Густыя клубкі чорнага дыму з чырвоным полымем магнэзіі вырываюцца наверх і робяць уражаньне, што на караблі пажар. Параход падыходзіць да нас; мы паменшваем дым. Аддаецца загад—быць у баявой гатоўнасьці. Трыццаць маіх малайцоў з вінтоўкамі схаваны за фальшбортам. Чэцьвера з нас у цывільным на мосьціку. „Жанэта“ ў белай сукенцы і сьветлым парыку, які ярка блішчыць на праменьнях зваротнікавага сонца, шпацыруе па палубе. На бомбрамрэі, фок, гдот і бізань мачты выпраўлены матросы з мэ-

гафонамі[1]). Мы трымаліся спачатку, як нэўтральнае судно, каб прымусіць параход падыйсьці зусім да нас. Гармата была схавана за сьвіным хлявом.

Калі параход быў у нас на травэрзе, тоўсты капітан яго крычыць:

— Што здарылася з вамі?

Адказу няма. Мы прыкрываем дымовы апарат і пачынаем дзейнічаць.

Раздаецца баявая трывога. Ваенны сьцяг і чырвоны каперскі[2]) вымпел узьвіваецца на мачтах.

Наш карабель быў адзіным, які хадзіў у сусьветную вайну пад пірацкім вымпелам. Гэта — даўжынёю ў мэтр чырвоны сьцяг, на якім намалёван белы чэрап і крыж. „Жанэта“ скідае з сябе жаночае адзеньне, апранутае поверх матроскай голяндкі, і махае сваім парыком.

Агульная паніка на параходзе! Усе крычаць: „немцы, немцы!“ Качагары і машыністы павыбягалі на палубу, усе кінуліся да ратавальных шлюпак, узьнікла нябывалая мітусяніна. Хто-б мог падумаць, што гэты безабідны парусьнік—дапаможны крэйсар! У завяршэньне раздаецца стрэл. Наша старая граната зьбівае антэну бяздротавага тэлеграфу. Параход пазбаўлен магчымасьці скарыстаць радыё. Капітан напружана тузае ручкі машыннага тэлеграфу і грамавым голасам спрабуе камандаваць. Усё напрасна! Машынная каманда ўся на палубе, людзі старанна кудысьці бягуць. У нас узьнікае падазрэньне, што гэта можа быць артылерыйская прыслуга, пасланая да гарматы. Трэба было ў корані зьнішчыць гэту магчымасьць. У гэту хвіліну з нашых мачтаў раздаецца ў мэгафон тры аглушаючых выкрыкі:

— Падрыхтаваць торпэды!

З параходу нясецца ў адказ шматгалосы стогн адвагі:

— Ня трэба торпэд, ня трэба торпэд!

Усё, што было белае на параходзе, абрусы, рушнікі—разьвіваюцца ў паветры, повар махае сваім белым хвартухом.

— Заставайцеся на месцы, інакш выпусьцім торпэды!

---

[1]) Рупар вялікага разьмеру.

[2]) Капер—судно, якое атрымоўвала ад ураду права затопліваць і зьнішчаць варожыя гандлёвыя караблі.

Шлюпка з нашаю прызавою камандаю накіроўваецца да параходу. Цяпер ён у нашых руках. Такі прыгожы параход! Добрыя канапы, крэслы, дарагія прыбраньні, дарагая рояль, фізгармонік,—усё геравозіцца на наш карабель. На параходзе аказалася 2000 скрынак шампанскага і 500 скрынак каньяку. Мы не адкінулі і гэта. Калі ўвесь экіпаж і дарагі груз быў дастаўлены да нас, параход падзяліў лёс сваіх папярэднікаў—пагрузіўся на дно.

Капітан, прыглядзеўшыся ў нас на судне, падышоў дя мяне з пытаньнем:

— Камандзір, гэта старая гармата—усё, што вы маеце?

— Ну, так!

— А вашы торпэды?

— Торпэды? У нас няма торпэд. Для вас хопіць паветраных торпэд, якія мы выстрэльваем на словах.

— Значыцца, ніякіх торпэд?

Яго твар быў вельмі чырвоным і пабляднець ня мог. Ён стаў барвяны, вочы яго спуджана глядзелі на мяне:

— Надта прашу вас, камандзір, не казаць аб гэтым нікому.

Дарога наша ляжала на поўдзень. Была найпрыгажэйшая зваротнікавая ноч. Кучка вясёлых піратаў, задаволеная сваёю здабычаю, сядзела ў цесным коле і піла шампанскае. Неба было ўсыпана зоркамі, месяц абліваў нас срэбраным бляскам, хвалі мякка дакраналіся форштэвэню. Мы ішлі пад усімі парусамі. У сярэдняй палубе іграў оркестр—віолёнчэль, скрыпка, фізгармонік і рояль. Раздаваліся стройныя гукі песьні: „О, дзьмі, прыгожы вецер поўдню“. Акружаныя са ўсіх бакоў ворагамі, мы з вялікім заспакаеньнем удыхалі ў сябе зачараваньне прыроды. Мы пілі асалоду прыгожасьці зваротнікавай ночы. Бо ніхто ня ведаў, што чакае нас на наступны дзень, ці не апынімся мы на глыбіні некалькіх тысяч мэтраў пад вадою. Нашы сродкі абароны былі вельмі нікчэмныя. Бадзёры настрой быў раптам парушан выкрыкам з вышкі: „Агонь па праваму борту“.

К чорту шклянкі! Хутчэй біноклі! Сапраўды, на небасхіле, ярка асьветленым месяцам, віднеўся трохмачтавы парусьнік. Мы паварачваем да яго. Наша судно цяжка было заўважыць—мы знаходзіліся ў цёмнай частцы небасхілу. Вогненнымі ўспышкамі мы сыгналізуем караблю:—„Прывядзеце к ветру. Вялікі нямецкі крэйсар“.

Мы чакаем далейшага ходу рэчаў. Праз некалькі хвілін раздаецца ўсплёск вёсел аб ваду, і з цемнаты зьяўляецца шлюпка, з якой раздаецца выкрык:

— Альлё, капітан! Я думаў, перада мною крэйсар гунаў і бачу зараз таварыша такога-ж парусьніка, як і я. Навошта вы нагналі на мяне такі страх? Вы, мабыць, хочаце расказаць мне навіны з вайны?

— Бязумоўна, так! Калі ласка да нас, у нас шмат навін.

Мы скідаем нашы белыя форменкі, каб яны ня кінуліся яму ў вочы, і спатыкаем яго ў адных нацельных рубашках. Капітан узлазіць да нас на палубу, вітаецца і абвяшчае:

— Я—француз.

— Як прыгожа! Як справы ў Францыі?

— Як ня трэба лепш. Рад вас спаткаць.

Ён з радасьцю прымае нашу прапанову выпіць бутэльку шампанскага і спускаецца з намі ў кают-кампанію. Па дарозе ён хлопае мяне па плячы са словамі:

— Капітан, вы, аднак, суровы чалавек. Навошта вы хацелі разгуляць з мяне дурня? Але я ў вялікім захапленьні, быццам цяжкі камень адпаў ад сэрца!

„Ну—думаў я,—глядзі, як-бы ён удвая цяжэй ня прыціснуў цябе“. Толькі адна пераборка адлучала нас ад таго пакашкання, дзе яму ўсё павінна было стаць зразумелым.

Ён уваходзіць у каюту і ў жудасьці адскоквае назад, калі ўбачыў партрэт Гіндэнбурга на сьцяне. Ён бездапаможна ўвесь зморшчыўся і жаласьліва прастагнаў:

— Немцы!

Мы ўсімі сіламі стараліся яго падбадзёрыць патрэбнымі словамі:

— Марак, ня будзь жабай, ты не адзін, хто згубіў сваё судно ў гэту вайну. Мы самі хіба ведаем, ці будзем заўтра цэлы і не перажывем няпрыемных прыгод?

Але яго нельга было ўцешыць.

— Тое, што я трачу карабель, ня так страшыць мяне, як тыя дакоры, якія я ўправе сабе зрабіць. Я іду з Вальпарайсо, дзе стаяў разам з двума маімі землякамі. Яны папярэджвалі мяне ня выходзіць у мора, пакуль ня прыдзе адказ на іх тэлеграму. У ёй запытвалася, якім курсам трэба ісьці,

каб ухіліцца небясьпекі ад дапаможных крэйсараў і падводных лодак. Замест гэтага я рашыў скарыстаць спрыяючае надвор'е, каб хутчэй вярнуцца на бацькаўшчыну. І вось, у выніку я папаўся да вас у рукі і знаходжуся ў палоне. Калі яны зьвернуцца дамоў, мой уласьнік карабля даведаецца, што я не паслухаўся іх парады, і я ніколі больш не атрымаю судно і камандваньне. Гэта тое, што мяне мучыць.

На маё запытаньне—як зваліся судны, з якімі ён знаходзіўся разам у Вальпарайсо, ён адказвае:

— „Антонін“.

— „Антонін“? Капітан Лякок?

— Ну, але!

— А другое судно?

— „Ларош-Фука“.

— Веставы, прывядзеце сюды капітанаў з № 5 і № 9.

Раздаецца стук у дзьверы.

— Уваходзьце!

— Вось капітан з „Антоніна“, а вось капітан з „Ларош-Фука“. Адзін з іх знаходзіцца ў нас 10 дзён, а другі 3 дні.

Капітан „Дуплекса“ хапае бакал з шампанскім і з натхненьнем чокаецца са сваімі сябрамі. Яны горача ціснуць адзін другому рукі і выражаюць сваю радасьць з прычыны спатканьня. Цяжка сказаць, што яго больш абрадавала, ці само спатканьне, ці тое, што абодвух капітанаў, парады якіх ён не паслухаўся, спаткаў аднолькавы лёс.

У адну нядзельную раніцу паказаўся вялікі ангельскі чатырохмачтавы барк. Спачатку ён спрабаваў трымаць спаборніцтва з намі ў хуткасьці ходу, але калі мы пачалі дапамагаць маторам, ён на сваё зьдзіўленьне павінен быў заўважыць, што мы яго даганяем. На нашае запытаньне ён паведаміў сваё імя—„Пінмор“.

— „Пінмор“?

Судно, на якім я плаваў маладым матросам.

Гэта так глыбока адазвалася на мне, што ў першую хвіліну я нічога ня мог адказаць афіцэру, які чакаў маіх загадаў. Потым я падумаў: „Нічога ня зробіш, судно павінна быць затоплена“. Тапіць парусьнік было для нас усё роўна, як уваткнуць нож у сэрца. На зьмену парусьніка, які гіне, ня будзе пабудован новы!

Юнацкія ўспаміны мільганулі ў маім мазгу. Судно прывяло к ветру. Да яго накіравалася на шлюпцы наша прызавая каманда, перавезла да нас увесь экіпаж судна і найбольш каштоўную маемасьць. Пасьля гэтага „Пінмор“ разьдзяліў лёс многіх другіх парусных суднаў—зьнік у глыбіні мора.

Такая была мая падзяка гэтаму судну, якое мяне надзейна насіла ў буру і стыхійнае надвор'е!

Хутка пасьля гэтага наперадзе паказаўся зноў парусьнік.

Мы шпарка нагналі і падышлі шчыльна да яго. Усе нашы палонныя высыпалі на палубу і з цікавасьцю аглядалі будучых сваіх суседзяў па плаваньню. Капітан парусьніка стаяў побач са сваёй жонкаю і крыкнуў нам у рупар:

— Альлё, ці ёсьць у вас навіны з вайны?

— А як-жа!

— Я ахвотна прышоў-бы да вас на чашку кофэ!—пракрычаў ён потым.

Мы пасьпяшылі адказаць, што запрашаем яго на бутэльку віскі. Убачыўшы зьмяшэньне ўсіх рас сярод нашых шматлікавых палонных, ён запытаўся, ці ня зьбіраем мы ваенна-палонных з Атлянтычных выспаў? Сапраўды, усё ў нас выглядала вельмі страката, музыка іграла „Тыппэрэры“, усе махалі, чым папала, і жэстыкулявалі. Урэшце, ён яшчэ раз крыкнуў:

— Што новага аб вайне?

— Зараз прасыгналізуем.

Мы ўзьнялі сыгнал: „І. Д.“ (Прывядзіце к ветру, ці я буду страляць).

Капітан паглядзеў у бінокаль, потым раскрыў сыгнальны свод; глянуўшы туды, ён хутка ўзьняў зноў бінокаль і ўбачыў нямецкі ваенны сьцяг.

Бінокаль вываліўся ў яго з рук. Вось так пастка!

Нечага сказаць, добранькая навіна з вайны!

Гарматны паўпорцік быў спушчан, і віднелася дула гарматы. Жонка капітана бяжыць у каюту, рулявы ўцякае, усе хаваюцца з палубы ўніз. Толькі капітан захоўвае ўладаньне сабою, прыводзіць судно к ветру і чакае нашых далейшых дзейнічаньняў. Усе нашы палонныя былі ў вялікім захапленьні ўбачыць новых людзей. У асаблівасьці радавалася жонка мала-

дога капітана канадзкай шхуны, што яна ня будзе больш адзінай жанчынай у нас на караблі.

Карабель называўся „Брыціш Юмэн“ і ішоў з Амэрыкі. На ім быў каштоўны груз провіянту—шмат рагатай жывёлы, сьвіней, курэй і г. д.

## Мы адпушчаем палонных

За 8 тыдняў мы патапілі 40 тысяч тон рознага грузу. У нас на судне мелася 263 палонных. Усе адчувалі сябе вельмі добра, ніякіх розьніц не рабілася, харчы палонных былі адны і тыя-ж для ўсіх. Ніводзін палонны не адважваўся пікнуць, хоць мы заўсёды хадзілі бяз зброі.

Пашана, якой карысталася наша каманда, была нашай лепшай абаронай. Але для пракармленьня палонных патрабаваўся провіянт. Нам трэба было ўрэшце спыніць далейшы „прырост насельніцтва“ на караблі. У асаблівасьці давалі сябе адчуваць выдаткі вады, ад запасаў якой залежала наша далейшае крэйсарства. Мы парашылі пагэтаму скарыстаць захопленае намі францускае паруснае судно „Камброн“, каб адправіць на волю нашых палонных. Капітан „Камброна“, даведаўшыся аб гэтай пастанове, быў так зьдзіўлен, што не пасьмеў нават выказаць сваю радасьць. Ен ужо лічыў сваё судно прапаўшым. Для ад'яжджаючых капітанаў быў наладжан „разьвітальны“ полудзень у кают-кампаніі, і мы разьвіталіся найлепшымі сябрамі. Капітанам „Камброна“ я парашыў назначыць быўшага капітана „Пінмору“, як старэйшага і найбольш здольнага марака. Ён быў ангелец, і пагэтаму на „Камброне“ быў узьнят ангельскі сьцяг. Усе палонныя былі перасаджаны на „Камброн“, і яна накіравалася ў Рыо-дэ-Жанэйро. Французы, якіх было большасьць, былі некалькі нездаволенымі, што на „Камброне“ ня быў узьнят іх трохколерны сьцяг.

З гэтай хвіліны нам пачала пагражаць большая небясьпека. Са слоў палонных, што высадзіліся на беразе, вораг павінен даведацца аб нашым існаваньні. З тае прычыны, што мы зараз хацелі працягваць нашу крэйсарскую вайну ў Ціхім акіяне, то трэба было выгадаць час і не дапусьціць, каб „Камброн“ вельмі хутка прышоў у Рыо-дэ-Жанэйро. Дзеля гэтага ўсе стэнгі ў караблі былі сьсечаны. Ён мог ісьці толькі пад

ніжнімі парусамі, і раней, чым у 10—14 дзён не павінен быў дабрацца да Рыо-дэ-Жанэйро. Мы-ж пад усімі парусамі, падганяемыя сьвежым ветрам, пайшлі ў паўднёвым напрамку.

## У Ціхі акіян

Мы засталіся зноў адны на судне, у нашым цесным кругу. Мінуўшы Фальклянддзкія выспы, мы падышлі к мысу Горну. Тут удалося перахваціць радыё брытанскага крэйсара: „Папярэджваю вас: трымайцеся далей ад Фэрнандо Наронха: там знаходзіцца „Мэвэ".

Я падзякаваў за папярэджаньне.

Мыс Горн—бацькаўшчына грозных бур і пастаянных штормаў. Каб мінуць яго, нам давялося тры тыдні змагацца з ярасна̂й стыхіяй. На караблі ішла бязупынная, цяжкая работа. Вялізарныя хвалі, якія можна бачыць толькі каля мыса Горна, перакідаліся праз судно, парусы разрываліся на кавалкі, і палуба некалькі раз прабівалася. Матросы без адпачынку ў сярэдняй палубе ладзілі парусы. Гэта было жорсткае адзінаборства руйнуючай сілы ветру і ліхаманкавай энэргіі людзей. Што за цяжкая работа сшываць іголкаю тоўстую парусіну, калі карабель хістаецца з боку на бок! Тоўстая іголка часта калола рукі. Ночы праводзіліся бяз сну. Парусы былі патрэбны, як-бы часта іх ні зьнішчала бура. Кожную раніцу разарваныя парусы замяняліся новымі, сшытымі за ноч. У часе шторму каманда ня можа, як на параходзе, хавацца на палубы. Наадварот,—яна павінна быць уся наверсе, на мачтах. Нават пры звычайным надвор'і, каб зьмяніць курс на 20 градусаў, уся варта павінна лезьці на рэі, каб управіцца са ўсімі 24 парусамі.

Але дзе ёсьць воля, там існуе посьпех. Мыс Горн быў пройдзен.

Мы былі шчасьлівы пакінуць ззаду сябе гэта бурнае месца. Але новая небясьпека чакала нас. З наглядальнай вышкі заўважылі брытанскі дапаможны крэйсар, адзін з тых, якія былі, мабыць, пасланы лавіць нас. Насталі хвіліны напружанай трывогі. Ці заўважыў ён нас? Усе на верх! Лева на борт—і круты паварот праз фордэвінд. Усе магчымыя парусы былі пастаўлены, уключаны матор і выціснута з судна ўсё, што

магло даць у сэнсе ходу. Такелаж гатоў быў лопнуць На мачтах ва ўсе біноклі наглядаюць за крэйсарам; пульс шалёна б'ецца. Варта крэйсару нас заўважыць і тады—бывай свабода! Нашы вочы аказаліся больш зоркімі і больш вострымі, чым у ворага. Гэта была шчасьлівая гадзіна ў жыцьці нашага судна, калі мы маглі адсьвяткаваць ратаваньне ад ворага. Ноччу мы зноў павярнулі на поўнач і вышлі ў Ціхі акіян. У адну прыгожую раніцу радыё-тэлеграфісты прыняў ангельскае радыё дзіўнага зьместу: „Марскі Чорт" загінуў з разьвінаючымся сьцягам. Камандзір і частка каманды ўзяты ў палон і знаходзяцца ў дарозе ў „Монтэвідэо".

Што гэта магло значыць? Ангелец ня будзе хлусіць бяз усякай мэты. Палонныя, якіх мы адпусьцілі на волю, мабыць, шырока распаўсюдзілі славу аб „Марскім Чорце". Гэта павінна было выклікаць вялікую трывогу ў марскіх колах. Нас пачалі старанна лавіць у мыса Горна і мыса Добрай Надзеі. Параходы з поўным грузам стаялі ў партох Капштадта, Паўднёвай Амэрыкі, Аўстраліі і Новай Зэляндыі і не асьмельваліся выходзіць у мора. Страхавыя прэміі моцна ўзьняліся. Каб іх зноў зьнізіць, ангельцы парашылі паведаміць сьвету па радыё аб нашай гібелі.

Супроць аднаго плугу трэба выстаўляць паўтара. Мы, у сваю чаргу, адправілі радыё: „На дапамогу, на дапамогу—нямецкая падводная лодка". Наша радыё, бясспрэчна, нарадзіла чуткі аб нямецкіх падводных лодках у Ціхім акіяне. Страхавыя прэміі павінны былі зноў палезьці ўгару.

---

Разьдзел III

# Караблякрушэньне

## Крэйсарства ў Ціхім акіяне

Уздоўж берагоў Паўднёвай Амэрыкі, каля выспы Хуан-Фэрнандзец, мы ішлі да Маркізавых выспаў. Да самага Ганалулу ніводнае судно не пападалася нам на спатканьне. Таму было пастаноўлена перанесьці крэйсарскую дзейнасьць на шляхі зносін паміж Сан-Францыско і Аўстраліяй. Недалёка ад выспы Рождзества, на роўналежнасьці роўніку, які часам перасякаўся намі два, тры разы ў дзень, мы затапілі тры амэрыканскіх парусьнікі. Здабыча гэта была невялікая. Часам па цэлых тыднях мы не спатыкалі ніводнага судна. Тры захопленых судны і іх каманды таксама, як і мы, праглі ўбачыць новых палонных. Жудасная сьпякота, недахоп руху ў дзейнасьці, кепская вада і адсутнічаньне сьвежага провіянту— надзвычайна дрэнна ўплывалі на наша самаадчуваньне. На працягу 250 дзён мы ня мелі на судне сьвежай прэснай вады.

Пракрэйсараваўшы 35 тысяч міль, мы на працягу месяцу ня бачылі нічога, апрача неба і мора. Душэўнай бадзёрасьці і энэргіі для працягу крэйсарства было дастаткова, але нас пачаў перамагаць зласьнейшы вораг маракоў—бяры-бяры—сонная хвароба, ад якой „кроў ператвараецца ў ваду". У многіх з нас ад кепскага харчаваньня і недахопу вады апухлі канцовасьці і ўсе суставы. Неабходна было зайсьці на якую-небудзь выспу, каб запасьціся сьвежымі харчамі. Адпачыўшы крыху, мы маглі ўзяцца за крэйсарства вакол Новай Зэляндыі і Аўстраліі і потым перанесьці зноў нашу баявую дзейнасьць у Атлянтычны акіян.

Спачатку мы думалі высадзіцца на адну з вялікіх выспаў Кука. Але гэтую думку прышлося пакінуць—на гэтых выспах

магла быць варожая радыё-станцыя. Прыходзілася адшукваць патрэбную выспу, і мы выбралі выспу Мапэлію з групы выспаў Таварыства.

## Высадка на высьпе Мапэлія

29-га ліпня мы падышлі да гэтай выспы. Перад намі адкрылася цэлая казкавая краіна. Гэта быў сапраўдны рай, абсаджаны высокімі пальмамі і каучукавымі дрэвамі. Каралевыя рыфы, якія абкружалі выспу, спускаліся ўступамі ў мора і адбіваліся ў асьветленай сонцам празрыстай вадзе чароўнымі колерамі. Тысяча пераходаў ад белага да зялёнага, да сіняга, неапісоўнае багацьце і рознавыгляднасьць тонаў! Кольцавыглядны рыф, на частцы паверхні якога ўтварылася выспа, абкружаў сабою лагуна. У гэтай катліне, таксама глыбокай, як і сам акіян, паверхня вады была спакойна, што надавала ёй люстраны выгляд. Гэта была вельмі добра забароненая гавань, але вузкі праход у лагуну ня быў так шырок для такога судна, як „Марскі Чорт“. Прышлося кінуць якар і застацца ў моры пры ўваходзе ў лагуну.

Былі спушчаны шлюпкі. Пасьля 9 месяцаў бяссупыннага прабываньня на караблі мы сябе адчулі як Колюмб. Да чаго мы былі абрадаваны ўсім тым, што ўбачылі на высьпе! Тут гнязьдзіліся мільёны марскіх птушак самых рознавыглядных парод. Вялізарныя чарапахі поўзалі вялікімі кучамі. Вада перапоўнена рыбай. Таксама пападаліся адзічэлыя сьвіньні, якія былі калісьці завезены сюды і карміліся падаўшымі на зямлю какосавымі арэхамі. Вялікай колькасьці сьвежага провіянту мы не маглі і чакаць. На высьпе жылі тры тубыльцы, якіх высадзіла сюды француская фірма для лоўлі чарапах. Мы хутка заслужылі іх даверра, і яны старанна дапамагалі нам у нашай рабоце. Пасьля доўгага нэрвовага напружаньня ў жыцьці на караблі, поўнай непрадбачаных небясьпек, мы сябе адчувалі на высьпе, як на летнім курорце. Францыя, сама таго ня ведаючы, аказвала нам гасьціннасьць на гэтым кусочку зямлі, што ёй належаў. Мае матросы разьдзяліліся групамі і заняліся хто лоўляй рыбы, хто зьбіраньнем птушыных яек і какосавых арэхаў. Адны лавілі лангустаў і чарапах, другія палявалі за сьвіньнямі. Увечары мы зьвярнуліся на карабель перагружаны

запасамі сьвежага харчу. Рыба была пракопчана, мяса чарапах і сьвіней прасолена, тысячы яек перасыпаны вапнаю і запакованы ў скрынкі.

Якарная стаянка нашага судна прыносіла нам спачатку ня мала клапот. Сьмялей здавалася быць у моры на віду выспы, і толькі раніцою і вечарам пасылаць шлюпкі на бераг. Але гэта патрабавала вялікай страты гаручага матэрыялу для матору, які і без таго ня быў у поўным парадку. Прышлося адмовіцца ад гэтай думкі.

## Гібель „Марскога Чорта“

2 жніўня раніцою, у той час, калі шлюпка з камандаю зьбіралася адпраўляцца на бераг, мы зьвярнулі ўвагу, што паверхня мора на небасхіле дзіўным чынам уздуваецца к верху. Што гэта магло значыць? Міраж? Але хутка гэта ўздутасьць мора пачала да нас набліжацца і расьці ў вышыню. Гэта была вялізарная прылiўная хваля—вынік падводнага зямлязрыгу. Некаторы час прайшоў у спрэчках аб прычыне гэтага зьявішча, якое было нам незразумелым. Ніхто да гэтага часу ня бачыў падводнага зямлязрыгу. Небясьпека, аднак, рабілася відавочнай. Была дадзена каманда. „Уключыць матор, абедзьве вахты наверх, з якару зьнімацца!“ Пачалі нагнятаць сьціснутае паветра ў вальцы, але матор не хацеў браць. Усё бліжэй падымалася грозная хваля, але з машыннага аддзяленьня не даносіўся шум работы матору. Страшыдла было ўжо блізка. Першае хваляваньне дакранулася борту. Можна было зьлічыць сэкунды, што засталіся для выратаваньня судна. Усе са страхам прыслухоўваліся да матора. Ой! Позна. Высокай сьцяною падступіла хваля, падхапіла яго, падкінула карабель к верху і з грукатам і трэскам выкінула на каралевы рыф. Мачты разьляцеліся на часткі, ад рыфу адкалоліся вялізарныя каралевыя кавалкі і прыціснулі судно. Калі хваля прайшла, наш горды „Марскі Чорт“ ляжаў кучай абломкаў.

Каралевая скала, на якую мы былі выкінуты, глыбока прасякла ў корпус карабля, мачты абваліліся, увесь рангаут, такелаж і парусы пападалі ўніз. Усе, хто знаходзіўся на палубе, на шчасьце, пасьпелі схавацца пад паўбакам.

Катастрофа здарылася—і зараз нічым нельга было ўжо выратаваць судно. Але мы былі далёка ад таго, каб аддавацца гору і адчаю. Трэба было адразу прымацца за работу—ратаваць харчы і ваду для 105 чалавек. Прыходзілася ўсё пераносіць за 300 мэтраў па глыбокай вадзе, ступаючы пры моцнай плыні па вострых няроўнасьцях каралевага рыфу. Мы часта падалі, і ногі ва ўсіх былі моцна паранены. Але, тым ня менш, працавалі дзень і ноч, і пасьпелі выратаваць ад вады і перанесьці на выспу ўсё неабходнае для жыцьця. Вада ў цыстэрнах аказалася сапсутай, і наша шчасьце, што ўдалося з дапамогаю ўзрыўных патронаў пракапаць калодзезь на высьпе.

## Жыцьцё робінзонаў

Так узьнікла пад пальмамі апошняя нямецкая колёнія. Трэба было зараз прынаравіцца да новага вобразу жыцьця. Выспа служыла прыстанішчам для мільёнаў вялікіх і малых птушак. У некаторых месцах нельга было зрабіць кроку, каб не раздавіць яйка. Варта спужаць чаек,—яны ўзьляталі такімі густымі чародамі, што зацямнялі сонца; птушкі, якія сядзелі на яйках, ні за што не пакінуць сваіх гнёзд, яны хутчэй дазволяць сябе забіць. Толькі стрэламі з вінтовак можна было іх прагнаць. Большасьць знойдзеных намі яек аказваліся звычайна баўтунамі, таму мы абкружылі частку берагу плотам і выкінулі ўсе лежачыя там яйкі ў мора. Ачышчаная прастора зараз-жа прыцягла да сябе вялікую колькасьць чаек, якія чакалі з нецярпеньнем магчымасьці зьнесьці яйкі. Мы хутка назапасілі вялікую колькасьць сьвежых яек. Ноччу, калі раскладвалі кастры, прыпаўзалі на агонь сотнямі і тысячамі вялізарныя ракі-адшэльнікі.

Калі ўся маемасьць з-пад абломкаў судна была перанесена на выспу, прыняліся за пабудоўку жыльля. У першыя дні каманда проста падвешвала свае ложкі пад пальмамі. Але гэта магло скончыцца нярадасна. Какосавыя арэхі падалі ноччу з высаты 15—25 мэтраў каля людзей, якія спалі, і шчасьце, што ні адна з гэтых „вэгэтарыянскіх бомбаў“ ня скінулася каму-небудзь на галаву. Яна-б назаўсёды „захлараформавала“ сьпячага. На зямлі, якая кішэла ўсякімі жывёлінамі, таксама

нельга было спаць. З гэтай прычыны ўсе з вялікай энэргіяй узяліся за будаваньне палатак.

Першая палатка вышла няўдачнай, але кожная наступная ўдавалася лепш. Мы будавалі іх з такім разьлікам, каб на кожную палатку хапала аднаго парусу. Вялікую дапамогу ў гэтай справе аказаў адзін з палонных амэрыканцаў—капітан Пэтэрсэн. Ён са сваёю маладою прыгожаю жонкаю пабудаваў пекную палатку. Усе нашы палаткі былі пабудаваны каля берагу, у адну шарэнгу, побач з шалашамі туземных жыхароў. Утварылася цэлая вуліца, якая была названа Набережнай „Марскога Чорту". Наш лягер падзяляўся на тры кварталы: нямецкі, дзе жылі мы, францускі і амэрыканскі,—у якіх распалажыліся палонныя французы і амэрыканцы. Апрача жылых палатак, былі пабудаваны палаткі для харчу, баявых прыпасаў і зброі, для карт і інструмантаў, вялікі камбуз з вогнішчам і духавой печкай і радыё-тэлеграфная трубка. Яна дастаўляла нам радыё-навіны і замяняла газэту. Апрача таго, была пабудавана кают-кампанія—у ёй была пакладзена нават новая падлога. Каля стала былі прымацаваныя да падлогі крэслы, якія круціліся,—гэта ўсё надавала ёй выгляд карабельнай кают-кампаніі.

У жылыя палаткі была перанесена ўся мэбля з карабля, а падлога была пасыпана дробным белым каралевым пяском. Пасярэдзіне лягеру была ачышчана пляцоўка, на якой вечарамі граў наш оркестр. З карабля быў перанесен невялічкі дызэль-матор і дынамо, якія давалі нам электрычнае сьвятло. Мы мелі ў сваім распараджэньні таксама капцільны апарат, і з дапамогаю какосавых шалупін штодзенна капцілі вялікую колькасьць рыбы. Прыгожы адхонны бераг спускаўся да лагуны. Ноччу быў чуцён прыбой марскога хваляваньня, якое ўкалыхвала нас, быццам калыскавая песьня. У дняўную сьпякоту мы шукалі халадку на ветраным баку выспы, дзе заўсёды дзьмуў мяккі вецер з мора. Многія багатыя людзі за двухтыднёвае прабываньне ў гэтым летнім раю заплацілі-б цэлую маемасьць.

Пасьля дзесяцідзенных будаўнічых работ, зморваючых з прычыны сьпякоты, ідылія была ажыцьцёўлена. Пасярэдзіне лягеру быў падвешан да пальмы наш карабельны звон. Сталі рэгулярна біцца шклянкі [1]) і часам наладжвацца пераклічкі і

---

[1]) Ударамі аб званы паказваць гадзіны.

агляды. На аднэй з самых высокіх пальмаў была пабудавана наглядальная вежа, каб сачыць за ўсімі караблямі, што праходзілі ў моры.

Для поўнага нашага дабрабыту не хапала толькі судна, якое магло-б зноў даць нам сувязь з культурным сьветам. Наш крэйсар ляжаў разьбітым на рыфу, але мы ня падалі духам. Усе нашы надзеі ўскладаліся на ўцалеўшую шлюпку. Большасьці, праўда, здавалася немагчымым пусьціцца ў мора на такой шалупіне і шукаць вялікае судно, каб асьмеліцца яго захапіць. Але пірат падобен гульцу—ён павінен ўсё зноў і зноў спрабаваць шчасьце.

Мы падрыхтавалі мачту, такелаж і парусы, зьвілі ўсе снасьці, абгаблявалі фарбу са шлюпкі, добра агледзелі яе і афарбавалі ў другі колер. 23-га жніўня шлюпка была ўжо зусім гатова. Але нельга было прымаць лёгкадумных рашэньняў. Як мне ні абрыдла быць губарнатарам на высьпе і як мяне ні цягнула зноў у мора, я ня лічыў сябе ўправе рызыкаваць жыцьцём другіх людзей. Мы ўсе аддавалі сабе справаздачу, што прынятае рашэньне, як у ваенных, так і ў спортыўных адносінах—небясьпечней і больш рызыкоўнае, чым усе папярэднія. Наша шлюпка пры самым уважлівым абсталяваньні мела адзін вялізарны недахоп—з прычыны нізкіх бартоў яна пры нахіленьні чарпала ваду. Нам прыходзілася ў далейшым, нават у ціхую пагоду, выбіраць штодзенна да 40 вёдзер вады.

Быў сабраны ваенны савет. Трэба было вырашыць: у які бок накіравацца, як доўга каманда, якая застаецца, павінна чакаць нашага звароту, пад якім дрэвам яна павінна пакінуць нам ліст у выпадку, калі ёй прыдзецца усё-ж пакінуць Мапэлію. Адзін раз у паўгода на выспу заходзіў парусьнік, каб забіраць какосавыя арэхі і чарапах, што назьбіралі туземцы. Мы думалі спачатку прыплыць да выспаў Кука, а калі там не спаткаем падыходны карабель, то ісьці далей да Архіпэляга Фіджы. На жаль, мы ня поўнасьцю падлічылі малую мараходнасьць нашай шлюпкі, інакш мы не адважыліся-б ісьці да гэтых выспаў у верасьні месяцы, калі там пануюць штормы. Мы разьлічвалі праходзіць штодзенна 60 міль, у 30 дзён мы маглі прайсьці усю патрэбную адлегласьць і прыблізна праз тры месяцы зьвярнуцца назад у Мапэлію з захопленым намі караблём.

Шлюпка наша была адкрытая, 6 мэтраў даўжыні; вышыня борту над вадою пасярэдзіне шлюпкі была ўсяго 28 сантымэтраў. Кожны зразумее, што такая шлюпка ў сырое надвор'е мала бараніла ад хваль у адкрытым моры. К таму-ж прышлося загрузіць яе выладаваньнем і правіянтам на некалькі тыдняў плаваньня. Было ўзята некалькі бляшанак соленага мяса і шпіку, але галоўны запас провіянту складаўся з сухароў і вады. Быў таксама ўстаноўлен кулямёт і ўзята дзьве вінтоўкі, некалькі ручных гранат і рэвольвэраў. Навігацыйныя інструманты і сэксан таксама ня былі забыты. Усе, вядома, імкнуліся ўдзельнічаць у гэтай марской экспэдыцыі. Я выбраў пяць чалавек, найбольш моцнага здароўя. На высьпе Мапэлія камандаваньне было перададзена лейтэнанту Клінгу.

Набліжаліся хвіліны разьвітаньня. Яшчэ адно братэрскае пацісканьне рук і ўсё тое, што так востра злучала нас, парвалася ўпяршыню. Толькі зараз мы зразумелі, як блізак быў наш кожны з таварышоў.

## 2300 міль ў адкрытай шлюпцы

Наша новае судно рабіла спачатку пры спрыяючым надвор'і ў сярэднім па 4 вузлы. Курс быў ўзят на выспу Ацію, якая ляжала ў адлегласьці 300 міль. У нас было на 2 месяцы сухароў і запас прэснай вады на 3 тыдні. Шлюпка была да таго перапоўнена, што пралезьці з носу на карму можна было толькі паўзком. Провіянт, фотографічныя апараты, табак і неабходнае дажджавое аддзеньне было ўпакована ў паветраныя камэры па бартох шлюпкі. Ад гэтага роўнае трыманьне шлюпкі на вадзе, бязумоўна, моцна пацярпела. Мелася 4 сяньнікі, так што 4 чалавекі маглі адначасова ляжаць, з іх двое, праўда, толькі ў сагнутым становішчы.

Жудасьней ўсіх гэтых нявыгод была хронічная нястраўнасьць, якою усе пачалі хварэць з прычыны аднолькавай яды і адсутнічаньня руху. Апрача пералічанага грузу, варта ўпамянуць яшчэ вёдры, матор, банкі і інш. Гэта, разам з паветранымі камэрамі, займала ўсю шлюпку. Цяжка нават зразумець, якім чынам удалося ўцісьнуць туды яшчэ 6 чалавек. Для абароны ад дажджу і хваль кругом шлюпкі па планшыры быў прыбіт шырокі брэзэнт. У дрэннае надвор'е ён разварачваўся да сярэдзіны шлюпкі і

зьвязваўся з палотнішчам другога борту. Жалезныя пранты трымалі яго на некаторай вышыні. Бяз гэтай прылады мы часта прамакалі-б наскрозь і, мабыць, патанулі-б.

Рабіць навігацыйныя вылічэньні на нашым судне было надзвычайна цяжка. Карты ня было на чым распасьцерці. Пры самай малой неасьцярожнасьці ўсё ляцела за борт, усе наглядаеньні і вылічэньні прыходзілася рабіць пры калыханьні адзервянелымі рукамі. Нашы мараходныя табліцы, сшыткі, карты, лёгарытмы і кніжкі зьліпаліся ад вільгаці, а вылажаныя на сонцы для прасушкі яны разбухалі, як конскія трупы.

На трэці дзень плаваньня мы падышлі да выспы Ація, бліжэйшай у архіпэлягу Кука, і ўпяршыню ўступілі на заселеную ворагам зямлю. Разам з лейтэнантам Кіргэйсам, у суправаджэньні натоўпу зьдзіўленых тубыльцаў, я накіраваўся да дому брытанскага рэзыдэнта. Губарнатар ляжаў на вэрандзе і не падняўся нам на спатканьне. На яго твары адбівалася задаволеная сьвядомасьць, што большая частка зямной кулі яшчэ, дзякуй богу, знаходзіцца пад уладаю англа-саксаў.

„Мяне завуць Ван-Гутэн,—пачаў я паангельску сваё апавяданьне падазрона прыжмурыўшамуся рэзыдэнту,—а гэта мой старшы афіцэр Соўтхарт. Мы амэрыканцы галяндзкага паходжаньня. Два месяцы таму назад мы ў галяндзкім клюбе ў Сан-Францыско пайшлі ў заклад, што праплывем у адкрытай шлюпцы з Ганалулу, міма выспаў Кука, у Таіці і назад. Сума закладу—25 тысяч даляраў. Мы абавязаны супыняцца ў вядомых пунктах. З гэтай прычыны будзьце так ласкавы даць нам пасьведчаньне, што мы тут былі. Мы жадалі-б таксама атрымаць ваду, консэрваў і сьвежыя фрукты“.

Наша мерапрыемства паказалася губарнатару некалькі рызыкоўным, але твар яго ўсё-ж такі адразу праясьніўся. Ён не пацікавіўся запытацца ні вахценага журнала, ні папер. У якасьці ганаровага брытанца ён так зьневажаў чужаземныя мовы, што прыняў ніжнюю нямецкую гутарку, на якой я перамаляўся з Кіргэйсам, за галяндзкую мову. Ён завёў глыбокадумную размову аб вайне, якую асуджаў. Яна, на яго погляд, служыла на карысьць толькі жоўтай расе.

Праз чвэртку гадзіны да нас далучыўся францускі місыянэр. У поўным захапленьні ад некалькіх францускіх сказаў,

з якімі я да яго зьвярнуўся, ён, у якасьці гарачага патрыёта, запрасіў нас да сябе, спаткаў нас Марсэльезай, выкананай на грамофоне, і як лепш ня трэба пачаставаў. Калі мы зьвярталіся праз вёску да мора, нас з захапленьнем віталі туземныя дзяўчаты і дарылі кветкамі і фруктамі. Я яшчэ раз наведаў рэзыдэнта, каб распытаць яго аб руху караблёў. Прыходу парусных караблёў, на жаль, не прадбачылася, і нам прышлося адкласьці на дзень здабычу судна на высьпе Айтутакі, куды мы і парашылі накіравацца. Пасьведчаньне губарнатара Ацію павінна было нам аказваць добрую дапамогу.

Надвор'е пачало пагаршацца. Бязупынныя дажджы прамачылі ўсё, хвалі пастаянна залівалі шлюпку. Нам прыходзілася калі-ні-калі за гадзіну выкачваць да 250 вёдзер вады. У апошнія 25 дзён нашага плаваньня мы ніколі ня былі сухімі. Сяньнікі, коўдры,—адным словам усё, што ні зьмяшчалася ў бартавых паветраных скрынках, было наскрозь прамочана вадою. Мы мерзьлі, і толькі час-ад-часу маглі адагрэцца гарачым кофэ. Брэзэнтавая страха пачала прапускаць ваду. Пырскі хваль не давалі магчымасьці нічога высушыць.

У Айтатукі мы, на жаль, не засталі шхуны, якую думалі захапіць. Пастаноўлена было ўсё-ж сыйсьці на бераг у надзеі атрымаць весткі аб руху суднаў і правесьці хоць адну ноч у сухім памяшканьні. Неабходна было падмацаваць нашыя аслаблыя сілы. Гэта было 30-га жніўня.

На моле, акружаным вялікай кучай тубыльцаў, мясцовы рэзыдэнт чакаў рэдкіх гасьцей. Наша галяндзкае паходжаньне прышлося перамяніць на нарвэскае, бо тут маглі спаткацца галяндзкія купцы.

Рэзыдэнт, са сваімі пэнснэ на носе, выглядаў быццам прэзыдэнт Вільсон і спаткаў нас з вялікай падазронасьцю. Ён зараз-жа распарадзіўся паслаць да нас на судно для разьведкі нарвэскага столяра. Але мы з ім ажыўлена пагутарылі на яго роднай мове. Столяр поўнасьцю прасякся спачуваньнем да нас. Вільсон прыбег тады да хітрасьці: ён стараўся нас разлучыць, каб ад кожнага з нас у паасобку ўсё разьведаць. Нас пачалі запрашаць па аднаму ў госьці да розных відных асоб высьпы, прапануючы папалуднаваць, прыняць ванную і інш. Адмаўляцца было нельга. Кожны з нас узяў на ўсякі выпадак у

кішэню ручную гранату. Раскласьці нашы рэчы для прасушкі мы таксама не маглі. Тубыльцы акружылі цесным колцам наша судно, нельга было падняць коўдраў, пад якімі была схавана зброя.

Мне давялося палуднаваць у купца Лоў, а Кіргэйсу ў рэзыдэнта. Нашы гаспадары ўвесь час абменьваліся праз слуг якімісьці пісулькамі. Мабыць, яны ўмаўляліся, якія нам задаваць пытаньні і параўноўвалі адказы. Мы адважна стараліся як можна хутчэй злучыцца зноў разам. Па дарозе на судно спаткаўся нарвэскі столяр і папярэдзіў, што нас лічаць за немцаў і хочуць выцягнуць нашу шлюпку на бераг. Было рашано двум з каманды заўсёды заставацца на шлюпцы, і ў выпадку чаго абстраляць прыстань з кулямёту. Тыя, што знаходзіліся на беразе, разьлічвалі прабіцца на судно ўласнымі сіламі. Трэба было яшчэ раз накіравацца к рэзыдэнту за атрыманьнем абяцаемага пасьведчаньня і па дарозе зрабіць закупкі харчу ў мясцовых гандляроў.

Вільсон папрасіў паказаць яму нашы карабельныя паперы і пачаў выпытваць розныя імёны і лічбы. На маё запытаньне, навошта яму гэта ўсё патрэбна, ён растлумачыў, што нас тут прымаюць за немцаў. Сам ён упэўнен, што мы ня немцы, але ўсё-ж хоча заспакоіць насельніцтва. Вільсон хістаўся, мабыць, паміж жаданьнем нас затрымаць і страхам перад узброеным супраціўленьнем з нашага боку. Я намацаў маю ручную гранату, узьвёў у кішэні маўзэр і накіраваўся з рэзыдэнтам у саправаджэньні цэлага наўтопу людзей да нашага судна. На прыстані якісьці высокі чалавек у ангельскай ваеннай шапцы зьвярнуўся да рэзыдэнта з запытаньнем, ці ня варта нас арыштаваць. Я хутка шапнуў тады Вільсону на вуха: „Калі вы толькі згаджаецеся заварваць тут гісторыю, я застрэлю гэтага доўгавязага". Гэта папярэджаньне падзейнічала. Я застаўся сядзець на прыстані, а рэзыдэнт спусьціўся ў шлюпку, каб аглядзець яе і праглядзець наш вахцены журнал.

Вахцены журнал, зразумела, не ўдалося адшукаць. Ці ня выкінуўся ён за борт? Замест яго Вільсону сунулі ў рукі запісную кніжку раней захопленай намі амэрыканскай шхуны, якую мы ўзялі з сабою з прычыны розных географічных вестак, што былі ўпісаны ў ёй. На жаль, у ёй аказаўся таксама

наш хронометрычны сшытак. На першай старонцы чорным шрыфтам было надрукавана „Імпэратарскі флёт“ і намалёван нямецкі арол.

— На якой гэта мове?—запытаўся рэзыдэнт.

— Ня ведаю,—адказаў Кірхгэйс,—мы атрымалі гэты сшытак у Ганалулу.

Вільсон зрабіў від, што паверыў. Было ясна, што ваенная перавага на нашым баку. Праходзячы па шлюпцы, ён прыпадняў край аднае з коўдры і ўбачыў маўзэр. Ён хутка апусьціў пакрывала і сказаў Кірхгэйсу:

— Толькі не паказвайце гэта натоўпу.

Усё было гатова для ўзброенага адпору: кулямёт і стрэльбы былі пад рукамі, ручныя гранаты віселі напагатове, заставалася толькі сарваць іх, як яблыкі з дрэваў. Вільсон станавіўся бялей палатна. Ён нэрвова закрычаў сваім спадарожнікам, якія засталіся на прыстані:

— Тут усё ў поўным парадку!

Я сышоў да яго ў шлюпку.

— Прыкрыйце гэта як найлепш,—сказаў ён, бледны ад страху, паказваючы на ручныя гранаты. Зьвярнуўшыся потым да натоўпу, ён зноў пракрычаў:

— Я нічога не знайшоў, гэта мірныя спортсмэны!

Мы хацелі адплысьці толькі ўвечары, але Вільсон надта прасіў:

— Джэнтльмэны, лепш, калі вы адправіцеся зараз-жа.

Прышлося згадзіцца. Я праводзіў яго на прыстань, пагаварыў з ім яшчэ некалькі часу, каб расьсеяць усе падазрэньні натоўпу, і ўсьлед потым мы адплылі ад прыстані і пакінулі гэту няшчасную выспу.

Зноў у адкрытым моры! 13 дзён нам не давялося бачыць зямлі. Самыя жудасныя мукі чакалі нас у гэтым плаваньні. Бясупынная барацьба са стыхіяй, дні і ночы бяз сну. Пастаянныя клапоты кіраваць шлюпкаю супроць хваль і выліваць вёдрамі ваду. Нам ужо ня суджана было больш высахнуць. Тры дні мы перасякалі вялізарную адлегласьць плаваючай пемзы, якая была выкінута на паверхню вады падводным вульканам. Адсюль пачаўся зямляўздрыг, які паслужыў прычынаю пагібелі „Марскога Чорта“. Гэта пемза прынесла шмат гора. Ра-

зам з хвалямі яна пападала ў шлюпку і пакрывала ўсё хрусьцячым пяском. Усё было наскрозь прамочана вадою, а дождж працягваў ісьці ручаямі. Усё цела вылучала пар ад холаду. Харчаваньнем служылі толькі сухары і вада. Мы былі ў поўным зьнемажэньні. Сяньнікі даўно былі выкінуты за борт, бо яны больш не маглі высыхаць. Днём нас часам прыгравала зваротнікавае сонца, але ноччу адзінай абаронай ад холаду былі мокрыя коўдры.

Запас вады падыходзіў да канца, і мы не маглі поўнасьцю задавальняць смагу. У нас заставаўся яшчэ вельмі добры шпік, але ніхто ня мог да яго дакрануцца ад страху выклікаць яшчэ большую смагу. Сапраўдныя мукі Тантала! Зьбіраць дажджавую ваду ў парус было бязмэтна; уся парусіна была насычана марскою сольлю, як усе іншыя рэчы ў шлюпцы,—вада атрымоўвалася няпрыгодная для піцьця. Мы бесьсвядома прывучалі сябе ссаць пальцы і грызьці рукі, каб асьвяжыць сьлінаю перасохшае горла. Цынга ўсё вастрэй давала сябе адчуваць. Суставы моцна папухлі, асабліва ў каленях. Стаяць на нагах мы ўжо не маглі. Язык распух, дзясны зрабіліся бялей сьнегу, зубы хісталіся і вельмі балелі. Пры гэтым прыходзілася ўсё-ж такі жаваць цвёрдыя сухары! Нясьцерпную боль рабіла калыханьне, ад якога распухшыя суставы на нагах удараліся пастаянна аб барты шлюпкі. Далейшых мук, здавалася, нельга было ўжо вынесьці. Мы самі былі сабе ў цяжар. Поўнае халоднакроўе аўладала намі, сьмерць рабілася жаданай. У галаве адчувалася якоесьці зацямненьне; думкі блыталіся, мазгі сталі бязжыцьцёвы, як клубкі воўны. Сапраўднага сну мы даўно не адчувалі, але ўвесь дзень жылі ў якімсьці забыцьці, як быццам у другім сьвеце. Адна толькі думка зьвязвала нас з жыцьцём—упярод, упярод! Не прапусьціць ніводнага парыву ветру нескарыстаным, ня згубіць ніводнай гадзіны. Кожная хвіліна набліжала нас да адратаваўчай зямлі. І мы працягвалі змагацца. Раніцою на 13-ты дзень паказалася маленькая выспа Нію. Трэба было, як-бы там ні было, дастаць сьвежага харчу, ад гэтага залежала наша жыцьцё. Вялікія натоўпы тубыльцаў чакалі нас на беразе. Мы ня ў сілах былі сыйсьці на зямлю, і знакамі пачалі тлумачыць чорнаскурым жыхаром выспы. Яны з хуткай гатоўнасьцю прынесьлі нам вады і вялікую колькасьць

бананаў. З смагаю накінуліся мы на гэтыя фрукты. Яны больш усяго падыходзілі для нашых слабых зубоў. Падмацаваўшы свае сілы, мы пайшлі далей, імкнучыся ўсе да тае-ж мэты— захапіць якое-небудзь судно.

На 22 дзень нашага плаваньня мы прысталі да аднае з усходніх выспаў архіпэлягу Фіджы—Катафанга і, урэшце, маглі выйсьці на бераг і разьмяць свае ногі, якія аслаблі ад цынгі і рэўматызму.

Адсюль мы працягвалі шлях да вялікіх выспаў Фіджы і падышлі да выспы Вакая. Нас заўважылі з берагу і выслалі на спатканьне парусны бот, думаючы, мабыць, аказаць нам дапамогу, як пацярпеўшым караблякрушэньне. Давялося накіравацца да прыстані. У бухце на якары стаяла шмат караблёў, якія хаваліся тут ад вільготнага надвор'я. Зараз стала ясна, чаму мы ў моры не спатыкалі караблёў. Ітак, мы ў чацьверты раз знаходзіліся на тэрыторыі ворага.

Нас пачалі з цікавасьцю распытваць. Мы хлусілі як маглі. Туземцы аднесьліся да нас даверліва, але адзін мэтыс[1]) настойліва задаваў нам каварныя запытаньні і вельмі лоўка склаў супроць нас загавор. Шторм прымусіў нас застацца на беразе. Я пайшоў з Кірхгэйсам прагуляцца па высьпе, каб абгаварыць наша цяжкое становішча. На спатканьне нам папаўся белы. Ён, як відаць, вельмі сьпяшаўся і чуць адказаў на наша прывітаньне. Як мы ў далейшым даведаліся, мэтыс даў яму знаць, што ён злавіў групу немцаў. Пачуўшы нядобрае, мы зараз-жа зьвярнуліся на прыстань. Тут мы даведаліся, што з гавані толькі што вышаў у мора кацер—ён павінен быў папярэдзіць суседнія ўлады аб нашым прыбыцьці.

К вечару мы задумалі наладзіць папойку з белым і мэтысам, каб разьвязаць ім языкі, для чаго, сьціснуўшы сэрца, ахвяравалі апошнія астаткі рому. Белы не затрымаў нам усё выбалбатаць і пачаў сьмяяцца над мэтысам, што той прыняў нас за немцаў. Мы правялі пасьля гэтага бяссонную ноч і парашылі з раніцы выйсьці ў мора. У 11 гадзін раніцы ўсё было гатова. У гэты-ж час пачалі здымацца з якара і ўсе парусныя караблі. Сардэчна разьвітаўшыся з нашымі гаспадарамі, якія,

[1]) Помесь эўропэйца з індыйцам.

мабыць, забыліся на ўсе свае падазрэньні, мы рыхтаваліся выйсьці з гавані. Але ў гэту хвіліну набег моцны шквал з дажджом; парусныя караблі пачалі паварачвацца назад у гавань, і мы былі таксама вымушаны правесьці на высьпе яшчэ адну ноч. Вечарам у гавань увайшла вялікая двухмачтавая шхуна. Заўважыўшы яе, мы з Кірхгэйсам адразу прынялі пастанову: гэты карабель павінен стаць нашым. Ці захопім мы яго зараз, ці пачакаем да раніцы, калі будзе відна? На ваенным савеце было ўхвалена паслаць спачатку на карабель Кірхгэйса. Ён павінен быў расказаць капітану, што мы амэрыканцы і просім яго прыняць нас пасажырамі. Вышаўшы ў адчыненае мора, мы разьлічылі напасьці на каманду і заўладаць караблём.

Капітан шхуны выказаў сваю згоду і прасіў нас у тры гадзіны раніцы быць у яго на караблі. Уклаўшы рэчы, зброю і наша ваеннае абмундыраваньне ў добра зашнураваныя мяшкі, мы на наступную раніцу пераправіліся на шхуну, з патаемнай радасьцю прагульваліся мы па палубе і разглядалі прыгожа абсталяваны карабель. Як абрадуюцца нашы таварышы на высьпе, калі мы вернемся з такім караблём! Апрача ўсяго іншага, на ім меліся два маторы, што дало-б нам магчымасьць зноў пачаць крэйсарскую вайну. Мы не маглі дачакацца тае хвіліны, калі апошняе зьвяно якарнага ланцуга схаваецца ў клюзе і карабель выйдзе ў мора, а мы зьявімся да капітана ў выглядзе немцаў і паднімем на судне свой сьцяг.

У той час, як мы з радасьцю думалі аб нашым будучым крэйсарстве, здарылася непрадбачанае здарэньне. Вялікі параход увайшоў у гавань. З яго зараз-жа адплыла шлюпка з афіцэрам і тубыльнымі салдатамі. Падышоўшы да нашага судна, афіцэр падняўся на палубу і абвясьціў нас арыштаванымі. Наша новае крэйсарства скончылася, не пасьпеўшы распачацца!

---

## Раздзел IV

# Упалоне

### Турма

Ангельскі афіцэр, даведаўшыся з нашых слоў, што ён арыштаваў камандзіра і частку каманды „Марскога Чорта“, з гордасьцю сказаў нам:

— Вельмі добра, вы склалі сабе імя, вы спаткаеце патрэбныя адносіны да вас. Я—брытанец!

Слова „брытанец“ ён вымавіў з асаблівым націскам. Нас перавялі на параход, які ў той-жа вечар даставіў нас у Суву. Увесь горад быў узварушан. Нас чакаў канвой салдат, пад ахранай якога мы былі адведзены ў начлежны прытулак, збудаваны для тутэйшых тубыльцаў. Увесь дом быў акружан шматлікавай стражай. На першым дапросе я стварыў цэлы роман з мэтай замесьці сьляды нашых таварышоў, якія засталіся ў Мапэлі. Мае таварышы проста адмовіліся даваць якія-б то ні было паказаньні, каб такім спосабам пазьбегчы ўсякіх супярэчнасьцяй. Праз некалькі дзён нас перавезьлі на грузавым аўтомабілі ў сапраўдную турму і рассадзілі кожнага ў асобную камэру. Мы энэргічна протэставалі супроць такога абыходжаньня з ваенна-палоннымі, але начальнік турмы апраўдваўся тым, што выконвае толькі атрыманы загад.

Гэта была колёніяльная турма, прызначаная для тубыльных злачынцаў. На 8 дзень нашага сядзеньня ў турме да мяне ў камэру прышоў комэндант і, стараючыся быць, супроць звычайнага, мілым, абвясьціў, што са мною жадае размаўляць японскі адмірал. Ён просіць мяне прыехаць на крэйсар „Ідзума“, які стаяў на рэйдзе.

У саправаджэньні ангельскага афіцэра і дваіх канвойных мяне даставілі на прыстань, дзе чакаў вэльбот пад японскім сьцягам. Афіцэр, які сядзеў у вэльбоце, падняўся і аддаў мне

чэсьць. Я заняў месца побач з ім. Калі мы падышлі да крэйсара, усе афіцэры былі на палубе, каб прывітаць арыштанта. Адмірал вышаў на спатканьне і пацісьнуў мне руку, гаворачы наступныя словы:

— Я схіляюся прад вамі за тое, што вы зрабілі для свае краіны.

Ён прадставіў мне потым сваіх афіцэраў і сказаў ім:

— Вось той чалавек, за якім мы дні і ночы ганяліся тры месяцы.

Потым, павярнуўшыся да мяне, ён працягваў:

— Я вельмі шкадую, што спатыкаю вас тут ў такім становішчы. Наша агульнае жаданьне было спаткацца з вамі ў сумленным, радасным баі.

Я з свайго боку выказаў спачуваньне, што знаходжуся не ў яго ў палоне. Гэтыя словы яго, мабыць, зьдзівілі. Ён зусім ня ведаў, што мяне трымалі ў звычайнай турме. Мне кінулася, адчак, у вочы, што ў процівагу свайму абыходжаньню са мною японцы надзвычайна холадна і стрымана адносіліся да ангельскага афіцэра. Ангельскія вартаўнікі спрабавалі праводзіць мяне па трапу на палубу, але былі адасланы назад у шлюпку. Адмірал запрасіў мяне ў сваю каюту. Пасьля турэмнай камэры яна паказалася мне палацам. Сыгары, папяросы, портвэйн і бутэлька шампанскага стаялі на стале. Адмірал паказаў мне дзьве японскія кніжкі, адна з малюнкам „Эмдэна“ на вокладцы, другая з „Мэвэ“.

— Гэта ўсё я сам напісаў,—растлумачыў адмірал.—Трэцюю кніжку я хацеў-бы напісаць аб вас. Мы вучымся ў вас, і я пішу для нашага юнацтва. Такі звычай у нашай краіне. Наша моладзь павінна атрымоўваць натхненьне ў тым, што другія людзі робяць для сваёй бацькаўшчыны. Ці не раскажаце вы мне што-небудзь аб вашых паходжаньнях?

— З ахвотаю!

— Але раней за ўсё адно запытаньне: ці вышлі вы са сваім караблём з нэўтральнага порту Злучаных Штатаў, Аргентыны ці Чылі?

— Не, мы прышлі з Нямеччыны. Мы былі замаскаваны пад нарвэжцаў і падлягалі агляду ворага на працягу паўтары гадзін

— Вы былі агледжаны ангельцамі?

— Але, так!

Задаволеная ўхмылка асьвятліла твар камандзіра і старэйшага афіцэра крэйсара, які прысутнічаў пры нашай гутарцы.

За бакалам шампанскага я расказаў адміралу коратка гісторыю „Марскога Чорта“, але пры гэтым усямерна стараўся схаваць месца прабываньня каманды, якая засталася на высьпе Мапэлія, што мне, мабыць, і ўдалося. Японцы засталіся пры пераконаньні, што пасьля пагібелі „Марскога Чорта“ мы перасялі на раней захопленую намі амэрыканскую шхуну „Маніла“, і што яна да гэтага часу дзейнічае ў моры з астатняй часткай каманды.

Разьвітаўшыся з адміралам, я зноў зьвярнуўся ў гарадзкую турму. На гэты раз не надоўга. Праз дзьве гадзіны нас пасадзілі на параход і адправілі ў Новую Зэляндыю, дзе для нас было прыгатавана больш доўгае прыстанішча.

## На высьпе Матуіхі

Было-б горка апавядаць усё тое, што нам давялося перанесьці на параходзе і ў розных этапных пунктах ад бесчалавечай азьвярэласьці акружаўшай нас стражы. Мяне і Кірхгэйса адлучылі ад іншых таварышоў; іх адправілі на выспу Сомэ, а нас дваіх на мінную станцыю ў Дэвонпортэ. Яна складала частку цытадэльных портавых умацаваньняў у Аўклэндзе. Вялікі мінны хлеў быў падзелен на паасобныя клеткі, якія служылі арыштным памяшканьнем для дэзэртыраў. Адсюль нас перавялі на невялікую выспу Матуіхі, што ляжала блізка Аўклэнду. Мы спаткаліся тут з вялікай колькасьцю нямецкіх грамадзян, інтэрнаваных з пачатку вайны. Комэндант лягеру—ангельскі палкоўнік—быў вельмі ўзрадаван, што да яго паступілі, урэшце, сапраўды ваеннапалонныя.

У адну з першых прагулак па высьпе мне кінулася ў вочы прыгожая маторная лодка, якая належала комэнданту. „Гэта лодка будзе маёй“,—падумаў я ў тую-ж хвіліну. Выспа... маторная лодка... і ўсякія іншыя магчымасьці мільганулі ў маім мазгу. Рашэньне было прынята. Але раней, чым што-небудзь ужыць, трэба было вельмі добра агледзецца і асвойтацца са сваім становішчам.

Мы мелі права свабодна гуляць па высьпе, але ў 6 гадзін вечару павінны былі ўсе зьвяртацца ў лягер. Усюды былі расстаўлены вартаўнічыя, і на першы погляд здавалася, што нас вельмі ўважліва ахоўваюць.

Для сур'ёзнай спробы к уцяканьню патрабаваліся вялікія падрыхтаваньні. Цікаваньне маіх землякоў па бацькаўшчыне, што знаходзіліся ў лягеры, было ў мяне аднэй з галоўных перашкод. У асаблівасьці быў небясьпечным адзін аўстрыйска-польскі доктар, вельмі разумны, але апусьціўшыйся чалавек, які паведамляў усё нова-зэляндзкім уладам. Трэба было, раней за ўсё, ублытаць яго ў справу. Ад усіх перанесеных няпрыемнасьцяй і мук па турмах я фізычна вельмі аслаб і меў надзвычайна хворы выгляд. Рэўматызм—адна з тых хвароб, якую цяжка праверыць. Воляю лёсу я пазьбег яе, але хто мог-бы гэта даказаць, калі раптам мне стала сьціскаць усю сьпіну? Магчыма, у мяне быў іншыаз? Аўстрыец, ва ўсякім разе, упаўне прасякся гэтай думкаю. У дажджлівыя дні я зусім ня выходзіў, ляжаў увесь дзень у пасьцелі і стагнаў. У добрае надвор'е я адчуваў сябе лепш. Наш столяр змайстраваў мне пару кастылёў, пры дапамозе якіх я толькі і мог рухацца. Доктар усямерна стараўся палегчыць мае мукі і вельмі часта мазаў мяне ёдам. Комэндант лягеру таксама выказваў свае спачуваньні, але ў глыбіні душы быў рад бачыць мяне ў такім бездапаможным стане. Сваім блізкім сябром ён прызнаваўся: „добра, што ў яго рэўматызм. Гэта небясьпечны тып. Зараз ён, ва ўсякім выпадку, нічога ня можа ўжыць“. Адным словам, мне ўсе паверылі.

Потым я пазнаёміў доктара са сваімі грашовымі справамі, што яшчэ больш узмацніла яго давер'е да мяне. Я яму даў разумець, што чакаю з бацькаўшчыны вялікую суму грошай. Мае землякі, бачачы маё цеснае сяброўства з доктарам, упарта пачалі мяне папярэджваць па яго адрасу. Але я працягваў сваю двайную гульню.

У той-жа час я цішком падшукваў сабе каманду. У лягеры ўтрымліваліся 14 марскіх кадэтаў Паўночна-Нямецкага Лойду [1]). Яны заўсёды трымаліся дружна, былі разам і гарэлі палам да прыгодаў. З іх я намеціў 7 чалавек і пачаў іх па-

[1]) Адна з двух буйнейшых параходных кампаній у Нямеччыне. Галоўны порт Брэмен.

крысе знаёміць са сваімі плянамі. Апрача таго, я ўвёў у курс загавору аднаго радыё-тэлеграфістага Самоа і маторнага інжынэра Фрэйнда, якому комэндант даручыў дагляд за сваёй маторнаю лодкай. Кадэт Паульсэн нёс абавязкі рулявога на гэтай лодцы і, апрача таго, загадваў спажывецкай крамай у лягеры.

Цяпер трэба было падумаць аб тым, як дастаць усё патрэбнае выладаваньне. Мне ўдалося ўгаварыць комэнданта даць дазвол наладзіць на каляды любіцельскі спэктакль. Было вырашана паказаць на сцэне эпізод з Ютляндзкай бойкі і загадзя не гаварыць аб зьмесьце п'есы, каб нечаканасьцю прадстаўленьня ўзмацніць уражаньне для гледача. Усе пачалі ўзмоцнена рыхтаваць сілуэты караблёў, размалёўваць сьцягі, шыць марскія шапкі, рабіць нямецкія какарды і інш.

Кадэты і іншыя ўдзельнікі загавору заняліся больш сур'ёзнай работай. З мармаладных бляшанак былі зроблены ручныя гранаты, начыненыя выбуховай матэрыяй. Яе ўдалося ўкрасьці ў фэрмэра, дзе некаторыя палонныя працавалі па выкарчоўцы дрэў. З старога штурвальскага каляса, брыцьвеннага прыбору і кавалкаў люстры быў зроблен сэктан, які, як у далейшым выявілася, даваў магчымасьць рабіць нагляданьні з дасканаласьцю да 50 міль.

Трэба было паклапаціцца і аб парусе для нашай маторнай лодкі. Кадэт Паульсэн пакідаў у гаспадарчых ордэрах, якія ён даваў на подпіс комэнданту, прапускі. Яны потым запаўняліся. Мы выпісвалі патрэбныя для нас матэрыялы. Іх прысылалі з Аўклэнду. У вялікай колькасьці быў падрыхтаван провіянт, пераважна такі, каторы займаў мала месца. Цішком лавілі мы комэнданцкіх кур, рэзалі і салілі іх мяса. Вялікай прапажы кур доктар прыпісаў прычынаю хваробы, якая быццам распаўсюдзілася сярод іх. Ніхто не зьвярнуў, аднак, увагі, што трупы прапаўшых кур ніколі не знаходзіліся.

Наш будучы парус быў сшыты ў выглядзе тэатральнай заслоны. Выдаткі па наладжваньню любіцельскага тэатру былі пакрыты дабравольнай падпіскай сярод палонных. Аўстрыйскаму доктару было даручана загадваць тэатральнай касай, і ён адносіўся з вялікім імпэтам да збору ахвяраваньняў. У некаторых палонных удавалася дастаць біноклі, гадзіньнікі і выра-

заць з атласу патрэбныя карты. У якасьці зброі былі прырыхтаваны ручныя гранаты і кінжалы. З папярэдняга вопыту мы ведалі, што зброя нам будзе патрэбна толькі для наданьня страху. На гэты выпадак было зроблена некалькі пугачоў і бутафорскі кулямёт з бляхі. Галоўнай нашай зброяй павінны былі служыць нямецкі сьцяг і нямецкая форма адзеньня. Пару сапраўдных вінтовак усё-ж неабходна было дастаць. Нам удалося, урэшце, украсьці іх з лягернага цэйхгаузу.

Але як цяпер перанесьці ўсё выладаваньне ў маторную лодку? Быў сабран ваенны савет. Ухвалена было, што інжынэр Фрэйнд, загадчык маторам, раскажа комэнданту, што лодка дала працёкі і мае патрэбу ў рамонце і ахварбоўцы. Комэндант адразу занепакоіўся і загадаў на наступную раніцу прыслаць салдат і выцягнуць лодку на бераг. Было прыступлена да яе рэмонту, і ў нашым распараджэньні аказалася досыць часу, каб перанесьці і схаваць у лодку ўсю нашу маемасьць. „Жамчужына“,—такая была назва лодкі,—мела 9 мэтраў у даўжыню і была забясьпечана добрым маторам. Уся наша маемасьць, мундзіры і шасьцітыднёвы запас харчу мы схавалі пад рашоткавыя люкі, якія пасьля гэтага шчыльна прыбілі цьвікамі. Комэнданту было растлумачана, што гэта зроблена таму, што люкі кепска трымаюцца і стукаюць у часе плаваньня. Пад відам бітонаў з бэнзынаю была запасена прэсная вада. Бэнзына была таксама дастаўлена ў патрэбнай колькасьці. Лодка была, такім чынам, няпрыкметна нагружана ўсім, чым толькі патрэбна. Па сканчэньні ўсіх работ ангельскія салдаты былі зноў закліканы на дапамогу. Прыгожа размалёваную і нанава адрамантаваную лодку спусьцілі на ваду.

Па меры таго, як нашы падрыхтаваньні набліжаліся к канцу, мой „рэўматызм“ усё больш узмацняўся. Комэндант працягваў выказваць сваё спачуваньне, а ў душы адчуваў вялікае задавальненьне. Усё было так гатова, што заставалася зрабіць агульную праверку ўсяго пляну дзейнічаньня. Сярод белага дню была ўтворана маўклівая трывога. Трэба было пераканацца, што ўсе спрунжыны загавору дзейнічаюць даскана́ла і пагоджана. Па ўмоўленаму сыгналу, удзельнікі загавору накіраваліся па сваіх месцах. Адзін павінен быў выключыць тэлефонныя правады, каб прарваць сувязь выспы з Новай

Зэляндыяй, другі—знаходзіцца ў грабной шлюпцы, каб яе прывесьці ў нягоднасьць і гэтым забясьпечыць сябе ад пагоні, трэці рыхтаваў хурманку як быццам за вуглём, а на самай справе падвозіў пад мяшкамі бэнзыны і г. д. Я сам накіраваўся ў дом комэнданта пераканацца, што там усё спакойна, і ў апошнюю хвіліну, як-бы мімаходам, прайшоў на прыстань, каб быць каля шлюпкі. Пробная трывога была ўтворана ў прысутнасьці комэнданта, і ён нічога не заўважыў. Усе 11 удзельнікаў загавору пры гэтым упяршыню спаткаліся адзін з другім. Да гэтага я звычайна гутарыў з кожным толькі ў паасобку.

На нашу бяду, надвор'е к гэтаму часу пачало псавацца, парусныя караблі не паказваліся ў моры, і нам прыходзілася з дню на дзень адкладаць уцяканьне. Між тым, нашы падрыхтаваньні былі некаторымі заўважаны. Комэнданту падкінулі ананімную пісульку з просьбаю абшукаць маторную лодку. У адзін прыгожы дзень комэндант паклікаў да сябе Паульсэна, якому быў даверан дагляд за лодкаю, і патрабаваў ад яго ключы ад замка якарнага ланцугу і ад каюты. Усё здавалася загубленым. З вялікай цяжкасьцю ўдалося адхіліць і расьсеяць падазрэньні комэнданта. Гэтаму моцна дапамаглі тыя абставіны што незадоўга перад тым я дэмонстратыўна напісаў у Нямеччыну ліст з просьбаю выслаць мне 100 тысяч марак. У лягеры былі наўмысьля распаўсюджаны чуткі аб маім вялікім багацьці, якое дазволіла мне снарадзіць на ўласны кошт усю экспэдыцыю з „Марскім Чортам". Комэндант думаў, што калі я чакаю атрымаць такую вялізарную суму грошай, то, мабыць, не павінен думаць аб уцяканьні. Яго ўдалося пераканаць, што ананімная пісулька напісана па злосьці якім-небудзь зайздросьнікам.

## Уцёкі

13-га сьнежня 1917 году ўцёкі, урэшце, удаліся. Павінна здавацца дзіўным, што нам удалося зьнішчыць падазронасьць нова-зэляндцаў. Яны намі даражылі, як рэдкімі экзэмплярамі, і вартавалі нас самым уважлівым чынам. Было вядома, што я калісьці пачаў сваю марскую кар'еру матросам у Аўстраліі, і таму аўстралійцы мною ў вядомай ступені ганарыліся, а мясцовыя газэты прыпісвалі мне самыя нязвычайныя пахо-

джаньні. Да таго-ж месца прабываньня астатняй каманды „Марскога Чорта“ да гэтага часу ня было вядома. Ня была выключана магчымасьць яе раптоўнага зьяўленьня з мэтай нас вызваліць. Каля тузіны маторных караблёў заўсёды вартавалі водную прастору вакол выспы Матуіхі. Тым ня менш, нам удалося ўзбагаціць ваенную гісторыю гэтага кутка зямлі зусім новай старонкай.

13 сьнежня комэндант з дачкою выправіўся пакатацца на маторнай лодцы. К вечару яго чакалі на высьпе. К моманту яго звароту было парашано ўсім быць напагатове. Кожны павінен быў так ці інакш выбрацца з лягернай агарады, вароты якой у 6 гадзін заўсёды зачыняліся. У гэты час адбывалася іменная пераклічка, пасьля якой ніхто ня меў права пакідаць лягер. У $5^1/_2$ гадзін наш назіральны пост перадаў, што „Жамчужына“ вяртаецца ў гавань. Пад усялякімі відамі мы выбраліся з лягеру на раней назначанае месца. У 6 гадзін матор супыніўся ў прыстані. Комэндант хацеў пакінуць трубача на прыстані, пакуль інжынэр Фрэйнд справіцца прывесьці лодку ў парадак. Але наш ваеннапалонны, быўшы за кучара ў комэнданта, ласкава прапанаваў і трубачу сесьці ў экіпаж, на што комэндант міласьліва згадзіўся. Комэндант быў у добрым настроі і дазволіў таксама кучару зьезьдзіць за вугалем. Той скарыстаў гэты момант для таго, каб прывезьці на лодку поўны запас бэнзыны. Мы ўсе былі ўжо на мясцох. Аднаму з нашых папаўся насустрач наглядальнік. Увесь плян уцёку мог сарвацца, але чалавек ня спужаўся, выбраў патрэбнае месца і зрабіў від, што мае патрэбу да ветру. Наглядальніку надаела чакаць і ён прайшоў міма.

Тэлефонная сувязь была перарвана, грабная шлюпка была прыведзена ў нягоднасьць. Мы ўсе селі ў лодкі і запусьцілі матор. Было яшчэ зусім відна, і мы, можна сказаць, на віду ўсіх прайшлі міма выспы. У гэты момант у лягеры быў час полудню. Калі мы параўняліся з салдацкай казармай, адтуль даносіліся галасы палуднуючых. Мы на ўсякі выпадак выставілі падушкі сядзеньняў, каб захавацца ад куль, калі ў нас будуць страляць, але ніякіх прымет трывогі ня было відна. З моманту звароту комэнданта і да нашага ўцёку прайшло ня больш чвэрткі гадзіны. Маленькі тузік, які ішоў у нас на

буксіры, рабіў цішэйшы ход, і мы яго хутка кінулі аднаго ў моры. Ен паслужыў, як выявілася ў далейшым, першым поваддам да выкрыцьця нашага ўцёку.

Адзін з маіх сяброў, які застаўся на высьпе, наступнымі словамі апісваў у далейшым уражаньне, утворанае ў лягеры нашым уцяканьнем: „Некаторыя з палонных адразу даведаліся аб адбыўшымся ўцёку. У часе полудню ў лягеры панавала глыбокае маўчаньне. Яда ня лезла ў рот. Мы чакалі пачуць стрэлы, але ўсё было ціха. Пасьля полудню многія не змаглі перамагчы свайго хваляваньня і пасьпяшылі ўзабрацца на скалы, але маторнай лодкі ня было ўжо відаць у моры. Хутка прышло паведамленьне, што ў моры плавае тузік, які адвязаўся ад маторнай лодкі. Зараз усім іншым стала зразумела, што нешта няладнае. Шляхам пераклічкі было ўстаноўлена, каго ня стала ў лягеры. Спачатку ўзьнікла думка, што тузік адарвала ветрам і што маторная лодка адправілася за ім ўздагонкі. Так прайшло некалькі гадзін. Позна вечарам комэндант папрасіў пазваць да яго камандзіра „Марскога Чорта“, якога ён хацеў прадставіць сваёй дачцы. Яго, бязумоўна, не маглі адшукаць, але комэндант заспакойваў сябе, што ён, мабыць, зрабіў якую-небудзь прагулку па высьпе.

— Люкнэр вельмі мучыцца ад рэўматызму і ўцякаць ня можа. К таму-ж на маторнай лодцы маецца запас бэнзыны ўсяго на адзін дзень.

Урэшце, комэндант усё-ж парашыў паведаміць па тэлефону ў Аўклэнд аб здарыўшымся. Тэлефон не працаваў! Справа рабілася сур‘ёзьнейшай. Тэлеграф аказаўся таксама сапсутым. Спрабавалі ўвайсьці ў зносіны з Аўклэндам сьветавымі сыгналамі, але з гэтага нічога не атрымоўвалася. Час ішоў, і толькі ў палове першай гадзіне ночы ў Аўклэндзе зьвярнулі ўвагу, што ня быў дан з высьпы звычайны паўночны сыгнал па тэлефону.

Хутка вестка аб уцёку распаўсюдзілася па ўсіх партох. Былі снараджаны ўдагонку маторныя караблі і невялікія параходы, узброеныя кулямётамі. Да іх далучыліся многія спортсмэны са сваімі суднамі. Пачалася агульная суматоха і бесталковая гонка караблёў у заліве Хаўракі. Між тым „Жамчужына“ з уцекачамі ўжо даўно вышла ў адкрытае мора і самым спакойным чынам адпачывала ў адлеглай, схованай ад вачэй

бухце. Усе цешыліся думкаю, што „Жамчужына“ ня можа далёка адыйсьці, і хутка распаўсюдзіліся чуткі, што лодка абярнулася ў моры, і ўсе немцы патанулі.

Для нас—уцекачоў—было нялёгкай задачай, без марской карты і компасу, знаходзіць правільны шлях у вялізарным заліве Хаўрукі. Надвор'е было дрэннае, ноч цёмная. Пасьля гадзіны ночы затока стала асьвятляцца праменьнямі прожэктараў з Аўклэнду, што дало нам магчымасьць выправіць наш курс. Да раніцы мы кінулі якар у добра захаванай бухце выспы Рэд-Мэркуры і заставаліся там схаванымі ўвесь дзень, каб даць улегчыся першаму пылу нашых прасьледвацеляў. З наладжанай на беразе замаскаванай вежы мы назіралі за морам. Параход прайшоў блізка міма выспы, але нас не заўважыў. Пачакаўшы два дні, мы вышлі з прыбярэжных вод у мора. Не пасьпелі мы пакінуць выспы, як каля яе паказаўся ўрадавы параход „Лэдзі Робэртс“. Параход высадзіў каманду, якая ўважліва абшукала ўсю выспу. Адыходзячы ад выспы, параход зачапіў вінтамі за грунт, павінен быў супыніць далейшыя шуканьні і зьвярнуцца ў Аўклэнд. Мы накіраваліся назад у наш прытулак і працягвалі спакойна там заставацца.

### Захоп шхуны „Моа“

На трэці дзень мы ўбачылі ў моры дзьве шхуны. Вырашана было захапіць іх абедзьве. Але калі мы пайшлі на прыступ, падняўся вохкі вецер, і аднэй шхуне ўдалося ўцячы. Гэта адыграла для нас, як мы даведаліся ў далейшым, ракавую ролю. Давялося абмежавацца захопам другой шхуны.

Мы падышлі поўным ходам да борту шхуны і ўзялі яе на абстрэл. З нямецкім сьцягам і зброяй у руках мы ўскочылі на палубу „Моа“ (так звалася шхуна) з моцнымі крыкамі:

— Судно захоплена, вы пад нямецкай уладаю!

Каманда судна была аглушана, як громам.

— Не забівайце нас!

Мы хутка заспакоілі людзей. На палубу выбег кок і пачаў на ломанай ангельскай мове тлумачыць нам:

— Я кок, я рус—рус, мір з Нямеччынай.

Зброя, харч і радыё-прыемная станцыя былі перанесены на шхуну. „Жамчужына“ ўзята на буксір „Моа“ было прыгожае судно, але з вельмі плюскатым дном, усяго 3 футы асадкі, і пры гэтым з вялікай паруснасьцю. Пад вохкім ветрам мы пайшлі да выспаў Кэрмадэк, дзе думалі скарыстаць запасы харчу, падрыхтаванага для пацярпеўшых караблякрушэньне. У наступную ноч разгуляўся шторм. Мы пачалі штармаваць па ветру. Капітан быў у вялікай трывозе. Яго судно ня было прыстасавана для плаваньня ў адкрытым моры, бо ня мела кіля. На погляд капітана, мы аддавалі небясьпецы жыцьцё ўсяе каманды. Давялося растлумачыць, што мы павінны ісьці наперад—на беразе нас чакала яшчэ большая небясьпека, чым у моры.

Капітан усю ноч ня спускаўся ўніз і, каб зьбіць моц хваль, выліваў у мора масла. Бура ўвесь час узмацнялася, хвалі з трэскам разьбіваліся аб карму, судно кідала то ўверх, то ўніз. Давялося зьняць яшчэ частку парусоў і скінуць за борт груз лесу, што знаходзіўся на палубе. Ён рабіўся вельмі небясьпечным. Сарваўшыся ад калыханьня, дошкі маглі перабіць нам ногі і рукі і зруйнаваць усё на палубе. Харчу ў нас запасена было на 6 тыдняў, і мы ахвотна дзяліліся ёй з камандаю „Моа“, у якой запасаў хапіла ўсяго на 3 дні. Нашу „Жамчужыну“ адарвала з буксіру і разьбіла хваляй. Гэта моцна парушыла нашы першапачатковыя пляны. Толькі праз 36 гадзін бура сьціхла.

21-га сьнежня паказалася ўдалі выспа Кэртыс. З яе падымаліся вялікія слупы дыму, якія зблізку аказаліся гэйзэрамі [1]). Выспа, якая ўяўляла сабою кратэры вулькану, была ўся пакрыта астыўшай лавай і ня мела ніякай расьліннасьці. Цёплая вада каля выспы кішэла акуламі, якія сотнямі акружылі карабель. Была спушчана шлюпка, і Кірхгэйс з чатырма нашымі людзьмі накіраваўся на выспу. За імі пацягнулася цэлая працэсія акул—жудаснае відовішча для сядзеўшых у шлюпцы. Чым бліжэй набліжаліся да выспы, тым цяжэй станавілася дыхаць ад газаў. На высьпе аказаўся хлеў, абіты бляхай, і ў ім значная колькасьць скрынак з харчамі і бутэлькамі з прэснай вадою.

---

[1]) Гарачыя крыніцы, якія б'юць высока ад зямлі.

Частка запасаў была пагружана на шлюпку і прывезена на судно. Цяжка нагружаная шлюпка цэлую гадзіну дабіралася да судна, атрымала ўрэшце працёкі і ў поўзатануўшым стане падышла да борту. Чароды акул акружылі яе, з нецярплівасьцю чакаючы здабычы. У скрынках аказалася многа мяса, масла, сала, потым—коўдры, адзеньне, боты, зельле і нават цэлы запасны парус. Трэба аддаць справядлівасьць, што ангельскі ўрад на гэты раз бліскуча паклапаціўся аб уцекачох ваеннапалонных.

Нам не хацелася высаджваць нашых палонных на высьпе, атручанай серкавымі выпарваньнямі, і мы парашылі гэта зрабіць на наступнай высьпе Маколей. Думалася пакінуць ім харч і пры праходзе міма бліжэйшай сыгнальнай станцыі паведаміць аб іх знаходжаньні нова-зэляндзкія ўлады.

У той час, калі мы абгаварвалі гэта пытаньне, з наглядальнага паста перадалі, што к поўначы за выспай Маколей відзён дым.

Тэрмінова была накіравана шлюпка за двума чалавекамі, якія засталіся на высьпе. На „Моа“ былі падняты ўсе парусы, і мы панесьліся на захад. Параход стаў выразьней значыцца на небасхіле і вачавідкі пачаў нас прасьледваць. Мы пазналі ў ім кабельны параход „Ірыс“, які служыў дапаможным крэйсарам. Наш баромэтр пайшоў кнізу.

Наблізіўшыся на адлегласьць бачымасьці сыгналу, параход падняў ангельскі вайсковы сьцяг і якісьці сыгнал. Мы тым ня менш ішлі ранейшым курсам з хуткасьцю 10 вузлоў у гадзіну. Пачыналася свайго роду спаборніцтва ў хуткасьці. Раптам бліснула ў далі вогненная ўспышка, паветра прарэзалася сьвістам, і граната кінулася ў ваду ў невялікай адлегласьці ад борту. Безнадзейная бойка з ворагам, узброеным гранатамі, была-б падобна неразважнаму самазабойству. Мы паднялі ў апошні раз у гэтай палове зямной кулі нямецкі вайсковы сьцяг, і хутка потым наступіла горкая хвіліна здачы ворагу.

На параходзе мяне спаткалі людзі, апранутыя ў цывільнае адзеньне, са штыхамі на-перавес. Ня гледзячы на тое, што я быў у форме, мяне вельмі ўважліва і зьняважліва абшукалі. Протэставаць было бескарысна. Нова-зэляндцы,

былі, як відаць, надта рады, што ім удалося атрымаць уласную „марскую перамогу“. Узяцьце ў палон „Моа“ было ў далейшым урачыста размалёвана ва ўсіх газэтах.

Параход даставіў нас у Аўклэнд. На мачце „Моа“ вышэй нямецкага сьцягу разьвіваўся ангельскі. „Марская бойка ў Кэрмадэкскіх выспах“ была з захапленьнем адсьвяткавана мясцовымі жыхарамі.

## Зноў у турме

У Аўклэндзе нас спачатку адправілі ў гарадзкую турму „Моунд Эдзен“. Тут давялося прасядзець у паасобных камэрах каля трох тыдняў, пасьля чаго мы былі разьмеркаваны па розных лягерах. Мяне і Кірхгэйса накіравалі ў форт Жэрве на высьпе Рывэрэ каля Літлтоўна. Гэта было самае адасобленае месца ў Новай Зэляндыі. Адведзенае нам памяшканьне аддзялялася дашчатым плотам ад іншага цытадэльнага двара. Над плотам была наладжана пляцоўка для вартаўнічага. Кругом і нават зьверху ўсё было абцягнута калючым дротам, так што будынак рабіў уражаньне сапраўднай клеткі. Наша ахова складалася з 45 чалавек. Комэндантам быў майёр Лімінг, тасманец, у вышэйшай ступені добры чалавек. Ён сам сябе адчуваў як-бы палонным на гэтай закінутай высьпе і наколькі мог стараўся палегчыць наша становішча. 119 дзён, праведзеных у гэтай прыморскай цытадэлі, былі вельмі цяжкімі для нас—маракоў. Бачыць заўсёды мора перад сабою, сачыць за паруснымі суднамі, якія праходзілі і будзілі ў нас успаміны аб былым плаваньні на „Марскім Чорце“, і быць у той час зьняволеным у чатырох сьценах сваёй камэры!

Пасьля 4 месяцаў сядзеньня ў цытадэлі нас зьвярнулі назад у лягер ваеннапалонных на высьпе Матуіхі. Большасьць з нашых былых таварышоў па заключэньню спаткалі нас з вялікай радасьцю. Новаму комэнданту было забаронена мець маторную шлюпку. Буксірны параход „Лэдзі Робэртс“, які два разы ў тыдзень прывозіў харч, быў узброен гарматаю і ваеннай камандаю, каб папярэдзіць магчымасьць усякай спробы яго захапіць. Пры выхадзе за межы лягернай агарожы мы павінны былі заяўляцца да каравульнага начальніка і тое самае пры зьвяртаньні. У 6 гадзін усе павінны былі быць на віду ў ля-

геры. Кругом жылых памяшканьняў была пастаўлена высокая агарожа з калючага дроту. Вакол лягеру ноччу запальваліся дугавыя ліхтары. Пасьля заключэньня перамір'я ў лістападзе 1918 году нас яшчэ чатыры месяцы пратрымалі палоннымі ў лягеры і толькі ў ліпні 1919 году я ўрэшце зьвярнуўся на бацькаўшчыну ў Нямеччыну.

### Лёс астатняй каманды „Марскога Чорта“

Застаецца яшчэ сказаць некалькі слоў аб лёсе каманды, якая засталася на высьпе Мапэлія. З шматлікіх радыё, якія ўдавалася перахватваць ім, хутка стала зразумела, што я папаўся ў палон. Яны пачалі непакоіцца, каб іх месца прабываньня ня стала вядомым, і парашылі далей не заставацца на высьпе. Усе энэргічна ўзяліся за будаваньне шлюпкі. Але пры ўсіх стараньнях наўрад ці можна было збудаваць судно, на якім 58 чалавел маглі-б доўга знаходзіцца ў моры.

Аднойчы раніцою перад выспай паказаўся францускі парусьнік. Капітан судна зьвярнуў увагу на касьцяк „Марскога Чорта“, які ляжаў на рыфу, і парашыў, што на высьпе знаходзяцца маракі, пацярпеўшыя караблякрушэньне.

Нашы маракі, убачыўшы парусьнік, які набліжаўся да выспы, вельмі абрадаваліся. „Вось карабель, які нам дапаможа ў справе! Зараз нам больш не патрэбны нашы старыя шалупіны. Зараз-жа была выпраўлена шлюпка з чатырма грабцамі. 6 чалавек, адзетыя ў форменае адзеньне і ўзброеныя да зубоў, ляглі на дно шлюпкі пад бляшанкамі. Капітан парусьніка, убачыўшы прыбліжэньне шлюпкі, абрадаваўся, што ён можа аказаць дапамогу пацярпеўшым ад караблякрушэньня, і зараз-жа падняў францускі сьцяг. Няхай ведаюць, што прышоў сяброўскі карабель, які акажа ўсякую дапамогу! На шлюпцы граблі са ўсіх сіл, адлегласьць хутка скарачалася. Капітан знайшоў патрэбным нават пакрычаць на шлюпку, каб грабцы не выбіваліся з сіл, ён з караблём сам падыйдзе да іх. На судне спушчаецца трап, каб нашыя людзі маглі выгодней узыйсьці на борт. Хутка, як кошкі, узьбягаюць шэсьць нямецкіх матросаў на палубу. Раздаецца крык страху: „немцы, немцы!“ Матросы на судне падымаюць рукі ўверх. Капітан вышаў з сябе ад зьдіўленьня: ён француз і раптам ратуе каго?—нямецкіх матросаў?

— Ну, так, капітан, мы немцы, супроць гэтага нічога ня зробіш, даўно мы ўжо вас чакаем. Там на высьпе знаходзяцца нашы таварышы і яшчэ 27 амэрыканскіх палонных.

— Як, дэсант бошай [1]) на францускай высьпе? І мы хацелі іх выратаваць, за што павінны паплаціцца зараз нашым караблём?

Капітан бачыць, што ролі перамяніліся. Французы высаджваюцца на выспу і павінны, у сваю чаргу, несьці лёс пацярпеўшых ад караблякрушэньня. Нашы перапраўляюцца на карабель. „Лутэцыя“—так звалі францускі парусьнік,—быў пераймянован у „Фортуну“. Лейтэнант Клін прыняў камандаваньне ім. Гэта было ранейшае нямецкае судно, захопленае французамі ў часе вайны. Зараз яно дастаўляла на выспы розныя тавары францускай вытворчасьці. На ім меўся поўны груз рознага роду адзеньня, рэчаў хатняга ўжытку, парфумэрыі, консэрваў, рознага харчу і інш.

5-га верасьня „Фортуна“, узяўшы ўсіх нашых маракоў, вышла ў мора.

4-га кастрычніка „Фортуна“ стала на якар каля Устрычных выспаў. Быў зроблен сякі-такі рэмонт і прыняты сьвежы харч і вада. Пры здымцы з якара судно наскочыла на падводную скалу, не абазначаную на карце, і атрымала настолькі сур‘ёзныя папсаваньні, што было прыведзена ў нягоднасьць. Нашым маракоў прышлося ў другі раз шукаць сабе прытулку.

Жыхары выспаў і мясцовыя прадстаўнікі чылійскага ўраду аказалі ім самую добрую гасьціннасьць. Давялося пражыць тут 4 месяцы. У пачатку 1918 году на выспу зайшло першае судно—чылійская шхуна, якая прывезла розны груз для насельніцтва выспы. Капітан шхуны ўзяў каманду „Марскога Чорта“ і прывёз яе ў Чылі, дзе яна заставалася інтэрнаванай да канца вайны.

---

[1]) Бошы—няпрыемная назва, якой французы у часе вайны пачалі зваць немцаў.

